ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# КААПЭРАЦЫЯ БССР

ЧАСОПІСЬ БЕЛКААПСАЮЗУ і БЕЛСАМПРАМСАЮЗУ

ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У 20 ДЗЁН



10 ліпеня—20 жніўня

№ 6-7



МЕНСК 1930

## ЗЬМЕСТ



Галоўлітбел № 2673. Заказ № 3147—1500 экз. Друкарня „Палесдрук“, Гомель.

# Першая ўсебеларуская—адчынена

10 жніўня працоўныя Савецкай Беларусі, разам са ўсімі працоўнымі Савецкага Саюзу, сьвяткавалі вялікае сьвята перамогі, сьвята сацыялістычнага будаўніцтва. У гэты дзень на тэрыторыі гораду Менску адчынілася першая ўсебеларуская выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці. Там, дзе раней былі лясы, балоты, цяпер вырас цэлы гарадок выстаўкі.

Тысячы працоўных прысутнічалі на адчыненьні выстаўкі. Выстаўка—гэта першая спроба паказаць, што зроблена для пабудовы сацыялізму ў аднэй з рэспублік неабсяжных абшараў Савецкага Саюзу.

Толькі дзесяць год мірнае працы аддзяляюць нас ад тых памятных дзён грамадзянскае вайны, вайны з белапалякамі, з рознымі бандамі, якія імкнуліся пашкодзіць нашаму будаўніцтву, а якія ўжо дасягненьні мы маем пад кіраўніцтвам ленінскай камуністычнай партыі ў нашай прамысловасьці, у нашай сельскай гаспадарцы!

На плошчы 75 гэктараў раскінуліся шматлікія павільёны з рознымі аддзеламі. Кожная галіна прамысловасьці паказвае свае дасягненьні.

Сотні, тысячы экскурсантаў пераварочваюцца за дзень на выстаўцы! З самых далёкіх кутkoў Савецкай Беларусі і СССР прыяжджаюць рабочыя ад варштату, калгасьнікі і адзінаасобнікі—сяляне ад плугу, служачыя розных устаноў, вучні—паглядзець вынікі дзесяцігадовае працы.



Галоўны ўваход на выстаўку

Усё тое лепшае, чаго дабілася БССР за 10 год пасьля вызваленьня ад белапалякаў, убачыць той, хто пабудзе ў новым горадзе выстаўкі. Яна зьяўляецца ня толькі аглядам дасягненьняў, але і самым лепшым агітатарам за тое новае, за якое, закасаўшы рукавы, змагаецца рабочая кляса Савецкай краіны.

П. Бурачэўскі

# Рэарганізацыя апарату спажыўкаапэрацыі Б. С. С. Р.

Пастановай ЦК УсеКП(б) аб рабоце спажыўкаапэрацыі, ад 15/V-30 года, адзначана, што „барацьба партыі за сапраўднае паляпшэньне забясьпячэньня працоўных мас гораду і вёскі, за карэнную перабудову быту працоўных, за падвышэньне ўзроўню рэальнай зарплаты рабочых, за здавальненьне новых запатрабаваньняў, узьнікаючых у сувязі з калектывізацыяй мільёнаў сялянскіх гаспадарак, непамерна павялічваюць адказнасьць сыстэмы спажывецкай каапэрацыі за выкананьне ўскладзеных на яе вялізарных гаспадарчых заданьняў, запраектаваных пяцігодкай“.

Таксама канстатуючы рост па важнейшых галінах працы, ЦК адзначана адставаньне арганізацыйных мэтадаў і тэмпаў працы спажкаапэрацыі ад агульных тэмпаў савецкага будаўніцтва, бюракратызацыі работы, самацёк, адсутнасьць сапраўднага сацспаборніцтва і ўдарніцтва, слабасьць каапэрацыйных кадраў, засьмечанасьць апарату чуждым элемэнтам і г. д.

Па ўсіх зьвеньнях спажсыстэмы за апошнія месяцы шырока і ўсебакова вывучалася і абгаварвалася і на прайшоўшых у ліпені м-цы зьездах спажкаапэрацыі БССР і СССР вырашана пытаньне аб рэарганізацыі яе апарату, форм і мэтадаў працы.

Практычныя мерапрыемствы, на падставе рашэньняў зьездаў, увязваючы з дырэктывамі і мерапрыемствамі па ліквідацыі акруг праводзяцца, а па асобных арганізацыях і галінах ужо праведзены.

Ужо ліквідавана Белрабсэкцыя, якая праводзіла паралельную працу з Белкаапсаюзам, як цэнтрам усяе сыстэмы спажкаапэрацыі. Абслугоўваньне рабочай каапэрацыі праводзіцца толькі Белкаапсаюзам.

Ліквідаваны транспартныя спажывецкія таварыствы, існаваўшыя паралельна з ЦРК, гарПО і спажтаварыствамі ў адных і тых жа раёнах, гарадох, паселішчах. Абслугоўваньне рабочых чыгуначнікаў праводзіцца бліжэйшымі ЦРК, пры чым павінна быць дадаткова вырашана пытаньне аб больш мэтазгодным абслугоўваньні чыгуначнікаў па лініі ў сэнсе прымацаваньня іх да ЦРК альбо РСТ.

Нізавое зьвяно, у сувязі з рэарганізацыяй, замест існаваўшых ЦРК, ТСТ, гарПО, сельПО і райПО,—будуецца па двух асноўных тыпах: а) ЦРК—у індустрыяльных цэнтрах, на буйных новабудовах і ў гарадох са значным лікам рабочых і б) раённае спажывецкае таварыства (у межах адміністрацыйнага раёну)—абслугоўваючае сельскія, мясцовасьці, у тым ліку і рабочых саўгасаў і іншых прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на вёсцы, і гарады, якія ня маюць разьвітай прамысловасьці (з колькасьцю рабочых ня звыш 2.000 чалавек). Выключэньнем з гэтага могуць быць найбольш буйныя саўгасы і прадпрыемствы Цукратрэсту, з колькасьцю рабочых больш 1.000 ч.

Выходзячы з перабудовы нізоўкі з пертварэньнем яе ў буйныя арганізацыйныя і гаспадарчыя адзінкі і пастановы ЦК УсеКП(б) і XVI партзьезду „аб ліквідацыі акруг і аб узбуйненьні раёну, як асноўнага зьвяна сацыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы, што павінна прывесьці к

рашучаму набліжэньню партыйнага і савецкага апарату к вёсцы, калгасу, к массам“—праводзіцца ліквідацыя акруговага зьвяна: акрсаюзаў і адзяленьняў Белкаапсаюзу, якая будзе закончана да 15/IX-30 г. Замест усіх акрсаюзаў і адзяленьняў БКС і іх складаў па ўсіх акругах пакідаецца толькі 3 таварныя базы Белкаапсаюзу ў уваходных пунктах для БССР (Віцебск, Ворша, Гомель). ЦРК і РСТ будуць абслугоўвацца непасрэдна БКС. Для забесьпячэньня непасрэднага атрыманьня спажтаварыствамі ад прамысловасьці тавараў ствараюцца прыстанцыённыя перавалачныя таварныя склады РСТ. У сувязі з ліквідацыяй акруговых зьвеньняў і стварэньнем раённых спажтаварыстваў забясьпечваецца транзытны завоз тавараў непасрэдна ў нізоўку ў разьмеры 80-85 проц., замест 10-20 проц., скарачэньне шляхоў перасоўваньня, паскарэньне таваразвароту, скарачэньне таварных астаткаў, скарачэньне апэрацыйнага і склад. апарату ў акругах і спэцыяльных кадраў закупшчыкаў у раёнах, якія працавалі не на мясцох, а знаходзіліся ў вагонах, на падводах ці ў акруговых цэнтрах. Усё гэта дасьць магчымасьць наблізіць апарат да спажыўца, палепшыць яго абслугоўваньне, лепш разьмяркоўваць і скарыстоўваць работнікаў сыстэмы і значна скараціць выдаткі па таварапрасоўваньню: „дабіцца павышэньня рэнтабельнасьці ў гандлёвай рабоце СК, з устанаўленьнем нармальнага прыбытку за лік рацыяналізацыі, скарачэньня накладных і гандлёвых выдаткаў, барацьбы са стратамі і хішчэньнем, але не за лік павялічэньня цэн на тавары“ (пастанова ЦК УсеКП(б) ад 15/V-30 г.).

Стварэньнем райПО, ліквідацыяй акруговых зьвеньняў і ўстанаўленьнем непасреднай сувязі паміж нізавым і цэнтральным апаратам таксама забяспечваецца выкананьне пастановы 16-й партканфэрэнцыі аб „дэцэнтралізацыі апэрацыйных функцый, пры адначасовым захаваньні і паляпшэньні цэнтралізаванага кіраўніцтва ў галіне плянаваньня фінансаў і гандлю, паляпшэньне манеўранай здольнасьці гандлёвай сыстэмы пры сапраўдным скарачэньні перадатачных зьвеньняў“.

Існаваньне шматлікіх зьвеньняў спажкаапэрацыі і грамоздкасьць яе структуры апраўдвалася толькі ў першапачатковы арганізацыйна-адбудоўчы пэрыяд. На даным этапе існаваньне арганізацыйных форм спаж. каапэрацыі фактычна тармазілі выкананьне стаячых перад ёю задач.

Рэарганізацыя спажкаапэрацыі і яе працы па арганізацыі таварапрасоўваньня ў раённую нізоўку стала магчымым у выніку вялізарнага гістарычнага пераломy, якога дабілася партыя і рабочая кляса ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі, — „рашучага павароту серадняцкіх мас да сацыялізму“ (з паст. XVI партзьезду).

Структура і сыстэма кіраўніцтва ЦРК і рабкаопаў павінна праводзіцца на наступных падставах: а) цэнтралізаваным плянаваньні, даводзеньні ўсіх асноўных паказчыкаў пляну да аддзяленьняў і магазынаў, з устанаўленьнем сапраўднага кантролю над выкананьнем плянаў; б) перанясеньні кіраўніцтва сеткай буйных ЦРК з цэнтральнага апарату ў раённыя (куставыя) кіраўніцтва; в) вылучэньні асобных буйных прадпрыемстваў і вытворчых функцый на самастойны балянс, дробных-жа—на справаздачнасьць па асноўных паказчыках магазыннага гандльфінпляну; г) павялічэньні правоў і адказнасьці нізавога пэрсаналу; д) увядзеньні адзінаначальля ва ўсіх зьвеньнях ЦРК; е) ажыцьцяўленьні выбарнасьці ў адносіне адказных працаўнікоў (дырэктары кустоў, заг. магазынаў, заг. аддзяленьняў, інструктары і г. д.).

Па галіне будаўніцтва гандлёвай сеткі, у сувязі з абмяжаванасьцю вялікіх капіталаўкладаньняў на гэтую мэту, неабходна максімальна скарыстоўваць гатовыя памяшканьні, разгортваць ларкі і палаткі,

выдзяляць неабходныя плошчы пры пабудове новых жылых дамоў, сваячасова ажыцьцяўляць новае будаўніцтва ў межах кантрольных лічб, разгортваць гандлёвую сетку на камісіёных пачатках (у вёсцы) пад кантролем каапэрацыйнай грамадзкасьці, зачыненыя разьмеркавацелі ў невялікіх камунах, калгасах, арганізоўваць развозны гандаль і г. д.

Выходзячы з асаблівасьці жыцьця і вучобы частак Чырвонай арміі і неабходнасьці забесьпячэньня патрэб вайсковага спажыўца, пры Белкаапсаюзе арганізуецца спэцыяльная асобная ячэйка.

Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на ўзмацненьне ўнутрыкаапэрацыйнай дысцыпліны і адказнасьці ніжэйстаячых арганізацый і пэрсанальна іх кіраўнікоў перад вышэйстаячымі. Дырэктывы вышэйстаячага зьвяна павінны зьяўляцца для ніжэйстаячага абавязковымі з адказнасьцю за іх выкананьне.

Перад спажыўкаапэрацыяй, дасягнуўшай значных посьпехаў у напрамку арганізацыйнага ахопу сапраўдных мас, стаіць задача пагалоўнага каапэраваньня дарослага насельніцтва гораду і вёскі. Аднак ленінскі лёзунг „сапраўдны ўдзел сапраўдных мас насельніцтва у каапэрацыйным будаўніцтве“ выконваецца яшчэ дрэнна. Грамадзкая самадзейнасьць, актыўнасьць і сувязь з масамі ажыцьцяўляецца зусім слаба.

Бюрократызацыя каапапарату, прарывы на важнейшых вучастках, клясавыя скрыўленьні, праявы правага ўхілу і прымірэнцтва да яго, засьмечанасьць кадраў чужымі элемэнтамі патрабуюць разгортваньня каапграмадзкасьці і пасіленьня грамадзкага кантролю.

Асаблівую ўвагу на разгортваньне масавай работы ў каапэрацыі павінны зьвярнуць праф. саюзы.

У суадпаведнасьці з рашэньнямі зьездаў спажыўкаапэрацыі вызначана і праводзіцца рэарганізацыя форм і мэтадаў грамадзкага кантролю і каапактыву. Існаваўшыя інстытуты і сходы ўпаўнаважаных замяняюцца па ўсіх зьвеньнях каапэрацыйнымі зьездамі, склікаемымі ня менш аднаго разу ў год для абгаварэньня і вырашэньня ўсіх важнейшых пытаньняў каапрацы. Паміж зьездамі ў ЦРК і РСТ павінны склікацца каап. канфэрэнцыі. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на правядзеньне агульных сходаў пайшчыкаў па заводах, фабрыках, установах, асобных буйных дамох, вучастках паселішчах, саўгасах, калгасах і г. д., якія зьяўляюцца важнейшай формай пагалоўнага ўцягненьня пайшчыкаў у абгаварэньне мясцовых і агульных пытаньняў каапбудаўніцтва. Вучастковыя сходы пайшчыкаў павінны праводзіцца ня менш аднаго разу ў квартал.

У мэтах пасіленьня сувязі з масамі неабходна па ЦРК і РСТ пашырыць выбарны склад кіруючых і кантрольных органаў за лік рабочых з вытворчасьці, калгаснікаў, батрацтва і беднаты. Пленумы праўленьняў ЦРК і РСТ павінны склікацца ня менш аднаго разу ў месяц. Для бягучай працы выдзяляецца прэзыдыум праўленьня. У БКС абраны савет, прэзыдыумам якога зьяўляецца праўленьне БКС.

Асноўнымі формамі грамадзкага кантролю павінны быць: а) рабочае шэфства ўгарадох, саўгасаў і калгасаў на вёсцы, б) рабочыя праверачныя брыгады і в) рэвізійныя камісіі.

Асноўнымі формамі каапактыву зьяўляюцца: а) каапбюро на буйных, альбо каапарганізатар на дробных прадпрыемствах, б) раённыя і ўчастковыя каапбюро і каапарганізатары пры прадпрыемствах, паселішчах, калгасах, саўгасах, в) крамныя і іншыя камісіі пры каап. прадпрыемствах, г) грамадзкія інструктары і кантралёры. Работа каапбюро арганізуецца па сэктарах (культбытавы, арганізацыйны, кантрольны і інш).

У большай меры работа каапэрацыі павінна асьвятляцца ў дру-

ку, павінны ставіцца спэцыяльныя даклады на сходах і г. д.

Неабходна ўжываць у працы каапэрацыі „грамадзкі буксыр“ па падцягваньню адстаючых каапарганізацый і прадпрыемств, бяручы на буксыр рабочымі каапэратывамі асобныя РСТ і прадпрыемствы.

Выкананьне ўскладзеных партыяй на спажыўкаапэрацыю задач—стаць сапраўдным рычагом сацыялістычнай рэканструкцыі—патрабуе ўзмацненьня яе кадраў па асобных зьвеньнях, што ў сувязі з рэарганізацыяй і пераразьмеркаваньнем работнікаў, атрымоўвае толькі частковае вырашэньне. Неабходна праводзіць большае вылучэньне рабочых, калгасьнікаў, батракоў і беднякоў і падрыхтоўку з гэтых груп новых работнікаў праз каап. курсы і каапэрацыйныя навучальныя ўстановы, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на лепшае іх укамплектаваньне.

Усе вызначаныя практычныя мерапрыемствы, зьвязаныя з рэарганізацыяй апарату спажыўсыстэмы, пры неабходным прыстасаваньні да ўмоў кожнай паасобку арганізацыі, павінны забясьпечыць выкананьне сур‘езных і адказных задач, стаячых перад спажыўкаапэрацыяй.

Адмоўнымі момантамі ў правядзеньні вялікай і важнай справы па рэарганізацыі зьяўляецца традыцыйная для каапэрацыі маруднасьць і разважаньні, чаго ня можа быць на даным этапе, калі ўсе мерапрыемствы і тэмпы работы спажыўкаапэрацыі павінны суадпавядаць тэмпам сацыялістычнага будаўніцтва. Ня гледзячы на тое, што вывучэньне, падрыхтоўка і правядзеньне практычных мерапрыемстваў працягваецца ўжо некалькі месяцаў і што ў апошні час маюцца дастаткова і дэталёва вызначаныя шляхі і практычныя паказаньні па рэарганізацыі і перабудове працы, фактычнае становішча паасобных арганізацый характарызуе адваротнае. У Белкаапсаюзе і спажтаварыствах магчыма наглядаць па асобных частках і галінах працы непадрыхтаванасьць і непрыстасаванасьць да новых умоў. У выніку ўсяго гэтага праца па выкананьню важнейшых гаспадарча-палітычных заданьняў ня выконваецца так, як належыць, і не адчуваецца неабходнага паляпшэньня і пасіленьня, што павінна быць дасягнута і забясьпечана у сувязі з рэарганізацыяй.

Усе арганізацыі і работнікі спажыўкаапэрацыі павінны зьнішчыць маючыяся недахопы і адставаньні, стварыць рашучы перадом у сваёй працы, паказаць уменьне і клясавую здольнасьць сваячасова і поўнасьцю выконваць гаспадарча-палітычныя заданьні ў суадпаведнасьці з дырэктывамі партыі, забясьпечыць баявыя тэмпы, максымальна разгортваць бальшавіцкую самакрытыку і шырока прымяняць сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

**Ліквідацыя акруг наблізіць цэнтр да мас.**

Аўгуст Гарбач

# Задачы асеньняй сяўбы

У пляне сельска-гаспадарчых прац бягучага году зусім асаблівае палажэньне павінны заняць бліжэйшыя месяцы. Аднак і зараз можна наглядаць, што на мясцох гэтага фронту шмат хто не даацэньвае, тады як работы бягучага году ў вызначаным напрамку будуць праводзіцца на шмат адменна ад мінулага году. Часта забываюцца ці недаацэньваюць, што зараз нам прыходзіцца праводзіць уборку хлеба ў нашых калгасах, саўгасах і камунах на плошчы у некалькі разоў большай у параўнаньні з мінулым годам; дзе-ні-дзе забываюцца, што ўборачная кампанія бягучага году праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Не заўжды ўлічваецца і тое, што ў бягучым годзе, у сувязі з павялічэньнем плошчы засева тэхнічных культур і ўзмацненьнем увагі жывелагадоўлі, стварэньнем кармавой базы, значным пашырэньнем пасеўных плошчаў азімых і неабходнасьцю больш дасканальнай падрыхтоўкі да вясны (асеньні выраб глебы пад яравыя і інш.), нагрузка ва ўсёй працы будзе куды большая ў параўнаньні з мінулым. Выканаць плян усіх работ мы здолеем толькі пры ўмове сапраўднай, правільнай і ўважлівай працы над пытаньнямі асеньняй сяўбы.

Як да ўборачнай кампаніі, а таксама і да самой сяўбы ня ўсе нашы арганізацыі рыхтаваліся добра. Наадварот, тут можна было-б прывесьці шэраг фактаў зусім безадказных, нядбайных адносін і да ўборачных работ і да асеньняй сяўбы. Дзякуючы бюракратызму і коснасьці па раенах і с/с-тах, мы маем катастрафічнае становішча з работай па ўборцы хлеба і па асеньняй сяўбе.

Ня лепш абстаіць справа і з выданьнем літаратуры па гэтаму пытаньню. БДВ не паклапацілася аб сваячасовым выхадзе кніжак. У той час, як уборачная кампанія падышла к канцу, а пасеўная разгарнулася ва ўсю шырыню тады „па чайнай ложцы ў гадзіну“ пачало БДВ выпускаць на рынак кніжкі. А калі яны трапяць на месца?

Шмат дзе спадзяюцца на самацёк у працы, разважаючь прыблізна так: „убіралі і не прапалі ў мінулым годзе, неяк будзе і ў гэтым годзе“. Падобныя адносіны да ўборачных і асеньніх работ зьяўляюцца ня чым іншым, як праступкам. Нельга забываць таго факту, што работы гэтага году адменны ад мінулых гадоў і тым, што калі раней нам даводзілася мець справу амаль выключна з індывідуальнымі сельскімі гаспадаркамі, дык зараз значную частку складае нам сацыялістычны сэктар—калгасы. Калі раней асеньнія работы зводзіліся да падрыхтоўкі машын, арганізацыі ўзаемадапамогі, падрыхтоўкі да зьберажэньня збожжа, абменных апэрацый і інш., цяпер да ўсіх гэтых работ дадаецца выключнай важнасьці работа па арганізацыі работы ў калгасах, а таксама ў індывідуальных гаспадарках. Шмат хто не разумее, што дапамога бедняку і серадняку ў часе і ўборачнай і асеньняй засеўнай кампаніі значна дапаможа справе ўступленьня іх у калгас.

Партыя ў сваіх дырэктывах ужо адзначыла, што „ўборачная кампанія бягучага году, якая мае буйнейшае значэньне для замацаваньня дасягнутых посьпехаў калгаснага будаўніцтва, далейшага ўздыму калгаснага руху і пасьпяховага правядзеньня асеньняй сяўбы, яшчэ не разгарнулася ў важнейшую гаспадарча-палітычную кампанію“.

Апрача сказанага, зараз мы маем паведамленьні з розных раенаў аб слабасьці і, нават, у некаторых мяс-

цох зрыве работ па сіласнаму будаўніцтву, затрымцы з абмалотам збожжа і інш. Зразумела, галоўная бяда ў тым, што шмат дзе адсутнічае адпаведны плян правядзеньня работ. Каапэрацыйныя нашы арганізацыі адпаведнай увагі гэтым работам не аддаюць, а працуюць „по старинке“.

Усе гэтыя работы, як уборачная, засеўная, работы па сіласнаму будаўніцтву і г. д., павінны быць увязаны ў адзіны плян, адзіную вялікую работу восені бягучага году. Плян усіх асеньніх работ павінен быць шырока абгавораны на сходах сялян, вытворчых нарадах калгасаў і саўгасаў, пры актыўным удзеле ўсяе каапэрацыйнай сеткі.

Генэральны плян нашых вялікіх работ па сацыялістычнаму будаўніцтву, апрача ўсяго, прадугледжвае значнае пашырэньне засеўнага кліну па ўсіх культурах. Ачыстка насеньня павінна быць даведзена да 100 проц. Калі-ж да ўсяго гэтага дадаць вагромністыя работы па сілоснаму будаўніцтву, а яны павінны праводзіцца адначасова з уборачнай і засеўнай кампаніяй, дык робіцца зусім ясным размах і вагромістасьць, крайняя неабходнасьць арганізацыйнай работы, якая на сёньняшні дзень павінна быць разгорнутай. Выключна кожнае каапэрацыйнае зьвяно, кожны працаўнік, увесь наш каапэратыўны актыў павінны ўдзяліць максімум увагі і сілы, каб з посьпехам выканаць задачы асеньніх работ. Падкрэсьліваем, задача сіласнага будаўніцтва—важнейшая задача ў даны момант. Па Савецкай Беларусі ў гэтую асеньнюю кампанію павінна быць пабудавана некалькі тысяч сіласных ям. Пры ўмове невыкананьня работ па сіласаваньню, нельга і думаць аб якім-бы ні было паляпшэньні нашага жывёлаводзтва. Сіласны корм—база, на якой мы вырашаем кармовую праблему, і ў выніку, праблему жывёлаводзтва.

Уся каапэрацыйная сетка павінна быць падрыхтаванай і да таго, каб перамагчы цяжкасьці і арганізавана правесьці хлеба-нарыхтоўчую кампанію. Рэшткі кулацтва і другія нашы ворагі, бясспрэчна, будуць рабіць усё ім магчымае, каб перашкодзіць пасьпяховасьці правядзеньня хлебанарыхтоўчых работ. Калі зараз у нас і ёсьць усе дадзеныя, якія кажуць за большы посьпех правядзеньня хлебанарыхтоўчай кампаніі гэтага году ў параўнаньні з мінулым, з прычыны таго, што значную частку лішкаў хлеба даюць нашы калгасы і саўгасы, дык усё-ж уся кампанія хлебанарыхтовак будзе праходзіць пры абвостранай клясавай барацьбе. Трэба быць гатовымі даць рашучы адпор кулацкім настроям і прымірэнцкім адносінам да іх.

З усяе сыстэмы нашых асеньніх работ не павінен быць выкрэсьлены індывідуальны сэктар сельскай гаспадаркі. Неабходна максімальную ўвагу зьвярнуць раздробленым сялянскім гаспадаркам бедняты і серадняцтва. Работа павінна праводзіцца так, што сёньняшні індывідуальнік—наш заўтрашні калгасьнік. Трэба яму дапамагчы, трэба яго наблізіць да калгасу, уцягнуць яго ў жыцьцё калгасу. Уся каапэрацыйная с.-г. сетка, усе працаўнікі павінны памятаць, што даны від каапэрацыі зьяўляецца ў значнай ступені, тым пераходным зьвяном, праз якое сялянская бедната і серадняк з індывідуальніка павінны зрабіцца калгасьнікамі.

# Прамова тав. Баўмана на ўсесаюзным зьезьдзе спажывецкай каапэрацыі

Сучасны пэрыяд сацыялістычнай рэканструкцыі ўсяе нашае народнае гаспадаркі паказвае, якія вялізарныя магчымасьці мае ў сабе сацыялізм, якія вялікія перавагі ён дае ў параўнаньні з анархічнай, драпежніцкай эксплёататарскай сыстэмай капіталізму. У нас адбываецца ўздым усяе нашае гаспадаркі, рост матар'яльнага і культурнага дабрабыту шырокіх працоўных мас, зжываньне беспрацоўя, а ў капіталістаў разрастаецца сусьветны эканамічны крызіс, занепадае прамысловая і аграрная прадукцыя, адбываецца вялізарны рост беспрацоўя, абядненьня мас і рост пакут мільёнаў рабочых і сялян. У нас ёсьць свае цяжкасьці, але яны зьяўляюца цяжкасьцямі росту, у той час, як цяжкасьці ў капіталістычных краінах—гэта цяжкасьці заняпаду, цяжкасьці крызісу ўсяе сыстэмы капіталістычнай гаспадаркі. Вы паглядзеце, як вырашаецца крызіс збыту ў капіталістаў. Яны скарачаюць прамысловую прадукцыю, яны скарачаюць разьмеры засеўнага абшару, а мы такую цяжкасьць як недахват тавараў зжываем шляхам усямернага разьвіцьця індустрыялізацыі, шляхам павялічэньня разьмераў пасеўнага абшару.

За пэрыяд паміж XV і XVI зьездамі мы маем вялізарны рост сацыялістычнай гаспадаркі. Калгасны рух абярнуўся ў магутны рух мільёнаў беднякоў і сераднікоў. Серадняк, які моцна ўступае ў калгасы, пераходзіць з саюзьніка ў апору савецкай улады на вёсцы. Партыя высунула паміж XV і XVI зьездамі новы лёзунг—лёзунг гістарычнай значнасьці: ліквідацыю кулацтва як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі. Гэта ёсьць штурм апошніх рэшткаў капіталізму ў нашай краіне. Гэта ёсьць вялізарны новы крок наперад у справе перабудовы нашай краіны з Расеі нэпманскай у Расею сацыялістычную. Вядомая рэч, гэтыя посьпехі немагчымы без няўхільнай і сыстэматычнай барацьбы за ажыцьцяўленьне генэральнай бальшавіцкай лініі, без няўхільнай і рашучай барацьбы з апартунізмам на два фронты—і супроць правага ўхілу, як галоўнай небясьпекі, і супроць левых ухілаў, і супроць усякага прымірэнцтва з гэтымі ўхіламі.

Пацярпеў поўнае паражэньне і контррэвалюцыйны трацкізм. Гэтак сама і ідэалёгія правага ўхілу. Лідэры правых павінны былі прызнаць свае памылкі на XVI зьезьдзе. Гэта паказвае, што адбываецца сапраўднае згуртаваньне сіл нашай партыі, сіл усяе рабочае клясы наваколі генэральнай бальшавіцкай лініі. Гэта паказвае, што адбываецца вялізарнае згуртаваньне сіл пралетарскай рэвалюцыі навакол ленінскага ЦК.

Поруч з посьпехамі ў галіне індустрыяльнага будаўніцтва і сацыялістычнага земляробства можна канстатаваць посьпехі дзяржаўнага і каапэрацыйнага гандлю. У 1929-30 г. па опыту роля дзяржаўнага каапэрацыйнага гандлю складала больш за 99 проц.; па розьніцы—больш за 80 проц У нас больш за 40 мільёнаў пайшчыкаў. Гэта значыць, што 60—70 проц. дарослага насельніцтва аб'яднаны ў каапэрацыю. Абароты яе дасягнулі 12 млн. рублёў. Гэта вялізарная лічба. Мы таму-сяму навучыліся ў галіне гандлю. Мы так-сяк навучыліся ажыцьцяўляць лёзунг Леніна аб тым, каб навучыцца гандляваць. Але нельга забываць пры гэтым, што Ленін гаварыў ня проста пра гандаль, ён гаварыў, што трэба навучыцца гандляваць культурна. Што гэта значыць? Гэта, таварышы, значыць, што нам трэба гандаль, усю сыстэму тавараправодных каналаў падначальваць задачы пасьпяховага здаволеньня патрэб рабочых і

сялян. Калі з гэтага пункту гледжаньня падыйсьці да работы каапэрацыі, да работы нашага дзяржаўнага гандлю, дык давядзецца сказаць, што справа стаіць вельмі і вельмі дрэнна, архідрэнна. Недарэмна XVI зьезд партыі завастрыў увагу на гэтых недахопах у рабоце спажывецкай каапэрацыі. Недарэмна генэральны сэкратар ЦК у зьніжэньне цэн праводзіцца ў жыцьцё вельмі дрэнна? Хіба-ж няпраўда, што работа многіх каапэрацыйных арганізацый адбываецца самацёкам, хіба-ж не ў наяўнасьці дрэннае манэўраваньне таварнымі фондамі аж да затаварваньня асобных раёнаў, пры недахваце гэтых тавараў ў іншых раёнах? А калі паглядзець на работу каапэрацыі з пун-



Калектыўная ўборка

сваёй палітычнай справаздачы падыйшоў да работы спажывецкай каапэрацыі пад пунктам гледжаньня суровай крытыкі: „Рабочыя, гаворыць т. Сталін,— прымушаны 25 проц. сваіх патрэб у сельска-гаспадарчых прадуктах здавольваць на прыватным рынку, пераплачваючы на цэнах“. Я ўжо не кажу аб тым, што апарат каапэрацыі больш за ўсё клапоціцца пра балянс, у сувязі з чым занадта туга ідзе на зьніжэньне розьнічных цэн, не зважаючы на катэгарычныя дырэктывы з боку кіруючых цэнтраў. Выходзіць, што каапэрацыя дзейнічае ў даным выпадку не як сацыялістычны сэктар, а як сваясаблівы сэктар, заражаны нэпманскім духам. Хіба-ж ня праўда, што кту гледжаньня арганізацыі сапраўдных мас насельніцтва, іх сьвядомага актыўнага ўдзелу ў рабоце спажывецкай каапэрацыі, хіба-ж у нас тут ня архі-дрэнна, асабліва на вёсцы? Мы скалачваем ўсё больш магутную пераможную армію будаўнікоў сацыялізму ў нашай краіне. Наша партыя налічвае ў сваіх шэрагах бяз малага 2 мільёны чалавек, наш камсамол налічвае 2 з паловаю мільёны чалавек, нашы прафсаюзы, якія цалкам знаходзяцца пад камуністычным уплывам, налічваюць 12-мільённую армію арганізаваных пралетарыяў, а ў калгасах мы цяпер гуртуем больш за 6 мільёнаў гаспадарак, у каапэрацыі — дзесяткі мільёнаў людзей. Трэба зразумець, якую вялізарную

сілу ўяўляеце сабою вы, каапэратары, калі ў нашай сыстэме сапраўды арганізавана 40 з лішнім мільёнаў чалавек. Вы павінны ўсім захадам клясавага ворага, усякім спробам затрымаць сацыялістычнае будаўніцтва, супроцьпаставіць сваю арганізаванасьць, сваю пільнасьць, свой пралетарскі нажым і напор. Між тым, можна падаць колькі хочаш прыкладаў, калі наш апарат не дае часам належнага адпору і часта там уносіць дэзарганізацыю тады, калі, напрыклад, у будаўнічыя раёны пасылаецца зусім ня той асартымэнт тавараў, аж да лякавых чаравікаў, пудры і г. д. Неабходна, каб на гэтым зьезьдзе была разгорнута сапраўдная пралетарская самакрытыка, каб былі выкрыты ўсе балячкі работы спажывецкай каапэрацыі, каб на аснове намечаных выразных дырэктыў былі выпраўлены недахопы.

Разам з тым неабходна шырока разгарнуць уцягненьне рабочых, калгасьнікаў і ўсяе бядняцка-серадняцкае грамадзкасьці ва ўсю работу каапэрацыі. УЦСПС ухваліў надзвычайна добрую пастанову аб вылучэньні 10 тысяч рабочых ў апарат каапэрацыі. Гэта вельмі добрая пастанова, але як на справе яна ажыцьцяўляецца, як падрыхтаваны гэтыя кадры, гэтыя вылучэнцы? Вельмі слаба. Вось чаму крытыка ў гэтай галіне павінна закрануць ня толькі работу каапэрацыі, але і прафсаюзных арганізацый.

Гаворачы аб рабоце каапэрацыйнага апарату, мы павінны разумець пэўныя асаблівасьці тавараз вароту сёньняшняга пэрыяду. Гэты пэрыяд недарэмна называецца рэканструкцыйным. Мы ў галіне прамысловасьці трымалі і трымаем курс на ўсямернае разьвіцьцё вытворчасьці сродкаў вырабу. Сёлета мы даем сельска-гаспадарчых машын, прыблізна, на 600 мільёнаў рублёў, на той год дамо сельска-гаспадарчых машын, прыкладам, больш як на мільярд рублёў. Калі параўнаць, што мы атрымаем больш мільярду пудоў хлеба з вёскі, дык вы ўбачыце, што рубель сельска-гаспадарчай машыны амаль што раўняецца пуду хлеба. Гэтае вялікае дасягненьне гаворыць аб посьпехах вытворчай сувязі, якая мацнее ў нашай краіне.

Дзякуючы наліччу трактараў і сельска-гаспадарчых машын мы маем рост засеўных абшараў, мы вырашаем хлебную праблему, мы набываем новыя магчымасьці таксама ў справе разьвіцьця тэхнічных культур. Гэта сапраўды дасьць нам магчымасьць у далейшым разгарнуць у нябывалых тэмпах лёгкую індустрыю. Зразумела, у галіне выбару рэчаў шырокага ўжываньня ў нас няма такога вялізарнага росту, і ў нас адчуваецца, значыць, недахват рэчаў шырокага ўжываньня. І гэта каапэрацыя хваравіта перажывае. У нас для поўнага здаваленьня патрэб насельніцтва не хапае мануфактуры, у нас не хапае абутку, у нас не хапае часта таксама тытуну. Але зусім зразумела, што тут адбываецца вядомая пэўная паступовасьць у вырашэньні задач, якія стаяць перад намі. Мы прасоўваемся тут своеасаблівымі канцэнтраванымі, згрупаванымі ўдарамі. Нельга весьці наступу агульна па ўсім фронце без адпаведнай падрыхтоўкі, без намячэньня галоўных вучасткаў, на якіх трэба згрупаваць удары. У першую чаргу наша партыя паставіла задачу вырашыць збожжавую праблему. Хлебны крызіс зжыт. І цяпер, ужо сёлета ў нашай краіне ня будзе ніводнага пасёлку, ды і ня толькі пасёлку, ня будзе ніводнай вёскі, дзе-б адчуваўся недахват у хлебе. Вядомая рэч, адным хлебам мы ня можам задаволіць усю ўзрастаючую патрэбу ў сельска-гаспадарчых прадуктах. Гэта зусім зразумела. Але гэта ставрае базу для вырашэньня іншых чарговых задач, для разгортваньня тэхнічных культур, для разгортваньня засеваў бавоўны, для разьвіцьця жывёлагадоўлі і г. д. Вы ведаеце, што сёлета мы маем, прыблізна, рост на 50 проц. пасеўнага абшару бавоў-

ны ў Сярэдняй Азіі. І калі сёлета нашы тэкстыльныя фабрыкі з прычыны недавытворчасьці бавоўны ў нашай краіне і з прычыны немагчымасьці прывезьці бавоўны ў дастатковай колькасьці з-за мяжы, павінны будуць на працягу 2 месяцаў стаяць, дык на той год гэтых стаянак або зусім ня будзе, або ў вельмі нязначнай колькасьці, і тым самым мы дамо значна большую колькасьць паркалю, крамніны насельніцтву.

Зараз на чаргу пастаўлена жывёлагадоўча-малочна-гародная праблема. Тут яшчэ ёсьць шэраг вялікіх цяжкасьцяй і недахопаў. XVI зьезд партыі правільна завастрыў увагу на тое, каб абярнуць спажываючыя раёны ў гародна-малочныя вытворчыя раёны. Гэты практычны лёзунг неабходна вырашыць на аснове разьвіцьця, у прыватнасьці, падгародных гаспадарак каапэрацыі. І тут мы маем першыя ластаўкі ў сэнсе посьпехаў. Гароды складаюць 44.000 гэктараў замест 40.000 па пляну, малочная жывёла складае 64.000 галоў, замест 60.000 па пляну. Тут ёсьць некаторыя посьпехі па колькасьці, хоць якасьць догляду гародаў, хоць якасьць жывёлы прымушае жадаць шмат лепшага.

Калі ўзяць адкорм сьвіньняў, дык плян быў на 487.000 галоў, а на справе выканана толькі 110.000. Тут справа вельмі дрэнная. У галіне мяса трэба асабліва прыналегчы на сьвінагадоўлю. Мы ведаем, што сьвіньня плодзіцца вельмі шпарка. Гэта за вельмі хуткі час можа дапамагчы зжыць недахват мяса. І калі не на той год, дык, я ўпэўнен, што праз два—максімум тры гады мясны крызіс будзе зжыты гэтаксама, як цяпер зжыт хлебны крызіс.

Сёньня можна запэўняць ужо ў тым, што ня толькі ня можа быць хлебнага крызісу ў краіне, але ўжо ў асноўным вырашана і гародная праблема. Па колькасьці абшару гародаў гэтулькі, што можна поўнасьцю здаволіць усё насельніцтва нашых гарадоў і фабрычназаводзкіх пасёлкаў гароднінаю. І калі не здавальняецца, дык толькі затым, што мы, быццам бяз рук, што мы працуем вельмі дрэнна, што наш транспарт працуе архідрэнна і г. д. Вось чаму зусім правільна абвясьцілі паход за гароднінаю камсамольцы і завастрае ўвагу ўсяе партыі і рабочае клясы „Правда“. У гэтую справу трэба ўцягнуць усю нашу савецкую грамадзкасьць, прафсаюзы. Мы павінны сапраўды ўдарыць па руках усіх тых, хто пры правозе дапушчае псаваньне гародніны. Я думаю, што мы можам заявіць, што ўся наша краіна (Масква, Ленінград і г. д.) можа быць поўнасьцю забясьпечана ня толькі хлебам, але і гароднінай і бульбай.

Вядомая рэч, што буйным гарадом у першую чаргу мы можам і павінны даваць рэгулярна хоцьбы крышку мяса. Мы можам і павінны ўзмацніць забясьпеку краіны рыбнымі прадуктамі, можам даць па конаўцы малака, можам даць некаторую, хоць невялікую колькасьць на кожнага працоўнага тлушчу—расьліннага і жывёльнага. Калі мы збожжавую, а таксама і гародную праблему вырашылі, і частку мясных, малочных, рыбных прадуктаў бязумоўна даваць здолеем хоць-бы ў невялікіх разьмерах, дык неразумна і контр-рэвалюцыйна гаварыць пра цяжкія часы надыходзячага недаяданьня. Зразумела, поўнага размаху, поўнага задаваленьня ўсіх патрэб няма, але кожны сьвядомы рабочы, бачачы наяўныя рэсурсы краіны, скажа, што ня так ужо дрэнна, пацерпім некоторыя недахваткі яшчэ той год, але затое ўжо бліжэйшае будучае паказвае нам вялізарны росквіт у сэнсе здаваленьня ўсіх нашых патрэб і ў хлебе, і ў мясе, і ў гародніне, і ў малацэ.

Вялікую ролю павінна адыграць разьвіцьцё грамадзкага харчаваньня, каапэрацыя павінна ўсямерна разьвіваць гэтую справу: сотні тысяч і мільёнаў абедаў яна павінна выдаваць з сваіх сталовак ня толь-

кі ў самых сталоўках, але і выдаваць абеды дадому. Перш-на-перш самой каапэрацыі трэба зжыць, калёным жалезам выпячы „некаторы нэпманскі дух“, дух гандлярства, калі гандлюе наша каапэрацыя някультурна, ня з мэтаю задаволіць патрэбы рабочых і сялян, а дзеля балянсу і прыбыткаў—гандлюе паазіяцку, па-капіталістычнаму. Разам з тым трэба прадаўжаць рашучую барацьбу са спэкуляцыяй.

Зразумела, мы ня можам і не павінны адміністрацыйным парадкам зачыніць рынкі; гэта неразумна, але мы павінны правесьці рашучую барацьбу ў галіне далейшага выгнаньня прыватніка, шляхам усё большага і большага ахопу закупак рабочага насельніцтва дзяржаўным і каапэрацыйным гандлем. Выгнаньне прыватніка павінна адбывацца на аснове выцясьненьня прыватніка дзяржаўным і каапэрацыйным гандлем. Гэта ня выключае і прыстасаваньня часам захадаў адміністрацыйнага ўзьдзейнічаньня і такой вострай зброі, як умяшаньне органаў ДПУ у барацьбу са спэкулянтамі; ня выключае захадаў, як высылка і арышт злосных спэкулянтаў. Спажкаапэрацыя павінна ўзяць пад спэцыяльны нагляд такія цэнтры, як Масква, Ленінград, Данбас і інш. Тут неабходна згуртаваць максімум увагі затым, што гэта—раёны, дзе ня толькі б'ецца нэрв нашага гаспадарчага жыцьця, але і раёны, якія маюць вялікае палітычнае значэньне.

Ставячы такія задачы ў горадзе, мы ня можам забываць і пра нашы задачы на вёсцы. Мы ня можам забываць пра недахопы, якія наглядаліся ў часе веснавой пасеўнай і леташняй хлебазагатовачнай кампаніі ў сэнсе разьмеркаваньня прамтавараў: часам у Казакстан пасылаюцца тавары, прыгодныя толькі для Паўночна-Заходняй вобласьці, альбо, напрыклад, у Башкірыю накіроўваюцца дарагія віны—расейскае шампанскае. Начорта яно ў Башкірыі, каму яно там патрэбна? Трэба ведаць асаблівасьці рынку і разьмяркоўваць тавары ў адпаведнасьці з патрэбамі і попытам на гэтых рынках. Разам з тым перад спажывецкай каапэрацыяй, стаіць новая задача, такая важная задача, як наладжаньне забясьпекі калгасаў. Гэта—задача вельмі адказная. Калі калгасьнік павялічвае сваю таварную прадукцыю і дае гораду больш хлеба, гародніны і малака, дык ён чакае ў адказ большай колькасьці тавараў; мы не заўсёды можам поўнасьцю задаволіць яго платаздольны попыт, не заўсёды можам даць яму жаданы таварны эквівалент. Інакш кажучы, мы здолеем даць яму эквівалент сельскагаспадарчымі машынамі, але чалавек усё-ж такі чалавек, і ён скажа, што с.-г. машыны добрая рэч, яны даюць магчымасьць яму павялічваць сваю прадукцыю, але скажа калгасьнік, дазвольце мне цяпер папіць гарбаты з цукрам. Між іншым, у сувязі з павялічэньнем засеву буракоў, надзея на вытворчасьць цукру значна лепшая, чымся летась. Але і тут трэба абапірацца на максымальную плянавасьць і арганізаванасьць з боку спажыўцоў каапэрацыі.

Ня трэба забываць, што вы, спажывецкая каапэрацыя, адыгрываеце ролю буйнейшага сацыялістычнага рычага, што вы адыгрываеце ролю каналу, які злучае калгасы з усёй сыстэмай нашай народнай гаспадаркі, поруч з сельска-гаспадарчай каапэрацыяй. Зразумела, натура калгасу сацыялістычная затым, што там грамаджаны сродкі вытворчасьці, там арганізацыя працы ставіцца на сацыялістычныя асновы. Але ўявіце сабе калгас, які будзе змыкацца з „вольным“ прыватным рынкам, калі ён будзе купляць у прыватніка і прадаваць усе сваe асновныя прадукты на спэкулятыўны рынак. Хіба-ж ён ня зробіцца прыдаткам дробна-буржуазнай сыстэмы, хіба-ж ён не пагражае тут небясьпекаю ўнутранага развалу аграмаджанай гаспадаркі? Такі калгас, які змыкаецца не з сацыялі-

стычнай сыстэмай, а з прыватна-капіталістычным сэктарам, нэпманам, становіцца лжэ-калгасам.

Партыя ня раз раіла такую рэч, як плянавыя заяўкі зьнізу да каапэрацыі. Зразумела, мы загадзя можам сказаць, што мы гэтых плянавых заявак цалкам задаволіць ня здолеем, поўнасьцю даць па патрэбах кожнаму мы ня здолеем, але ў пэўным проццанце—здаволім.

Разам з тым неабходна разгортваць работу спажывецкай каапэрацыі, каб яна стымулявала рост таварных загатовак на вёсцы. Мы гэты прынцып прыстасоўваем, напрыклад, у лёназагатоўках, мясазагатоўках. Поруч з гэтым стымуляваньнем сельска-гаспадарчых загатовак, нельга забываць аб захаваньні клясавага падыходу ў справе забясьпекі. Калі мы даем бедняку больш хлеба, чымся серадняку за тую-ж колькасьць малака, дык гэта правільна, бо ў серадняка дома ёсьць хлеб. Але калі бедняку даецца 100 грам цукру, а серадняку—50 грам, дык, натуральна, што кожны серадняк будзе абураны і ён будзе мець рацыю. Гэта не клясавы, а скрыўлена клясавы падыход. Серадняк, які ўвайшоў у калкас, зьяўляецца апораю савецкай ўлады. І цяпер, калі мы гаворым пра серадняка, як пра будучага калгасьніка і раптам такое вострае адрозьненьне паміж забясьпекаю бедняка і серадняка цукрам. Гэта скрыўлены клясавы падыход.

Перад гэтым зьездам стаяць вялізарнейшыя задачы, задачы максімальнай арганізацыі рабочай забясьпекі, разьвіцьця магутнай сельска-гаспадарчай і вытворчай падгароднай базы спажывецкай каапэрацыі, разгортваньне грамадзкага харчаваньня. На гэтай аснове неабходна ажыцьцёвіць сапраўдны актыўны ўдзел спажывецкай каапэрацыі ў барацьбе за павялічэньне ўзроўню рэальнага заработку. Перад зьездам стаяць такія задачы, як рэарганізацыя і палепшаньне работы ўсяе сыстэмы спажывецкай каапэрацыі, як барацьба, няшчадная барацьба ня толькі са шкодніцтвам, але і з бюракратызмам, барацьба з нэпаўскім духам самой каапэрацыі. Гэтую барацьбу трэба праводзіць на аснове рашучага разгортваньня пралетарскай самакрытыкі, на аснове яшчэ большага ўцягненьня рабочай грамадзкасьці, вылучэньня і падрыхтоўкі новых кадраў на замену вычышчаных няпрыгодных элемэнтаў спажывецкай каапэрацыі.

Разам з тым перад вамі стаяць такія вялізарныя задачы, як барацьба з усякай спэкуляцыяй, як барацьба з прыватнікам, барацьба за далейшы ахоп дзяржаўным і каапэрацыйным гандлем усяго рынку. Не забывайце аб тым, што 16 зьезд, гэта зьезд, як зазначыў т. Сталін, разгорнутага сацыялістычнага наступу, што вы зьяўляецеся магутным атрадам будаўнікоў аднае з самых важных галін нашай гаспадаркі, тавараззвароту краіны, і што вы павінны гэты сацыялістычны наступ узмоцнена прадаўжаць і разьвіваць.

Іtак, таварышы, за пераможны сацыялістычны наступ!

За перабудову нэпаўскай Расеі ў Расею сацыліястычную!

# Загатоўчы фронт і забесьпячэньне працоўных

Кумкес

## Пытаньні рабочага забесьпячэньня

### Даклад на IV зьезьдзе С. К. Б.

#### Дабіцца павышэньня рэальнага ўзроўню зарплаты

Ня гледзячы на тое, што тав. Познышаў і Хаськін спыняліся ў сваіх дакладах на пытаньні рабочага забесьпячэньня і мерапрыемствах па павышэньні рэальнага ўзроўню зарплаты, ня гледзячы на тое, што мне прыдзецца паўтарацца па цэлым радзе момантаў, але справа рабочага забесьпячэньня, павышэньне рэальнага ўзроўню зарплаты ў цяперашні час набывае вельмі вялікае палітычнае значэньне. Гэтыя пытаньні і тыя канкрэтныя мерапрыемствы, якія мы зараз прымаем, павінны стаць яснымі для кожнага з удзельнікаў зьезду, для тых, хто нясе адказнасьць і перад партыяй і перад рабочай клясай за выкананьне дырэктыў па рабочым забесьпячэньні. Трэба ўлічыць, што ў пастанове XVI партзьезду паказана, што ажыцьцяўленьне вызначаных задач залежыць ад нас саміх. Мы павінны палепшыць работу забесьпячальнай сеткі і асабліва па лініі спажыўсыстэмы Да апошняга часу мы дрэнна выконвалі дырэктывы аб палепшаньні рабочага забесьпячэньня і павышэньня рэальнага ўзроўню зарплаты.

Зьніжэньне цэн, якое нядаўна адбылося, не дало значнага эфэкту. Гэта тлумачыцца тым, што шмат якія прадукты рабочаму прыходзіцца купляць у прыватніка. Таму нам зараз трэба ўжыць усе захады да таго, каб у хутчэйшы час дабіцца павышэньня рэальнага ўзроўню зарплаты. Наша работа павіна ісьці ў далейшым, галоўным чынам, па лініі павялічэньня харчовай базы, разгортваньня прыгарадных гаспадарак, мабілізацыі сырцовых рэсурсаў, далейшага зьніжэньня цэн і паляпшэньня якасьці абслугоўваньня спажыўца.

Ня гледзячы на тое, што таварны зварот значна павялічыўся, усё-ж становішча з забесьпячэньнем таварамі не паляпшаецца. Гэта тлумачыцца тым, што попыт з боку рабочага насельніцтва на тавары вырас, што плацежаздольнасьць працоўных мас павысілася.

#### Ступень забесьпячэньня ў IV квадры

##### Прамтавары

Мы атрымалі на 3-ю чвэрць бавоўны на 779 тыс. руб., аб атрыманьні гэтых тавараў у 4 чвэрці мы яшчэ нічога ня ведаем. Дняпроўскай мануфактуры ў 3 чвэрці мы атрымалі на 350 тыс. р., у 4-й—на такую-ж суму, абутку ў 3 чвэрці на 748 тыс., у 4-й—на 696 тыс. і на іншых таварах асаблівага павышэньня параўнальна з 3-й чвэрцю мы мець ня будзем. Гэта сьведчыць аб тым, што і выдаткаваньне тавараў будзе будавацца на тым прынцыпе, каб асноўныя масы тавараў былі пушчаны на забесьпячэньне асноўных груп рабочых.

##### Дровы

Згодна пастановы Дзяржпляну мы ў гэтым годзе павінны атрымаць 1.500.000 кубамэтраў дроў з такім разьлікам, каб забясьпечыць 90

пунктаў—гарадоў і мястэчак. Саюзлес згодна той-жа пастановы павінен да 1 кастрычніка забясьпечыць дастаўку 50 проц. гэтай колькасьці апалу. Такім чынам, мы зараз жа павінны ўжыць усе меры, каб атрымаць паказаную колькасьць дроў.

### Мяса і масла

Калі атрыманьне прамтавараў у асноўным залежыць ад таго, як нам удасца дабіцца завозу іх з Масквы і наколькі мы здолеем скарыстаць мясцовую саматужную прамысловасьць, дык у галіне забесьпячэньня маслам і мясам выкананьне пляну ў большасьці залежыць ад таго, як працуюць нашы загатоўчыя арганізацыі. За май месяц для 12 гарадоў мы павінны былі атрымаць для таго, каб забясьпечыць на сельніцтва па нормах, 11.950 цэнтнераў мяса, атрымалі-ж 6639 цэнтнераў, ці 56 проц. На чэрвень месяц пры скарочаных нормах на 15 дзён мы павінны былі атрымаць 8450 цэнтнераў, а атрымалі толькі 5280 цэн., ці 60 проц. Гэтыя лічбы яскрава сьведчаць аб тым, што мясазабесьпячэньне застаецца вельмі напружаным як на сёньняшні дзень, так і на далейшы час. Наконт масла можна паказаць толькі тое, што ў маі месяцы нашы загатоўчыя арганізацыі Малочсаюз, Бельсельтрэст і Белкаапсаюз замест 1800 цэнтн. масла здалі 782 цэнт., або 43 пр.; у чэрвені павінна было быць здана 3605 цэнтн., здана-ж 612, ці 18 проц.



Вось асноўныя моманты рабочага забесьпячэньня на сёньняшні дзень. З гэтых даных можна прадставіць сабе тыя пэрспэктывы, якія мы маем на бліжэйшы час.

### Бліжэйшыя задачы раб. каапэрацыі

Што ў асноўным нам трэба рабіць? У галіне прамтавараў нам трэба добіцца павялічэньня завозу, атрыманьня тэй колькасьці тавараў, якую нам у цэнтралізаваным парадку належыць паводле нашай удзельнай вагі. Трэба таксама скарыстаць усе магчымасьці мясцовай і саматужнай прамысловасьці.

### Разгортваньне адкормачнай справы

У галіне прадуктаў спажываньня найбольш востра адчуваецца недахоп мясных і тлушчавых прадуктаў. Да гэтага пытаньня павінна быць прыцягнута ўся ўвага з тым, каб у хутчэйшы тэрмін мы маглі-б атрымаць патрэбныя рэсурсы. Трэба ў першую чаргу пайсьці па лініі энэргічнага разгортваньня сьвінаадкормачных апэрацый, бо гэта справа дае эфэкт у найкарацейшы тэрмін. На 1 ліпеня наша сыстэма адкарміла ў гарадох 9.200 штук сьвіней, на вёсцы—9.000 шт., прычым ЦРК мае прыблізна 1.700 уласных парасят. Заданьне-ж мы мелі адкарміць на горадох 14.000 шт., а на вёсцы—10.000 штук. Таму трэба дабіцца выкананьня гэтага заданьня. Паводле кантрольных лічбаў на 1930-31 г. мы вызначылі паставіць па ЦРКБССР—4.500 сьвінаматак і 3.000 матак на вёсцы.

Вялікае значэньне будзе мець свінаадкормачная гаспадарка, якую мы мяркуем будаваць у Менску, з колкасьцю 25.000 сьвіней і ня менш 2.000 сьвіна-матак. Я ўпэўнены, што калі гэтыя кантрольныя лічбы ня будуць выкананы, дык становішча з мясам будзе такім жа напружаным, як і зараз.

Вялікае значэньне набывае таксама эфэктыўнасьць адкорму. Мы, напрыклад, адкармілі 9.000 сьвіней, але эфэкт атрымаўся невыстарчальны. Мы былі сьведкамі захворваньня на адкормачных пунктах ад 25 да 40 проц. сьвіней. Дзякуючы ўжытым мерапрыемствам, большая частка захварэўшых сьвіней была выратавана, але і зараз падзеж сьвіней па ЦРК складае ад 2 да 3 проц. Трэба прыняць рад мер, каб зьнішчыць такое становішча. Дзеля гэтага трэба забясьпечыць адкормачныя пункты адпаведным матар'ялам. Пастаноўцы правільнага адкорму мы павінны зараз надаць асаблівае значэньне.



### Трусаводзтва і птушніцтва

Побач з сьвінаводнымі апэрацыямі нам трэба пашырыць работу ў галіне разьвіцьця трусаводзтва і птушніцтва. Паводле кантрольных лічбаў, мы вызначылі паставіць 2.000 трусоў і арганізаваць птушніцкія гаспадаркі па ЦРК. Калі нашы ЦРК праявяць выстарчальную ініцыятыву, дык кантрольныя лічбы будуць выкананы. Трэба паставіць пытаньне аб атрыманьні птушак і трусоў ад паляўнічых арганізацый і паасобных паляўнічых. У ліпені намі заключан дагавор з Белпаляўнічым саюзам на дастаўку нам 70.000 штук дзікіх качак і белых курапатак.

### Мясцовыя вадаёмы—у веданьне ЦРК

Некалькі слоў адносна рыбы. Трэба сказаць, што ва ўмовах значнага недахопу мяса і тлушчаў справа забясьпечаньня рыбай набывае вельмі важнае значэньне. Становішча, якое мы маем зараз з рыбай, нас ні ўякім разе здаволіць ня можа. „Белрыба“ паводле сваіх кантрольных лічбаў павінна здаць ЦРК на працягу гэтага году 30.000 цэнтн. Пакуль што „Белрыба“ выканала плян прыкладна на 20 проц. Гэта значыць, што „Белрыба“ свайго пляну ня выканае. Таму мы ставім зараз пытаньне, каб некаторыя вадаёмы перадаць у эксплёатацыю саміх ЦРК і нашай сыстэмы. Трэба, каб кожны ЦРК паставіў пытаньне ў гарсавеце аб тым, каб вадаёмы мясцовага значэньня былі пярэданы нашым арганізацыям, што дасьць магчымасьць дабіцца лепшых вынікаў, чым дабілася „Белрыба“.

### Прыгарадныя гаспадаркі пад кантроль

Да апошняга часу пытаньне з малаком стаіць вельмі востра. Пакуль што бярэцца курс на забесьпячэньне малаком дзяцей толькі да 12-гадовага ўзросту з тым, каб іх забясьпечыць па 1 літру на дзень. Мы атрымліваем толькі 60.000 літраў пры патрэбнасьці ў 150 тысяч. Такое становішча зусім нецярпіма. Таму мы павінны самую сур‘ёзную ўвагу зьвярнуць на разгортваньне малочнай гаспадаркі. Пакуль што мы маем у нашых гаспадарках 3.000 рагатае скаціны, з якіх толькі 2.500 дойныя, і малака 17.000 літраў, гэта значыць 7 літраў малака ў дзень з каровы. Намі заключана ўмова з малочным саюзам на дастаўку 4.090 галоў малочнае скаціны, але скаціна, якая здаецца нам па дагавору не рэнтабельна. Таму нам трэба ставіць пытаньне аб тым, каб у далейшым атрымаць больш удойную скаціну.

Між іншым ЦРК дано права загатоўкі малочнае скаціны. Але ЦРК дагэтуль самастойна загатовак не вядзе. Трэба на будучы год паставіць сабе задачай мець уласных 1.000 галоў скаціны ў асноўных 12 гарадох БССР і такім чынам пры сярэднім удоі мець 67.000 літраў малака, што ўжо дасьць добрыя вынікі.

Такім чынам пытаньне ня толькі ў тым, каб разгортваць работу па разьвіцьці малочнае гаспадаркі, але трэба, каб ЦРК узялі па кантрактацыі ўсе прыгародныя зоны свайго гораду с тым, каб малочныя гаспадаркі калгасаў і саўгасаў па магчымасьці далі больш малака, чым цяпер.

Пакуль што ЦРК толькі ведае, што робіцца ў яго, але нічога ня ведае аб тым, што робіцца наўкола гораду і ня ўжывае меры да таго, каб прыгарадныя гаспадаркі—саўгасы і калгасы давалі большую колькасьць малака. ЦРК павінен узяць пад свой кантроль гэтыя прыгарадныя гаспадаркі.

### Прыгарадныя гаспадаркі

Пры напружаным становішчы з цэлым радам харчовых прадуктаў, асаблівае значэньне набывае забесьпячэньне гароднінай і фруктамі. За апошні час мы ў гэтай галіне

маем некаторы зрух, але на сёньняшні дзень гэты зрух невыстарчальны. Мы сёлета ставім перад сабой задачу поўнасьцю забясьпечыць рабочае насельніцтва пладагароднінай, і бульбай у колькасьці 70.000 тон, што складае па 130 кілё на едака на год, і па іншай гародніне па 50 кілё на едака, ці 30.000 тон.

Для задаваленьня гэтай колькасьцю мы заключылі дагавор з Белпаляводсаюзам на пастаўку нам 64.000 тон бульбы, дагавор з Садсаюзам на 50.000 тон гародніны. Але мы ня можам быць упэўнены ў тым, што гэтыя арганізацыі выканаюць ўзятыя на сябе абавязацельствы. Мы перад нашай сыстэмай паставілі задачу нарыхтаваць 81.000 тон бульбы, цыбулі, капусты, і інш., і калі наша сыстэма ня выканае гэтых кантрольных лічбаў, дык мы ня здолеем поўнасьцю забясьпечыць рабочае насельніцтва.

Для рэалізацыі ўсяе колькасьці гародніны трэба сваячасова падрыхтаваць хавальні для гародніны, крамы, скляпы, сутарэньні і г. д. Тая колькасьць хавальняў, якую мы зараз маем, не забясьпечвае і 50 проц. патрэбнасьці. Таму трэба ўжо ў жніўні-верасьні ўжыць усе меры да завозу магчымай колькасьці гародніны, непасрэдна спажыўцу надом. Гэта работа павінна быць шырока разгорнута, бо калі мы гэтага ня зробім, дык мы будзем стаяць перад пагрозай псаваньня вялікай колькасьці гародніны і фруктаў.

Мы здолеем завесьці выстарчальную колькасьць цурку для перапрацоўкі гародніны і фруктаў. Таму трэба зараз жа падрыхтавацца да гатаваньня варэньня і перапрацоўкі фруктаў на павідла. Трэба таксама заняцца сушкай гародніны, тым больш, што гэта справа нескладаная. Па цэлым радзе гарадоў мы без асаблівых цяжкасьцяй можам пабудаваць саматужныя сушні і прыступіць да сушэньня вялікай колькасьці гародніны. Некаторыя ЦРК ужо прыступілі да гэтай работы, але ня ўсе. Я лічу, што калі мы зараз ня ўжываем цэлага раду мерапрыемстваў для таго, каб разгарнуць работу па сушцы і перапрацоўцы гародніны, сваячасовай прыёмцы, гэтай гародніны спажыўцамі на дому, калі мы ня выкарыстаем усе сутарэньні і скляпы, дык падкрэсьліваю, мы будзем стаяць перад пагрозай ня справіцца з гэтай задачай.

Наконт будаўнічых матар'ялаў. Мы тут у цэнтры прымаем цэлы рад мер дзеля таго, каб атрымаць будаўнічыя матар'ялы, але такія самыя мерапрыемствы павінны быць прыняты на мясцох. Я ведаю факты, калі ў Мазыры і ў іншых гарадох дабіліся станоўчых вынікаў у справе адшуканьня матар'ялаў, асабліва лясных. Таму трэба разам з атрыманьнем будаўнічых матар'ялаў з цэнтру дабівацца атрыманьня гэтых матар'ялаў на мясцох.

Апошняе—наконт клясавага разьмеркаваньня прадуктаў. Мы дагэтуль былі сьведкамі, калі ЦРК не аддавалі гэтаму пытаньню выстарчальнае ўвагі. У цэлым радзе арганізацый прадукты атрымлівалі аднолькава і рабочыя, і служачыя і цэлы рад іншых груп.

Працягваць так разьмеркаваньне тавараў і прадуктаў у далейшым нельга. Асноўныя тавары і прадукты павінны атрымліваць асноўныя групы рабочых.

Я лічу, што ня гледзячы на тыя труднасьці, якія перад намі стаяць у галіне палепшаньня забесьпячэньня рабочае клясы, у галіне павышэньня рэальнага ўзроўню зарплаты, калі мы ўсе, увесь каапэрацыйны актыў, уся кааперацыйная грамадзкасьць, возьмемся за гэтую справу, дык мы з асноўнымі задачамі па палепшаньні забесьпячэньня рабочага і па павышэньні яго рэальнай зарплаты справімся.

**І. Мазалеў**

# Грамадзкае харчаваньне на службу захаваньня рэальнай зарплаты рабочага

У сваёй пастанове ЦК КП(б)Б па пытаньню рабочага забесьпячэньня і рэальнай зарплаты даў цьвердую дырэктыву аб зьніжэньні сабекошту і адпускных цэн на прадпрыемствах грамадзкага харчаваньня. Да гэтага часу наогул адсутнічала ўсялякая палітыка цэн на вырабы грамадзкага харчаваньня. Гэта выходзіла з агульнае сыстэмы

Зусім зразумелы адсюль прычыны адсутнічаньня ўсялякага рэгуляваньня цэн, накладаньняў і рэалізацыі прадуктаў.

Весткі па БССР за першае паўгодзьдзе 1930 г. па грамадзкаму харчаваньню ў параўнаньні з 1928-29 годам даюць зьніжэньне сярэдняга сабекошту адзінкі прадукцыі, з прычыны зьмяншэньня норм пра-



вядзеньня гаспадаркі грамадзкага харчаваньня, якое можна назваць хаотычным.

Невыкананьне адзінаначальля, цэнтралізацыя рахункаводчага апарату і адарванасьць яго ад вытворчасьці цягнуць сабою безгаспадарчасьць, бясплянавасьць, безадказнасьць за вядзеньне гаспадаркі.

Загадчык сталовай даведваецца аб дакладным становішчы сваей сталоўкі скарэй ад пракурора, чым ад бухгальтара ЦРК. Амаль ні па воднаму ЦРК не складаецца промфінплян, і няма нідзе кантрольных лічбаў, выканаўчае і папярэдняе калькуляцыі. Ні загадчык ні рабочыя сталовых незнаёмы з ходам працы сталовай. Ня ведаюць аб прарывах у працы і такім чынам пазбаўлены магчымасьці сваячасова іх выпраўляць.

дуктаў на кожны абед, галоўным чынам мяса і тлустасьці. Але сярэднія цэны па ўсіх ЦРКадносна менш зьменшаны, чымся норма прадуктаў, а па Менскім, Віцебскім і Гомельскім ЦРК нават павялічаны.

Аналіз адпаведных матар'ялаў паказвае, што арганізацыі на мясцох нічога не зрабілі, каб кампэнсаваць зьмяншэньне норм вострадэфіцытных прадуктаў (мяса і тлустасьць) загатоўкаю найменш дэфіцытных (рыба), дастатковых (гародніны, зеляніны і г. д.) і каб павялічыць нормы водпуску дастатковых прадуктаў у немясныя дні, а таксама каб павялічыць наогул асартымэнт страў з дастатковых прадуктаў.

Арганізацыямі значна зьменшаны масавыя танныя стравы толькі дзякуючы галавацяпству на мясцох, якія несваячасова і мала загата-

валі гародніны і зеляніны, патрэбнае для гэтае мэты, а сталоўкі пакідаюць на адным крупніку. Між іншым гэтым і тлумачыцца разбазарваньне сталовымі запасаў дэфіцытных круп—рыс, манна і г. д.

Усё яшчэ наглядаецца вялікае накладаньне на ўсе прадукты. Проста падвышаюць цэны і імкнуцца да прыбытковасьці, дзякуючы чаму ў большасьці ЦРК першае паўгодзьдзе дало звыш 5 проц. прыбытку, а па Магілеву нават 15,2 проц. прыбытку, бо часта вызначаюцца проста дзікія цэны на паасобныя стравы з накладаньнем у 100 і больш процантаў.

Усе гэта пагоршваецца яшчэ тым, што на мясцох адсутнічае праца па рацыяналізацыі тэхнікі працы і па адшуканьні спосабаў зьмяншэньня накладных выдаткаў. Аналізуючы дадзеныя арганізацыі, мы наглядаем зьявішча, што па шэрагу арганізацый за 1-е паўгодзьдзе падвышэньне выдаткаў ідзе толькі на ўтрыманьне штату. Гэта—па большасьці буйных гарадоў.

Характэрны факт яшчэ ў тым, што ў выніку адсутнасьці плянавасьці і кіраўніцтва з боку ЦРК палітыкай цэн у адным горадзе па аднолькавых тыпах сталовых наглядаецца розная сабекаштоўнасьць прадукцыі і накладных выдаткаў.

Што трэба зрабіць?

Павялічваецца сабекошт страў і ад таго, што ў сувязі з неарганізаванасьцю справы забесьпячэньня, даводзіцца часта набываць прадукты на прыватным рынку.

Адразу перавесьці ўсе сталоўкі, цэхі сталовых на адзінаначальле. Трэба перайсьці на сыстэму куставаньня сталовых, што зьнізіць адміністрацыйнай-гаспадарчыя выдаткі, палепшыць кіраўніцтва, а таксама дазволіць стварыць самастойны, вельмі неабходны для сталовых рахунковы апарат.

У хуткім часе скласьці па ўсіх сталоўках прамфінплян і рэгулярна штомесячна калькуляцыі, з абгаварэньнем іх на сходах рабочых сталовак. Трэба зараз-жа падрыхтавацца і перайсьці з 1 кастрычніка 1930 г. на складаньне ўсімі сталоўкамі (кустамі) балянсаў.

Увесь першапачаткові вучот павінен быць перададзены сталоўкам.

Павінна быць аб'яўлена рашучая барацьба са злачынствамі ў сталоўках.

Трэба ўстанавіць цьвёрдыя цэны на стравы, рашуча змагаючыся з хістаньнямі і зьмяншэньнем калёрыйнасьці страў.

Цэны павінны быць устаноўлены для завадзкіх сталовак 30 кап. за абед з дзьвюх страў, а для іншых сталовак ня вышэй 40 кап.

Пры водпуску посных абедаў трэба адпаведна павялічыць колькасьць прадуктаў, каб не атрымалася зьніжэньня рэальнай каштоўнасьці прадукцыі, што адбіваецца на спажыўцох.

Абеды надом адпускаць са скідкай ад 10 да 20 проц., у залежнасьці ад заробку рабочага і яго складу сям'і.

Дзіцячыя абеды з двух страў павінны быць не даражэй 15—20 кап. за абед.

Захаваньня рэальнай зарплаты рабочых можна дасягнуць праз паляпшэньне якасьці, зьнішчэньне чаргі, праз увядзеньне абанімэнтаў, павялічэньне колькасьці раздатчыкаў на кухні, колькасьці посуду. і г. д.

З боку БКС трэба наладзіць усебаковы кантроль па выкананьні мерапрыемстваў па грамадзкаму харчаваньню, шырока мабілізуючы масы навакол гэтага пытаньня.

Ад рэдакцыі. Пажадана, каб работнікі месц выказаліся на старонках нашае часопісі аб становішчы грамадзкага харчаваньня ў іх.

А. Рыбак

# Менскі ЦРК зрывае забесьпячэньне рыбай

У адпаведнасьці з плянам улову за першае паўгодзьдзе МЦРК павінен быў атрымаць з Полацкай, Мазырскай і Аршанскай акруг 4.900 цэнтнераў рыбы. Ня гледзячы на тое, што гэтыя акругі плян улову за першае паўгодзьдзе ў сярэднім выканалі на 90 проц., МЦРК вызначанай колькасьці не атрымаў. Тут адчуваецца галавацяпства работнікаў МЦРК, якія ніяк ня могуць згадзіцца браць рыбу 3-га і 4-га гатунку: яна, па „іх думцы“, ня можа быць рэалізавана, у той час, калі, папершае, Полацкі і Віцебскі цэрабкопы поўнасьцю спажываюць рыбу 3-га і 4-га гатункаў. Віцебскі цэрабкоп нават спэцыяльна камандыраваў свайго работніка ў Лепельскую рыбгаспадарку для атрыманьня гэтай рыбы.

Работнікі менскага ЦРК зусім ня хочуць лічыцца з тым, што ўлоў, асабліва па Полацкай акрузе, адкуль большасьць рыбы паступае ў Менск, складаецца на 60 проц. з 3-га і 4-га гатункаў. У выніку мы маем, што за першую дзесяціднёўку ліпеня з агульнай колькасьці ўлову 70 проц. засталося ў Полацку, а толькі 30 проц. трапіла ў Менск, а згодна пляну павінна было быць наадварот.

Трэба зазначыць бюрократычныя адносіны да справы з боку работнікаў рыбных ларкоў МЦРК. Меў месца выпадак, што рыба 4-га гатунку (ёрш) была прывезена арцельлю Менскай акругі і ад прыёму яе катэгарычна адмовіліся гэтыя работнікі. І што-ж? Арцель сама на працягу гадзіны распрадала ўсю рыбу. Таксама быў выпадак, калі з Астрашыцкага Гарадка было прывезена каля 400 кілё рыбы а 9 гадз. увечары, але работнікі ЦРК, якія былі аб гэтым папярэджаны, не зьявіліся для прыёму рыбы, і арцель павінна была чакаць да наступнай раніцы.

Мелі месца выпадкі, калі рыба, якая прыбывала цягнікамі з Полацку і Мазыру, пасьля 4 гадзін, таксама імі ня выкуплялася і заставалася на другі дзень. Калі добра прагледзець выдаткаваньне рыбы, дык, бязумоўна, ёсьць пэўная колькасьць, якая псуецца і закапаваецца ў зямлю.

Ня гледзячы на тое, што амаль уся рыба цяпер паступае ў сталоўкі для грамадзкага харчаваньня, а там за кожны кавалак бярэцца па сумленнасьці 30—40 кап., дык, бязумоўна, накідкі на гэтую рыбу вялікія і значна перавышаюць дазволеныя Наркамгандлем 8 проц. Работнікі ЦРК не праяўляюць ніякае ініцыятывы для таго, каб гэтую невялікую колькасьць рыбы, якую яны атрымліваюць, значна павялічыць за лік 3-га і 4-га гатунку, якую можна скарыстаць для добрых страў. Таксама нічога ня ўжываюць для таго, каб курсаваў вагонледнік з тым, каб гэта рыба прыбывала добраякаснай, можа быць за лік памяншэньня накідак, якія цяпер робіць ЦРК.

Таварышы з ЦРК, трэба паварушыцца і ўжыць усе меры для павялічэньня спажываньня рыбы за лік скарыстаньня ўсіх магчымасьцяй.

Б. Малаў

# Там, дзе няма кіраўніцтва і ўвагі да хлеба.

Прайшоўшая ўсебеларуская і ўсесаюзная нарады па хлебапячэньню ў сваіх пастановах яскрава паставілі задачу перад сыстэмай спажывецкай каапэрацыі ў напрамку кіраўніцтва хлебапякарнай прамысловасьці, аб арганізацыі вытворчасьці працы і паляпшэньні якасьці хлеба.

Здавалася-б, што ўжо час Полацкаму ЦРК прыступіць да выкананьня гэтых важнейшых пастаноў, якія датычацца да паляпшэньня якасьці хлеба і кіраўніцтва хлебапякарнямі але, на вялікі жаль, у хлебапякарнях Полацкага ЦРК мы яшчэ маем адсутнасьць точна ўстаноўленага часу выхаду рабочых на работу, у выніку чаго рашчыны для прыгатаўленьня цеста замест нармальных 4 гадзін стаяць па 8—12гадзін, дзякуючы чаму хлеб выходзіць значна павышанай квіснасьці (замест нармальных 11 проц. квасьнасьць жытняга хлеба бывае па 14—15 проц.).

Устаноўлены на хлебапякарнях 4—5-ці гадзінны рабочы дзень. Хлебапякарня павінна рабіць 6 зваротаў кожнай печы у суткі, а робіць толькі 4 звароты, што патрабуе большага спажываньня апалу, павышэньня сабекаштоўнасьці хлебных вырабаў. Гэта адбілася на прыбытках пякарні. За першы квартал 1929-30 г. ЦРК меў дэфіцыту на кожнае кіло хлеба 0,16 кап., а за другі квартал 0,63 кап. пры недагрузцы пякарні на 37 проц., якую магчыма дагрузіць пры той жа колькасьці рабочых, пры зусім занялалым становішчы соцспаборніцтва і недавядзеньні прамфінпляну да рабочых.

Цукерня пры 6-ці гадз. раб. дні мела прырабат. за май м-ц 110 проц. за чэрвень м-ц 150 проц., ня ўлічваючы начныя гадзіны, за якія рабочыя атрымоўваюць плату.

У пякарні Дрэтунь, замест нармальных 48 проц. прыпёку на ржаны хлеб, увесь час быў прыпёк 39 —40 проц., на петляваны хлеб замест нармальных 37—38проц., прыпёку 29 проц. Вялікую колькасьць хлеба невядома куды дзелі на кожны пуд выпечанай мукі нехапала па 5 ф. хлеба, там жа за чэрвень м-ц толькі з падлогі зьнялі: 170 кгр. мукі, якая ў вытворчасьць пайсьці ня можа.

У пякарні № 3 на 4 чал. рабочых пекароў, якія выпрабляюць да 3.000 кл. хлеба, 9 чал. абслугоўваючага персаналу. Гэта значна павышае каштоўнасьць вырабаў.

Ня гледзячы на шэраг недахопаў у працы Полацкіх пякарань, думкі загадчыкаў пякарань т. т. Давідсона і Баскіна такія, што нічога лепш зрабіць нельга. Загадчыкі-вылучэнцы павінны зараз-жа ўзяцца за наладжваньне працы ў хлебапякарнях.

Цікава адзначыць, што ўсе дырэктывы, якія даваў БКС па пытаньню хлебапячэньня ляжалі не разабраныя ў папцы вытворчага аддзелу ЦРК. Пасьля суда, які адбыўся над былым загадчыкам пякарні і загадчыкам вытворчага аддзелу ЦРК, усе дырэкт. па пытаньні хлебапячэньня былі перададзены другому загадчыку, у якога таксама ляжаць у папцы не разабраныя, і праверкі выкананьня іх з боку праўленьня ЦРК няма.

Зьнішчыць ўсе вышэйпаказаныя недахопы ЦРК зможа толькі тады, калі будзе праведзена адзінае кіраўніцтва ўсімі пякарнямі, устаноўлен нармальны рабочы дзень, даведзен да кожнага рабочага прамфінплян, разгорнуцца соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

# Аб чым гаварылі на IV з. с. к. БССР

## Справаздача тав. Хаскіна

### на зьезьдзе спажывецкай каапэрацыі

#### Як выконвае спажкаапэрацыя пяцігадовы плян.

Спажывецкая каапэрацыя ў БССР, як наогул па ўсім Савецкім Саюзе, непарыўна зьвязана з агульным ростам, з агульным разьвіцьцём нашае народнае гаспадаркі, яна разгортвалася шпаркімі тэмпамі.

Той пяцігадовы плян будаўніцтва спаж. каапэрацыі і ў БССР, які быў зацьверджаны паўтары гады назад у асноўных галінах нашай работы, ужо з правышэньнем выканан у 1929-30 годзе.

Я вам падам некалькі лічбаў, і вы ўбачыце, якое перавышэньне мы маем. Па сельскім сэктары ў 1929-30 годзе будзем мець колькасьць пайшчыкаў 915 тысяч, да канца пяцігодкі ў нашым пяцігадовым пляне мы праэктуем 595 тысяч. Гэта значыць, што мы ўжо ў 1929-30 годзе перавыканаем заданьне па каапэраваньню насельніцтва вясковай сеткі на 91 проц., а па гарадзкой мы маем зараз 287 тысяч пайшчыкаў: запраэктавана па пяцігодцы 263 тысячы. Выканана 109 проц.

Колькасьць гандлёвых пунктаў на сёняшні дзень дае перавышэньне пяцігодкі на 32 проц. па сельскай сеці і на 33 проц. па рабочай.

Раздробны таваразварот у 1929-30 годзе складаў 285 млн., пяцігодкаю-ж вызначаўся да канца пяцігодкі ў БССР— 279 млн.

Гэта паказвае, што мы ўжо ў 1929-30 годзе, у другім годзе пяцігодкі, маем 100-проц. выкананьне пляну таго, што мы меркавалі мець да канца пяцігодкі.

Надзвычай характэрныя лічбы мы таксама маем і па справе грамадзкага харчаваньня. Было запраэктавана да канца пяцігодкі па грамадзкім харчаваньні мець зварот у 5.087 тысяч, зараз-жа мы маем 14 млн. руб.

Аб чым гэта сьведчыць? Гэта сьведчыць з аднаго боку аб тым, што мы на фоне тых вялікіх дасягненьняў, аб якіх я гаварыў і якія мелі месца ў справе спажывецкай каапэрацыі, ня прынялі пад увагу ў пяцгадовым пляне цэлы рад вялікіх магчымасьцяй, як буйны рост запатрабаваньня рабочае клясы, бядняцка-серадняцкай масы, якія будуць да нас прад'яўляцца ў першыя гады пяцігадовага пляну і разьвіцьця сацыялістычнага будаўніцтва.

Гэта падкрэсьлівае, што намі ня зусім поўна таксама быў улічаны цэлы рад галін работы, якія неабходна ўзьняць у справе разьвіцьця на адпаведную вышыню. Таму і атрымалася такое становішча, што мы ў справе грамадзкага харчаваньня надалі такі мізэрны тэмп у сваёй пяцігодцы, што ён зразумела ў 2—3 разы перавыканан ужо зараз. Гэта, аднак, не дае нам, ніякага права тут, на гэтым зьезьдзе заявіць аб тым, што мы можам гэтымі дасягненьнямі, аб якіх я толькі тут гаварыў, задаволіцца.

Бязумоўна, у нас шмат дасягненьняў, але мы гэтымі дасягненьнямі ні ў якім разе ня можам задаволіцца, мы гэтымі дасягненьнямі ня маем права задаволіцца.

Перад намі зараз паўсталі і стаяць са ўсей вастратой надзвычай шмат новых вельмі адказных задач,

і калі параўнаць вось гэтыя пасобныя посьпехі, якія мы маем у нашай рабоце, з тымі вялізарнейшымі задачамі, якія перад намі пастаўлены, з важнасьцю гэтых задач,—дык, бязумоўна, гэтыя посьпехі бляднеюць, гэтыя посьпехі здаюцца надзвычайна мізэрнымі, дробнымі.

Таварышы, тая ацэнка, якая дадзена XIII зьездам КП(б)Б нашай рабоце, зьяўляецца наступнай:

XIII зьезд КП(б)Б па дакладах таварышоў **Гея і Васілевіча** ў сваёй пастанове адзначыў: „Матар'яльнае становішча рабочае клясы палепшылася, аднак цяжкасьці за апошні час у забесьпячэньні рабочага насельніцтва мясам, тлушчам, недахоп на рынку раду прамысловых тавараў, а таксама і бюрократызм, і ня гнуткасьць апарату каапэрацыйных арганізацый, недастатковы кантроль з боку рабочых над яго работай адбіваюцца на ўзроўні матар'яльнага бюджэту рабочых".

Далей, таварышы, ацэнка, якая была дадзена тав. **Сталіным** у ягоным дакладзе, а потым у адным з пунктаў пастаноў 16-га зьезду Усе КП(б) па дакладу тав **Сталіна і Кагановіча**, яскрава ставяць перад намі тыя задачы, аб якіх я гаварыў.

Я думаю, што гэту цытату тав. Сталіна нам ня толькі трэба паўтараць, але вывучаць, зрабіць з яе цэлы шэраг вынікаў, намеціць мерапрыемствы, каб у сапраўднасьці гэтую ўстаноўку ператварыць у такое дзейснае мерапрыемства, якое бы дало магчымасьць нашай партыі праз некаторы час сказаць нешта іншае аб працы спаж. каапэрацыі. Таму я дазволю сабе зачытаць цытату.

„Я ўжо не гавару аб тым, што апарат каапэрацыі больш за ўсё клапоціцца аб балянсе, у зьвязку з чым занадта туга ідзе на зьніжэньне раздробных цэн, ня гледзячы на катэгарычныя дырэктывы з боку кіраўнічых цэнтраў. Выходзіць, што каапэрацыя дзейнічае ў даным выпадку не як сацыялістычны сэктар, а як сваяасаблівы сэктар, які заражаны нейкім нэпманскім духам. Паўстае пытаньне, каму патрэбна такая каапэрацыя і якая карысьць для рабочых ад яе манаполіі, калі яна ня выконвае задачы сур'езнага паляпшэньня рэальнай зарплаты рабочых?

І калі, ня гледзячы на гэта, рэальная зарплата ў нас усё-ж няўхільна павышаецца з году ў год, дык гэта азначае, што наш лад, сыстэма разьмеркаваньня народнага даходу і ўся ўстаноўка па лініі зарплаты такія, што яны маюць магчымасьць паралізаваць і перакрыць усе і ўсякія мінусы, якія ідуць ад каапэрацыі".

Вось тая ацэнка, якую зрабіў тав. **Сталін** у сваім дакладзе.

Тав. Кагановіч па пытаньні аб нашай рабоце ў вёсцы, аб ролі спаж. каапэрацыі ва ўсёй рабоце ў вёсцы даў нам ня менш лестную ацэнку, чым гэта зрабіў тав. Сталін.

Тав. Кагановіч сказаў наступнае: „Вялікая роля спажкаапэрацыі. Лік пайшчыкаў спажкаапэрацыі вырас больш, чым у два з паловай разы, і зараз у вёсцы лічыць у 26 міл. пайшчыкаў спажкаапэрацыі. Як спажкаапэрацыя арганізуе гэтых пайшчыкаў, ці памагла спажкаапэрацыя па лініі арганізацыі калхозаў, ці адчувалася на мясцох спажкаапэрацыя, калі партыя змагалася за арганізацыю мас? Не, таварышы, каапэрацыя гандлюе ў вёсцы, але бадай і ніякай масавай работы не вядзе". Вось вам другая ацэнка спаж. каапэрацыі.

Нарэшце, таварышы, ацэнка, якую зрабіў Цэнтральны Камітэт Усе КП(б) ад 15 мая. Вы аб ёй добра ведаеце, я аб ёй буду гаварыць далей.

Аб чым, таварышы, усё гэта гаворыць? Ці ёсьць зараз які-небудзь сэнс займацца гутаркамі аб тым, што гэта здарылася таму, што Цэнтрасаюз вінаваты, а гэта таму, што БКС вінаваты і г. д. Таварышы, няма ніякага сэнсу; трэба сказаць што мы ўсе вінаваты. Вінаваты

Цэнтрасаюз, вінаваты БКС, вінавата любое спаж. таварыства, вінавата любое ЦРК, таму што ўсе на адну хваробу хварэлі.

Вось той манаполіяй, аб якой гаворыць тав. Сталін—мы ўсе былі заражаны. Нам здавалася, што паколькі мы зьяўляемся адзінымі манапалістымі па рынку, нам усё ні пачым, наплюваць, нікуды спажывец ня дзенецца, усё роўна да нас прыдзе. Нам здавалася, паколькі ў нас асноўны рычаг тавараздароту, дык хто можа нам што небудзь сказаць.

Вось у выніку чаго атрымалі мы, таварышы, такую моцную ацэнку з боку нашай партыі, моцную дырэктыву з боку XIII зьезду КП(б)Б і 16 зьезду Усе КП(б) аб далейшых тэмпах працы спаж. каапэрацыі.

### Арганізацыйна-масавая работа.

Таварышы, пераходзячы да пасобных галін нашай працы, я павінен раней за ўсё спыніцца на арганізацыйна-масавай працы нашай сыстэмы. Вы, таварышы, ведаеце, што за апошнія гады ў арганізацыйна масавай працы некаторае палепшаньне маем: у нас вырас лік пайшчыкаў, які зараз складае амаль што каля 90 проц. каапэраваньня сялянскіх двароў; у нас амаль што поўнасьцю каапэравана беднята мы зараз маем амаль што ўсю беднату каапэраванай. У нас члены прафсаюзаў каапэраваны амаль што на 100 проц.

У нас сума паявых капіталаў вырасла з 2 міл. 880 тыс. на І-Х 1928 г. да і 11700 тыс. У нас, таварышы, павялічылася колькасьць розных масавых форм работы, якія садзейнічалі павялічэньню якасьці работы спаж. каапэрацыі. Але, таварышы, калі вы паглядзіце на цэлы рад важнейшых задач у рабоце спажкаапэрацыі, вы знойдзеце ня ўсё так як патрэбна. Вось, напрыклад, вазьмеце работу з беднатой. Вы, таварышы, ведаеце, што партыя паставіла перад намі надзвычай востра пытаньне аб тым, што мы, як арганізацыя грамадзкая, павінны былі работу з беднатой разгарнуць як мага шырэй. Але вось лічбы, якія мы маем у справаздачах, гавораць аб тым, што пры праўленьнях спажтаварыстваў у нас у 1928-29 г. было 217 чал. бедняты і батракоў, а ў 1929 г. гэтая лічба ня вырасла.

Далей, таварышы, наконт самой работы па каапэраваньню. У нас маюцца скрыўленьні клясавай лініі. Маюцца такія выпадкі ў Воршы, Гомелі, Мазыры, дзе каапэравалі за кошт фонду бедняты серадняцкае сялянства, цэлы рад чужых элемэнтаў—кулакоў, гандляроў. Ёсьць. таварышы, такія выпадкі. Некалькі часу таму назад ЦК КП(б)Б, калі заслуховаў нашу справаздачу аб выніках работы па каапэраваньні бедняты, кансгатаваў шмат пунктаў, жыцьцёвых пунктаў. У сваіх пастановах ЦК КП(б)Б зьвярнуў увагу на скрыўленьні клясавай лініі асобнымі арганізацыямі спажкаапэрацый у справе каапэраваньня бедняты. Былі выпадкі, калі фонды каапэраваньня бедняты заставаліся нявыкарыстанымі, тады калі маецца значная частка батрацтва і бедняты не каапэраванымі. Аб чым гэта сьведчыць? Гэта сьведчыць аб тым, што ўвага да гэтай важнай працы была недастатковай. Было недастаткова палітычнае разуменьне усёй важнасьці гэтай работы спажкаапэрацыі з беднатой і батрацтвам,—вось аб чым гэта сведчыць.

Далей, таварышы, мы маем у адносінах органаў грамадзкасьці надзвычайна дрэнную пастаноўку работы. Мы маем надзвычайна дрэнную пастаноўку работы і рэвізкамісій. Мы маем адсутнасьць увагі з нашага боку к рабоце органаў кантролю. Гэтыя органы ня жыцьцёвыя, мертвыя, яны не працуюць ад сходу да сходу. Я не кажу аб тым, што вельмі часта, пры больш цьвёрдай праверцы, іх вынікі ня сходзяцца з тым становішчам, якое ёсьць у асобных арганізацыях. Вы паглядзіце на становішча гэтых органаў кантролю зараз. Вы ведаеце, што мы за апошні час мелі шмат

прарываў у нашай сыстэме. Вы паглядзіце наконт становішча з Добрушам, Оршай, Полацкім аддзяленьнем БКС, Гомлем і г. д. Надзвычайна шмат буйных прарываў мы мелі ў нашай сыстэме. Хто іх выкрыў? Вы пастаўце зусім адкрыта пытаньне па-пралетарскі, кім былі ўскрыты гэтыя прарывы? Што мы іх з вамі ўскрылі? Не, ні рэўкамісіі, ні інструктары, якіх сотні налічваюцца, а іх ускрылі ў аднэй частцы камісіі па чыстцы савецкага каапэрапарату, якія праводзілі сваю працу пры прыцягненьні сапраўднай грамадзкасьці пры разгортваньні ўсяе праверкі на вачох грамадзкасьці, і з другога боку, іх ускрылі цэлы шэраг другіх арганізацый. Але ня мы з вамі. Чым гэта растлумачыць пытаньне? Ці можна гэта тлумачыць тым, што гэта нешта выпадковае. Гэта можна тлумачыць тым, што мы ў гэтай справе праспалі, і самі праспалі і таксама далі магчымасьць іх ворганам кантролю, грамадзкасьці таксама спаць. Гэта тлумачыцца тым, што наша арганізацыйная інструктарская праца зусім не прыстасавана да сёньняшніх умоў. Яе праца бюрократычна, яна заключаецца у абсьледваньнях, праводзіцца габінэтным парадкам; вышукваньні паявых капіталаў не прыцягвалі да кантролю грамадзкасьці не ўнікалі ў становішча ўсёй работы. Вось дзе прычына. І калі мы гаворым аб рабоце і становішчы органаў грамадзкасьці ў нашай сыстэме, мне думаецца, што будзе не самабічаваньнем калі мы скажам, што ў гэтых адносінах у нас справа абстаіць зусім дрэнна.

Дзеля таго, каб на гэтай базе, на базе гэтай ацэнкі зрабіць рашучы крок, трэба наблізіць шырокія пралетарскія масы да работы нашай каапэрацыі. У рэзалюцыі XVI зьезду УсеКП(б) моцна сказана, што кантроль з боку рабочых над нашай працай быў надзвычайна слабы. Адсюль вынік, што мы павінны гэты кантроль у 10 раз павялічыць.

Я павінен сказаць, што да масавай працы мы ў шмат выпадках аднасіліся фармальна. Вы вазьміце наш удзел у правядзеньні вясновай пасеўнай кампаніі. Мы, таварышы, крычалі, дабівалісь і інш., і што мы зрабілі? Надзвычайна мала. Мы ў цэлым шэрагу мерапрыемстваў па вясновай кампаніі не аказвалі неабходнай дапамогі, якую не маглі не аказаць і якую павінны былі аказаць.

Тав. Поздньнышаў гаварыў аб нашай працы ў галіне соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Я не хочу паўтарацца, я поўнасьцю тут згодзен з т. Поздньнышавым, бо гэта поўнасьцю азначае і наша становішча з пачатку, мы трошкі раскачалісь: давайце пачнем спаборнічаць адзін з другім — Гомель з Магілевам, Магілеў з Віцебскам, а па таварыствах з другім і г. д., а потым даігралісь, як гэта кажуць, і на гэтым соцспаборніцтва, мэтад працы па найбольшаму абслугоўваньню, узмацненьню тэмпаў працы і атрыманьня неабходных дасягненьняў у працы застыў.

(Голас з месца—а ў Белкаапсаюзе як?)

— І ў Белкаапсаюзе ў тым ліку. Я хачу вас папярэдзіць, каб вы не клапаціліся, я Белкаапсаюз не запамятаю і дайду да яго і ўсё скажу.

Некалькі слоў у гэтым разьдзеле наконт нашага арганізацыйнага будаўніцтва. Мы зараз рэарганізуем нізавую сетку ў раёны. Я не хачу зараз застанаўлівацца на ўсёй гісторыі гэтага пытаньня. Яно ўсім вядома, але я хачу застанавіцца толькі на аднэй частцы гэтага пытаньня. Гэта тое, што мы ў гэтай справе маем шмат вялікіх недахопаў. Яны у асноўным заключаюцца ў тым, што мы рашаючы праводзім рэарганізацыю нашай сыстэмы, не задумалісь над тым, каб узбуйніць с.-т. у раёныя. Уся рэорганізацыя сыстэмы павінна праходзіць пад пунктам погляду выключна паляпшэньня працы сыстэмы, патаненьня яе працы, паляпшэньня і спрашчэньня таварапрасоўваньня, лепшай

расстаноўкі нашай крамнай сеткі, паляпшэньня абслугоўваньня сацыялістычнага сэктару і г. д.

Вось гэтага ў асобных акругах, не замецілі, і атрымалась—кавалерыйскім наскокам прыяжджалі ў раён, рэарганізоўвалі 5-6 с. т. у адно раённае, не ўкамплектоўвалі раённае с.-т. адпаведнымі працаўнікамі, не прапрацоўвалі плянаў наогул рэарганізацыі ў раёне. Атрымліваліся становішча ня толькі палепшаньня аднаго з гэтых момантаў, а наогул пагоршаньня. Гэткае становішча, мы маем у Магілеўскай акрузе. Няхай таварышы скажуць, што гэта ня так.

Такое становішча мы маем і ў Бабруйскай акрузе. Мы яшчэ забыліся, што спажывецкая каапэрацыя застаецца і ў далейшым адным з асноўных загатаўцеляў, што на спажывецкай каапэрацыі ляжыць адказная задача па выкананьні вялікіх плянаў загатовак і, забываючы гэта, у цэлым шэрагу акруг ліквідавалі спажывецкія таварыствы, зьвярнулі іх у раёны і не пакінулі ніякіх загатаўцельных пунктаў, а загатаўцеляў спэцыялістых распусьцілі. Праўда, гэтаму садзейнічалі тыя настроі, што спажывецкая каапэрацыя ў загатоўчай рабоце зварочваецца і гэтак далей. Але гэта былі толькі разгаворы, бо ня было ад гэтых установак ні партыйных, ні ўрадавых, ні рэгулюючых органаў.

Такое становішча павінна быць улічана нашым зьездам і выпраўлена. Далейшая рэарганізацыя павінна iсьці так, каб асноўныя элемэнты, якія закладзены ў гэтую рэарганізацыю, былі поўнасьцю апраўданы ў тым сэнсе, што трэба палепшыць транзыт, прыблізіць нашу сыстэму да спажыўца і г. д. Наогул, я павінен сказаць, што, праводзячы гэтую рэарганізацыю, мы зусім правільна паставілі пытаньне і поўнасьцю згадзілі яго з пастановай Саюзу ССР аб тым, што пры цяперашнім становішчы нашых раёнаў, пры тэй умове што раёны зараз павінны быць вузлавымі пунктамі пры правядзеньні ўсіх мерапрыемстваў партыі, і ў тым ліку, мерапрыемстваў у справе спажывецкай каапэрацыі, калі мы ставім давядзеньне транзыту ня менш як да 85-95 проц., калі мы ставім пытаньне аб дастаўцы тавараў непасрэдна ў нізоўку,—мы правільна паставілі пытаньне наконт непатрэбнасьці райсаюзаў і аддзяленьняў незалежна ад таго, што зараз вырашана пытаньне наконт ліквідацыі акруг, як адміністрацыйных цэнтраў.

Як мы ставім пытаньне наконт райсаюзаў? Мне здаецца, што ў спрэчках гэтае пытаньне будзе закранута, і мы павінны ліквідацыю нашых райсаюзаў зараз-жа ўвязаць з тэрмінамі ліквідацыі акруг наогул. Калі раней мы хацелі ліквідаваць саюзы праз месяц, тры чатыры, пяць, то цяпер ліквідацыю саюзаў трэба пабудаваць у поўнай суадпаведнасьці з ліквідацыяй акруг, таму што ўстаноўка ліквідацыі акруг такая, што яна ня будзе надоўга расьцягнута.

Наша інструктарская работа павінна быць рашучым чынам перабудавана, яна павінна зьяўляцца інструктарска-кантрольнай работай, выключна праводзячай сваю працу праз прыцягненьне шырокіх мас да сваёй работы, праз прыцягненьне грамадзкасьці да ўсяе работы, па інструктаваньні кантролю і г. д.

### Культурна-бытавая работа

Пытаньне наконт культурна-бытавой работы. Мы ў справе культурна-бытавой работы за гэты адрэзак часу ад 3 сходу ўпаўнаважаных да 4 зьезду ў спажывецкай каапэрацыі маем колькасныя паказчыкі ня зусім дрэнныя. Напрыклад, кнігагандаль у нашай сыстэме з 379 тыс. руб. на 1 кастрычніка 1928 году вырас да 1 млн. 100 тыс. руб., на 1 кастрычніка 1929 г. і далей мы даём вялікі ўзрост на 1930-31 г. Таксама ў адносінах беларускай літаратуры трэба сказаць, што абароты нашы павялічыліся: калі ў 1928 годзе мы пра-

далі беларускай літаратуры на 122 тыс. руб., то на 1 кастрычніка 1930 г. гэтая лічба складае 375 т. р. Таксама і колькасьць кнігагандлёвых пунктаў у нас значна павялічылася і ў горадзе і ў вёсцы. Нагогул трэба сказаць, што ў вёсцы сыстэма спажывецкай каапэрацыі зьяўляецца амаль што асноўнай кніга-прасоўваючай арганізацыяй. Зараз і ў горадзе па пытаньні аб прасоўваньні кнігі ЦК КП(б)Б выказаўся, што і ў горадзе паступова гэтая справа павінна пераходзіць у рукі нашай рабочай каапэрацыі.

І ў другіх вучастках нашай культурнай працы мы маем досыць ня дрэнныя паказчыкі. Гэта можна сказаць, напрыклад, аб кіно-працы. Калі на 1 кастрычніка 1930 г. у нас кіно-стацыянарак было 5, то цяпер іх маецца 45, кіно-перасовак было 126, а зараз—275.

Таксама мы разгарнулі работу і па радыё.

Мы ўжо цяпер маем па нашай сыстэме, прыкладна, каля 1.500 гучнагаварыцеляй.

Цэлы шэраг мерапрыемстваў, якія мы зараз праводзім у галіне далейшага разгортваньня кіно і радыё, гаворыць аб тым, што мы ў бліжэйшы час таксама зробімся аднэй з асноўных арганізацый па правядзеньню гэтай работы, якая ў значнай меры ўзьдзейнічае на ўзьняцьце культурнага ўзроўню нашых працоўных мас.

Мы таксама маем і добрыя колькасныя паказчыкі і ў справе каапасьветы. Колькасьць гурткоў выдаткі на справу ліквідацыі няпісьменнасьці ўзрасьлі—8 000 руб. у 1928 годзе і 123.000 руб. у 1930 г. на ліквідацыю няпісьменнасьці, 8.000 і 123.000—надзвычайна вялікая розьніца.

Я таксама прывяду некалькі лічбаў, што намі праароблена ў сэнсе павялічэньня сеткі бытавых арганізацый. Напрыклад, колькасьць ясель у вясковым сэктару было 83, а цяпер 334, у гарадзкім сэктары было 4 у 1929 годзе, зараз мы маем каля 15-ці.

Цэлы шэраг іншых мерапрыемстваў, якія намі праведзены ў гэтай справе гавораць аб тым, што наша арганізацыя ў паасобных галінах культурна-бытавой працы мае некаторыя паказчыкі, пры тым зусім нядрэнныя. Але побач з гэтым я павінен адзначыць, што якасьць нашай работы тут ня зусім здавальняючая, што мы на мясцох зварочваем мала ўвагі.

Ёсьць адзін культурна-бытавы інструктар, і мы ўсе лічым, што ён павінен выконваць гэту работу. Мы гэтай рабоце ўдзяляем надзвычайна мала ўвагі.

### Гаспадарчая дзейнасьць

Наша гаспадарчая дзейнасьць за апошні год у значнай меры пашырылася. Яна пашыраецца ня толькі ў сувязі с тым вялікім ростам таваразвароту, які мы маем, але і за кошт пашырэньня цэлага раду новых мерапрыемстваў. За апошні год у значнай меры разгарнулася работа па лініі грамадзкага харчаваньня, хлебапачэньня і па лініі зусім новай работы—гэта сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, прыгарадныя гаспадаркі, сьвіняадкормачныя пункты, малочныя фэрмы і г. д.

Агульны зварот падзяляецца паміж паасобнымі сэктарамі, сельскім і гарадзкім, наступным чынам: звароты вясковай каапэрацыі складалі ў 1927-28 годзе 79 млн. руб., у 1928-29 г.—105 млн. руб., у 1929-30 г. даюць—156 млн. руб.

Першае паўгодзьдзе выкананьня плянаў па таваразвароце зусім выразна паказвае, што вызначаны плян звароту ў 150 млн. руб. будзе поўнасьцю выкананы. Есьць нават усе падставы чакаць, што таваразварот будзе значна большым параўнальна з запраэктаваным па сельскай сетцы. Кантрольнымі лічбамі па вясковай сетцы вызначана павышэньне таваразвароту да 213 млн. руб. замест 156 млн. руб. на гэты год. Гэта значыцца рост на 65 проц. Прамтавары складалі ў нас у 1928-29 г.—89 млн. руб. з

105 млн. агульнага таваразвароту, у 1929-30 г.—127 мнл. з 156 мнл. р., і па кантрольных лічбах мы вызначаем 213 млн. руб. Гэта значыць, калі агульны таваразварот на таварнай сетцы дае рост на 65 проц., дык па прамтаварах мы маем рост на 67 проц. Мне здаецца, што рост зваротаў па прамтаварах на 1930-31 г., каторыя запраэктаваны ў кантрольных лічбах, поўнасьцю адпавядае тым установкам, якія зроблены партыяй і XVI зьездам партыі.

Вялікія посьпехі, што мы маем за апошнія гады ў галіне разьвіцьця цяжкай індустрыі па вырабе сродкаў вытворчасьці, далі ўжо магчымасьць паставіць пытаньне аб значным пашырэньні прамысловасьці, якое вылучыла сродкі спажываньня. Наступны год, бязумоўна, дасьць значна большыя фонды патрэбных прамтавараў, чым мы гэта маем за апошнія гады. Таму і той рост прамтавараў і таваразвароты, якія мы вызначаем па вясковым сэктары на 67 проц., зьяўляецца зусім правільным.

Сельска-гаспадарчыя тавары ў гэтым звароце складалі ў 1927-28 годзе—20 млн. руб., у 1928-29 г. ідзе паніжэньне—да 13 млн. руб., а ў 1929-30 г.—22 млн. руб. На 1930-31 г. мы праэктуем таваразварот па сельска-гаспадарчых таварах, прыкладна, у суме 35 млн. руб., г. зн. рост на 40 проц.

Цяпер адносна рабочай сеткі. Увесь зварот рабочай каапэрацыі БССР у 1927-28 г. складаў 77 млн. руб., у 1928-29 г.—114 млн. руб., у 1929-30 г.—168 млн. руб. і на 1930-31 г. мы вызначаем 265 млн. 500 тысяч руб. Такім чынам, мы ў 1930-31 г. будзем мець рост зваротаў па рабочай сетцы на 50 проц.

Прамтавары ў 1928-29 г. з 114 м. агульнага таваразвароту складалі 71 млн. руб., у 1929-30 г.—будуць складаць 158 млн. руб.

Па с.-г. таварах на 1930-31 г. рост зваротаў вызначаны на 41,4 проц.

У далейшым мы павінны будзем яшчэ больш шырока разгарнуць нашу работу па грамадзкім харчаваньні. Нам трэба шпарка пашырыць тэхнічную базу параўнальна з тым, што мы маем у гэтай галіне на сёньняшні дзень.

Надзвычай цікава прасачыць за тым, як за апошні год таваразварот і па горадзе і па вёсцы разьмяркоўваецца сярод насельніцтва гораду і вёскі. Зварот на аднаго чалавека па вясковай каапэрацыі дае: у 1927-28 г.—17 р. 91 кап., у 1928-29 г.—24 руб. 46 кап., у 1929-30 г.—34 руб. 73 кап., у 1930-31 г., паводле кантрольных лічбаў—56 р. 16 к. Прамтавары складалі на душу насельніцтва ў 1927-28 г. 14 руб., у 1928-29 г.—20 р., 1929-30 г.—28 р. і 1930-31 г. будуць складаць 46 р. Гатовае адзеньне з 25 к. на душу ў 1927-28 г. дае рост да 2 руб. 62 к., абутак з 1 р. да 3 р. 42 к. у 1929-30 г. Нават цукер, які мы сёлета сурова нармуем па ўсіх сэктарах, а на вёсцы мы адпускаем надзвычай абмежаваныя нормы, дае рост з 1 р. 26 к. да 1 р. 64 к. у 1929-30 г.

### Загатоўкі

**Пераходжу да пытаньня загатовак.** За апошнія гады наша сыстэма заняла месца аднаго з асноўных загатоўшчыкаў на рынку. У галіне загатовак мы можам канстатаваць рад дасягненьняў. Так, напрыклад, процант збыту с.-г. прадуктаў і сырцу павялічыўся з 47 проц. у 1927-28 г., да 75 проц. у 1929-30 г. У мінулым годзе мы з збожжазагатоўчай кампаніяй справіліся, нават выканалі плян у два разы больш вызначанай колькасьці. Мы таксама больш-менш здавальняюча справіліся і з загатоўкай ільну. Зўсім дрэнна стаіць справа з другараднымі відамі экспарту. Даволі сказаць, што плян загатовак цэлага раду каштоўных другарадных відаў, як косьць, рызьзё і г. д., выканана надзвычай дрэнна. Процант выкананьня гадовага пляну, напры-

клад па косьці, не перавышае 9—10 проц.

У адносінах гэтых каштоўных відаў мы чамусьці лічым справу загатовак другараднай справай. Кантрактацыя скаціны выканана толькі на 24 проц. пляну, сьвіней 4 проц., цялят $2^1/_2$ проц., а па загатоўцы масла, дык нават нельга назваць процанту. У галіне загатовак масла трэба проста заявіць, што мы сарвалі і цяпер зрываем плян загатовак. Трэба з усёй рашучасьцю паставіць пытаньне так, што нашы раённыя спажыўтаварыствы павінны адкінуць думку, што яны зьяўляюцца толькі гандлюючымі арганізацыямі і разьмяркоўваюць тое, што ім даюць. Трэба, каб райспажыўтаварыствы зьяўляліся такімі арганізацыямі на сяле, якія-б займаліся разгорнутай гаспадарчай работай.

Такое-ж становішча і з тарай. Усім вядома, што ў цэнтры набыць тару цяжка, а ў раёнах можна знайсьці цэлы рад магчымасьцяй, каб падрыхтаваць гэту тару. Там гэта значна лягчэй, там ёсьць розныя саматужныя бандарныя арцелі. Трэба толькі праявіць максымальную ініцыятыву і жаданьне, не шкадаваць лішняга работніка ў апарат раённага спажыўтаварыства.

У галіне загатовак перад намі зараз стаяць надзвычайна адказныя задачы.

Папершае, збожжазагатоўчая кампанія.

Гэтую кампанію трэба разгарнуць яшчэ больш шпаркім тэмпам, чым у мінулым годзе, бо спробы з боку кулацкіх элементаў сарваць кампанію будуць ня меншыя за леташнія. Таму, работа кааперацыйных органаў, пад кіраўніцтвам партыі, павінна ісьці па лініі мабілізацыі і ўвагі мас для перамаганьня ўсіх гэтых спроб з боку клясавага ворага. У пастанове Саўнаркому аб збожжазагатоўках паказана, што паляводная каапэрацыя праводзіць загатоўку толькі закантрактаванай часткі збожжа ў калгасах. Усю іншую загатоўку збожжа і ў калгасах і па-за калгасамі праводзіць выключна спажыўка апэрацыя. Адсюль вывад, што на нашу сыстэму ўскладзена надзвычай адказная задача. Трэба належным чынам падрыхтаваць апарат, ужыць усе меры да пашырэньня складзкой гаспадаркі і г. д.

Другая кампанія, — гэта кампанія па загатоўцы плодагародніны і садовіны.

З такой разгорнутай праграмай па гэтых відах мы выходзім упяршыню. Гэта справа новая, вельмі складаная, якая патрабуе максымальнае ўвагі, бо найменшая нядбайнасьць можа прывесьці да нядобрых вынікаў. Мы павінны гэту работу паставіць так, каб лішкі па плодагародніне і садовіне былі намі цалкам скарыстаны. Частка загатоўленага пойдзе для забесьпячэньня рабочае каапэрацыі БССР, а другая частка па нарадах на вываз. Трэба ўкамплектаваць на мясцох апарат хоць мала-мальскі адпаведнымі работнікамі. Ужо зараз трэба заарандаваць і закантрактаваць усе сады, фрукты і гародніну.

Грыбная кампанія сёлета набывае вялікае значэньне. Гэта работа павінна прыкаваць усю нашу ўвагу. Сёлета плян загатовак грыбоў вызначаны ў 1.300 тон, замест леташніх 240 тон.

### Грамадзкае харчаваньне

Некалькі слоў адносна грамадзкага харчаваньня. Колькасныя паказальнікі сьведчаць аб тым, што мы маем значны рух у гэтай галіне. Зараз колькасьць абедаў у буйных гарадох павялічалася ў 3-4 разы, з 10 тысяч да 35 тысяч ў дзень. Але побач з гэтым мы ўсё-ж у гэтай галіне маем не паляпшэньне, а значнае пагаршэньне. Нярэдкі выпадкі павышэньня цэн на абеды. Трэба проста сказаць, за апошнія 6 месяцаў грамадзкае харчаваньне было толькі сродкам накапленьня і прыбытку. Усе тыя агіднасьці, якія мы сустракаем у сталовых залежаць вы-

ключна ад нас саміх. Трэба дабіцца рашучага пералому ў адносінах паляпшэньня грамадзкага харчаваньня.

### Капітальнае будаўніцтва

У галіне капітальнага будаўніцтва мы ў 1929-30 г. укладаем 4.465.000 руб. замест 1.182.000 р. у мінулым годзе. А на 1930-31 г. кантрольнымі лічбамі ўкладаньні па капітальным будаўніцтве будуць даведзены да 21.770.000 руб. Гэтыя лічбы датычаць толькі рабочую каапэрацыю.

Гэтыя ўкладаньні дадуць нам магчымасьць у будучым годзе прыступіць да пабудовы цэлага раду буйных сталовых, фабрык-кухань у Гомлі, Віцебску і іншых гарадох; гэта дае магчымасьць пачаць пабудову ў Менску другога хлебазаводу і скончыць у некаторых мясцох распачатыя пабудовы хлебазаводаў.

Дзякуючы такім укладаньням мы канчаткова пашырым сетку хавальняў для гародніны. Плошча прыгарадных гаспадарак будзе даведзена ў будучым годзе да 300 гэктараў. Пры Менск:м і Віцебскім цэрабкоопах будуць арганізаваны 3 птушка - трусаводныя гаспадаркі. Арганізуецца таксама 4 малочных станцыі: у Менску, Віцебску, Гомлі і Бабруйску.

Як бачыце, гэтыя капіталаўкладаньні павінны рэзка відазьмяніць нашу гаспадарку ў бок значнага пашырэньня ўсяе нашай каапэрацыйнай црамысловасьці.

У будучым годзе мяркуецца пабудаваць на Беларусі і кансэрвавы завод. Наогул будзе пашырана харчовая прамысловасьць па лініі спажыўкаапэрацыі. Будуць пашыраны таксама сьвінаадкормачныя гаспадаркі. Вы ведаеце, што нам зараз даручана арганізаваць у Менску буйную сьвінаадкормачную гаспадарку на 25.000 сьвіней. Цэнтрасаюз, па маёй інфармацыі, згадзіўся, з арганізацыяй гэтай гаспадаркі і дае 50 проц. сродкаў на гэту мэту.

Наша фінансавае становішча на сёньняшні дзень характарызуецца значным ростам паявых капіталаў. За апошнія два з паловаю гады ўласныя нашы сродкі вырасьлі на 7.879.000 р. і складалі на 1-е сьнежня 1929 г. 20.970.000 руб. супроць 13.097000 р. на 1 кастрычніка 1928 г. Але мы гэтымі статоўчымі вынікамі ні ў якім разе ня можам задаволіцца.

### Мабілізацыя сродкаў

Вялікія задачы, што стаяць перад намі, патрабуюць для свайго выкананьня максымальнага ўкладаньня сродкаў. Першае паўгодзьдзе гэтага году паказвае, што са справай мабілізацыі сродкаў вельмі дрэнна. Вясковая сетка за першае паўгодзе выканала толькі палову заданьня. Рабочая сетка—адну трэцюю. Таму, мы павінны з усёй рашучасьцю паставіць пытаньне аб поўным выкананьні плянаў па зборы паёў, укладаў і авансаў.

Дагэтуль некаторыя нашы арганізацыі яшчэ не ўзялі дадатковага дыфэрэнцыяванага паю. З боку самага Белкаапсаюзу ў гэтай галіне кіраўніцтва было не на адпаведнай вышыні. Усё гэта прывяло да таго, што ў першым паўгодзьдзі выкананьне гандальфінпляну фактычна сарвана.

### Кадры

У справе падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў сёе-тое зроблена, але надзвычай мала. Мы ў мінулым годзе дабіліся арганізацыі пры БДУ аддзяленьня спажыўкаапэрацыі, арганізацыі гадавых курсаў па падрыхтоўцы рабочых, беднякоў і батракоў у БДУ. За гэты год мы таксама правялі розныя курсы па розных галінах каапэрацыйнай работы. Але ўсё гэта надзвычай мала. Чыстка нашага апарату выявіла рад буйных недахопаў, і гэта сьведчыць аб тым, што мы не на ўсіх вучастках маем такіх людзей, якія-б былі здольны выканаць тыя задачы, якія ўскладзены на нас партыяй. Усё гэта гаворыць пра

тое, што нам трэба максімальна шырэй разгарнуць справу з падрыхтоўкай і перападрыхтоўкай кадраў, справу вылучэньня.

У справе вылучэньня мы маем некаторыя дасягненьні. У адным цэнтральным апараце Белкаапсаюзу ёсьць да 25 рабочых-вылучэнцаў.

Трэба зараз прыступіць да праверкі, наколькі ўсе нашы арганізацыі выканалі пастанову Цэнтральнага Камітэту аб падрыхтоўцы кадраў.

Некалькі слоў аб узаемаадносінах з Наркамгандлем і, галоўным чынам, з яго галінаванымі аб'яднаньнямі. Нам трэба, як мага хутчэй, устанавіць поўны кантакт і яснасьць. Стоячы на прынцыпе неабходнасьці дзяржаўнага рэгуляваньня, на прынцыпе поўнага правядзеньня мерапрыемстваў, строгім рэгуляваньні цэлага раду прадуктаў спажываньня, мы з Наркамгандлем разыходзімся ў гэтым пытаньні тады, калі справа даходзіць да разьмеркаваньня тавараў, да адказнасьці за разьмеркаваньне іх у нашай сыстэме.

Мы не згаджаемся з аб'яднаньнямі Наркамгандлю, і ў тым ліку з самым Наркамгандлем, калі ён хоча воляй або няволяй зрабіць нашы ЦРК, нашы саюзы яго інспэктарамі, агэнтамі і непасрэдным апаратам. Мы лічым неабходным, каб усе пляны забесьпячэньня, якія вамі складаюцца, рабіліся пры нашым удзеле. Вамі павінны нармавацца, устанаўляцца нормы і г. д.

Але нам яшчэ да сёньняшняга дня не ўдаецца выправіць гэтыя непаладкі. Ведамсьцьвенныя жаданьні паасобных галіновых аб'яднаньняў Наркамгандлю заключаюцца ў тым, каб камандаваць і рэгуляваць. Вось у чым заключаюцца нашы разыходжаньні. Усё-ж лічу, што мы з Наркамгандлем па цэлым радзе пытаньняў ужо дагаварыліся, і ў адносінах да паасобных галіновых аб'яднаньняў яго ўжо ўнесена большая ці меншая яснасьць і выразнасьць.

Апошняе, на чым я хачу спыніцца, гэта наконт цэн. Тое зьніжэньне, якое мы праводзілі за апошнія месяцы, датычыла ў асноўным прамысловых тавараў. Але эфэкт атрымаўся надзвычай малы і мы, такім чынам, дырэктывы партыі аб узьняцьці рэальнай зарплаты ня выканалі. Цэны на гэтыя тавары зьніжаны на 2,3 проц., пры наяўнасьці агульнага росту цэн па с.-г. групе тавараў на 13 з ліш. проц. Такім чынам, зьніжэньне ніякага эфэкту не дало. У значнай меры паменшыўся ахват рабочага бюджэту, асабліва сельска-гаспадарчымі прадуктамі. І трэба зусім адкрыта сказаць, што ўдзельная вага ахвату рабочага бюджэту прыватнікам-рынкам у гэтай галіне павялічылася. Таму, змаганьне за поўнае выкананьне дырэктывы партыі аб узьняцьці рэальнай зарплаты павінна весьціся рашуча.

Задача, якую мы ставім перад сабою—гэта поўны ахват рабочага бюджэту сельска-гаспадарчымі прадуктамі і тым самым поўнае выцісканьне з рынку прыватнага гандляра.

Я думаю, што пасьля чысткі нашага апарату, калі вычышчаны цэлы рад непатрэбных, варожых і чужых элемэнтаў, мы зараз маем поўную магчымасьць паіншаму ставіць цэлы рад пытаньняў і вырашыць іх у адпаведнасьці з дырэктывамі партыі, асабліва пасьля таго, як зьезд партыі рашуча паставіў пытаньне аб максымальнай дапамозе і садзейнасьці каапэрацыйнай арганізацыі.

Усе гэта дае нам права сказаць, што ў бліжэйшы час нам удасца сапраўды перабудаваць нашу работу, пайсьці ў нагу з усім нашым сацыялістычным будаўніцтвам, уключыцца ў тыя высокія тэмпы будаўніцтва, якія праведзены нашай партыяй на працягу апошніх год і, такім чынам, апраўдаць давер'е камуністычнай партыі і вырашыць ускладзеныя на нас задачы. (Воплескі).

# Выступленьне ў спрэчках прадстаўніка Цэнтрасаюзу т. Поздныэшава.

У спрэчках, памойму, няма абмену вопытам, а між тым аднэй крытыкі, бязумоўна, недастаткова. Няўжо на мясцох няма нічога добрага ў працы, каб вы маглі падзяліцца з трыбуны ўсебеларускага кааперацыйнага зьезду. Між тым гэта было-б больш каштоўным, чым лішні раз сварыцца на БКС ці Цэнтрасаюз. Бязумоўна, я ня супроць самакрытыкі. Памойму, таварышы, вы многа чаго ведаеце. Я буду проста гаварыць, пабальшавіцку— у нас многа недахопаў. Гэтыя недахопы я зараз пералічу. Вось тут чуліся такія настрої: не зрабілі таго і таго, таму што ня было цыркуляру; не зрабілі другога чаго-небудзь таму, што ня было інструктара, не зрабілі яшчэ чаго-небудзь таму, што ня было паведамленьня і інш. Але, таварышы, дазвольце запытаць, дзез-ж ваша самадзейнасьць? Дзе-ж, былі вашы творчыя парывы? Дзе-ж парывы тысяч пайнікаў? Ну, Цэнтрасаюз стаіць на вельмі вялікай дыстанцыі ад пайніка. Вось у гэтым і бяда Цэнтрасаюза, як і ўсіх цэнтральных устаноў. Але вы кожны дзень датыкаецеся да пайніка, вы дыхаеце і жывяце з масамі, у вас у першую чаргу разьвіваецца масавая самадзейнасьць, масавы пачатак, масавая энэргія. У спрэчках гэтага не адчувалася. Гэта ёсьць вялікая загана, якая накладае бюрократычны адценак ня толькі на Цэнтрасаюз, як грамадзкую арганізацыю, адарваную ад мас, але і на ўсю сыстэму. Я вас прашу вельмі і вельмі падумаць над гэтым становішчам. Не выпадкова, што ўсе дэлегаты, якія тут прайшлі, непасрэдныя практычныя працаўнікі, не маглі сказаць нічога новага. Пачаў адзін таварыш казаць аб новай форме арганізацыі крам, зараз жа пачалося на яго нейкае цыканьне, нават ня далі яму скончыць думку. Між тым форма, аб якой ён тут казаў, вельмі добрая і ўжываецца на паўночным Каўказе, дзе карыстаецца вялікім посьпехам. А чаму яе так адпіхаюць? Мабыць у практыцы такіх новых форм вельмі шмат, бо нам патрэбна перабудоўваць ўсю сваю работу. Паступова трэба адмаўляцца ад старых мэтадаў старога падыходу ў нашай працы.

Вы вельмі рэдка зьбіраецеся разам на такі вялікі зьезд, а ў практычнай працы вы раскіданы. Газэта нам мала дапамагае ў абмене вопытам, таму што нам часамі проста няма калі пісаць. Мы зусім мала пішам аб новых дасягненьнях аб вопыце ў нашай рабоце. Давайце хоць за два гады раз ці за год выкарыстаць гэту трыбуну ня толькі для зваДкі, але і для прасоўваньня новых добрых пачаткаў у нашай сыстэме.

Ніхто не падзяліўся ў прыватнасьці тым, як трэба, падрабязна, як прывіваецца зараз вопыт арганізацыі Р. С. Т., як атрымоўваецца ў вас зараз з таварнымі базамі і якая ў вас ёсьць сувязь.

Якая сувязь у нас з сялянствам? Ці не адрываем мы гэтай формай сябе ад нізоўкі, ад селяніна? Гэта вельмі важнае пытаньне, і на яго нам трэба даць адказ. Мала паслаць апаратчыка—інструктара, каб ён зрабіў рэвізію. Трэба ўсё разабраць на месцы, інакш мы можам зрабіць многа памылак у гэтай галіне.

Другое пытаньне—гэта абслугоўваньне калгасаў. У мяне шмат запісак па гэтаму пытаньню, якія кажуць пра вельмі дрэннае абслугоўваньне калгасаў, з прычыны таго, што нашы тавары групуюцца па мэтавых прызначэньнях на лесанарыхтоўкі, на торфанарыхтоўкі і г. д. І вось, дзякуючы гэтаму, калгасы засталіся без таварнага забесьпячэньня. А вось тут у нас аб гэтым ніхто не гаворыць.

Пытаньне ўплыву калгасаў на нашу работу, пытаньне вытворчай кантрактацыі ў новым разуменьні, у двухбаковым разуменьні, аб якім казаў Цэнтральны камітэт партыі і ў адносінах якога ён даў нам дырэктыву,—усе гэтыя пытаньні новыя і вельмі важныя. Але як яны праводзяцца ў жыцьцё? Пра ўсе гэтыя важныя пытаньні мы павінны гаварыць.

Тав. Хаскін у сваім дакладзе гэтыя пытаньні закрануў. Але няўжо ў нас няма практычнага вопыту, якім можна было-б падзяліцца і дзякуючы гэтаму штурхануць нашу работу ўперад.

Тут мы бяз вашай дапамогі, у габінэтах, нічога ня прыдумаем. Але вот калі мы пасадзім у габінэты дзясяткі самых лепшых працаўнікоў, дык усё роўна тое, што яны выдумаюць у сваіх габінэтах, бяз практыкі няжыцьцёва.

Мы павінны пачуць аб усіх гэтых пытаньнях непасрэдна ад нашых нізавых работнікаў каапэрацыі

Гэтыя матар'ялы для нашай далейшай працы нашы нізавыя работнікі павінны нам даць.

Хазан.

## Некаторыя заўвагі

Мы ўсе ведаем, што перад рабочай каапэрацыяй стаяць вялікія цяжкасьці, але як нам ад іх пазбавіцца? Вось, напрыклад, возьмем Белкаапсаюз, які ў апошні час займае ў нас вялікае месца. Ці можам мы канстатаваць, што ўсе справаздачы інструктароў, уся іх праца ўносіць паляпшэньне ў нашу работу. Калі паглядзець, чаго шукалі інструктары пры абсьледваньні цэлага шэрагу раённых саюзаў, дык мы ўбачым, што інструктар заяўляе, што там то і там кепска ў адносінах цэлага шэрагу пытаньняў. Але што рабіць тады інструктару?

Замест таго, каб на месцы вывучыць работу і дапамагчы ў гэтай рабоце, ён толькі робіць вывады на аснове работы, што вось так абстаіць работа ў гэтай акрузе. Гэта яны робяць для таго, каб даказаць, што ён прыехаў і нашоў недахопы.

І вельмі плаклівае становішча тых інструктароў. якія ня могуць найсьці цэлага шэрагу скрыўленьняў.

Я лічу, што трэба ясна сказаць аб тым, чаго мы павінны патрабаваць ад апарату Белкаапсаюзу, і ў прыватнасьці ад яго інструктарскага апарату. Мы самі ведаем, што ў нас ёсьць цэлы шэраг прарываў, што яны ёсьць не таму, што работнікі кепска адносяцца да сваёй работы, што яны наўмысьля ўтвараюць тыя ці іншыя прарывы, а таму, што гэтым работнікам няма каму паказаць, як трэба працаваць.

Мы дайшлі ў нашых апаратах да таго, што ў нас няма ніякае, ініцыятывы з боку нізавога апарату — усе чакаюць дырэктывы ад Белкаапсаюзу. Усе баяцца праявіць уласную ініцыятыву, таму што яна можа не саўпасьці з дырэктывай БКС, бо, бывае часамі, прыяжджаюць інструктары на месца і заяўляюць, што ў вас адбываецца праца не па дырэктыве БКС.

Я лічу, што такое становішча ўтварылася дзякуючы таму, што ў самым праўленьні БКС ня было цьвёрдага кіраўніцтва, асабліва па галіне сельскае сеткі.

Акрамя гэтага, мы маем такое становішча, калі дырэктыва БКС позьніцца амаль на два тыдні. Гэтае становішча мы мелі і ў адносінах прэм'яваньня масла і ў адносінах прэм'яваньня жывёлы і г. д. Мы часта атрымоўваем дырэктыву па тым ці іншым пытаньні ўжо тады,

калі аб гэтым усе ведаюць. Нас часта ўпікаюць за тое, што мы трымаем у сакрэце, што мы гэта захоўваем і г. д.

Тэмпаў у нашым кіраўніцтве зусім ня было, і гэта адбілася на ўсёй нашай рабоце.

Я лічу, што вось такія ўрокі павінны быць улічаны, і БКС павінен паставіць пытаньне так, каб мы ня былі залежны непасрэдна ад БКС, чакаючы ад яго паперкі, а каб было жывое кіраўніцтва.

Калі мы возьмем пытаньне рацмінімуму, дык усім вядома, што рацмінімум праводзіцца ў шырокім маштабе. Мы ўжо атрымалі другі рацмінімум, але як мы яго праводзім?

Мы бязумоўна яго як-кольвек праводзім, але баімся што ў проц. адносінах мы яго ня выканаем.

На мясцох увялі пяціднёўку, адчынілі буйныя крамы і г. д. у той час, як гэта ня ўсюды трэба было рабіць.

Я лічу, што патрэбна, каб БКС меў большую ініцыятыву, і каб мы маглі апірацца выключна на дырэктывы БКС.

---

Тав. Косарж. Сувязь паміж Цэнтрасаюзам, Белкаапсаюзам і нізоўкай як быццам добрая, але на справе толькі папяровая. Белкаапсаюз і іншыя арганізацыі пішуць аб тым, каб бесьперабойна забясьпечваць сэзонных рабочых. Але якжа забясьпечваць без перабояў, калі мы без перабояў атрымліваем паперкі, якія трэба чытаць па некалькі дзён. Мне здаецца, што трэба, каб Белкаапсаюз лепш кіраваў сыстэмай, не закідваў сыстэму паперкамі, а наладзіў жывую сувязь. Адсутнасьць жывога кіраўніцтва прыводзіць да зрыву загатовак.

Калі да нас прысылаецца інструктар, дык ён, мне здаецца, павінен праінструктаваць нашых нізавых работнікаў, каб у нас ня было скрыўленьня нашай клясавай лініі, але ў сапраўднасьці ў нас гэтага няма.

Тав. Ліневіч. Тут у дакладах Цэнтрасаюзу і Белкаапсаюзу шмат гаварылі аб чыстцы апарату. Я лічу, што нам трэба дабіцца, каб на наступным зьезьдзе мы ня чулі аб чыстцы і аб тым, што ў нашых апаратах сядзяць міністры і іншыя чужыя элемэнты.

Дзякуючы гэтым чужым элемэнтам, мы мала закранулі пытаньне аб ільнозагатоўках. Хачу падаць адзін прыклад. У Маскве, пад бокам Цэнтрасаюзу, ёсьць фабрыка ільну. Лён, які паступае ад нізоўкі на фабрыку, правяраецца толькі праз месяц, а то і больш. Лён мокне, псуецца, і потым фабрыка робіць зьніжэньне на 2 проц. Калі нашаму прадстаўніку давялося аб гэтым гаварыць з загадчыкам фабрыкі, дык апошні адказаў, што трэба на месцы ў сябе ўлічваць гэтыя два процанты. Выходзіць, што мы павінны ашукваць селяніна, дзеля таго, каб пакрыць страты фабрыкі.

На Круглянскі раён на 4.000 пайшчыкаў мы атрымалі толькі 17 машын у той час, калі ў Менску машын шмат.

Накот загатоўкі масла трэба сказаць, што раней з цэнтру пішуць аб тым, што высылаецца 20 скрынак махоркі для прэм'яваньня загатовак. Селянін захоўвае масла, але справа ў тым, што трэба ня пісаць аб прэм'яваньні, а адразу прывезьці гэтыя тавары. А Белкаапсаюз часта ніякіх мер ня ўжывае для таго, каб сваячасова даставіць тавары. Белдзяржгандаль распускае па ўсім раёне сваіх карабейнікаў. Апошнія нярэдка зьбіраюць у сялян тавары за бясьцень, а потым прадаюць Белдзяржгандлю па больш высокай цане. Тут часта проста атрымліваецца прыватная крамка.

Катлы, якія Белкаапсаюз адгружаў для калгасаў, пакуль трапілі туды, заіржавелі, папсаваліся, краны палопаліся і цяпер ляжаць.

# Што выявіла чыстка апарата БКС

І. І. Верба

## З матар'ялаў камісіі па чыстцы

Камісія, якой ЦКК РСІ даручыла чыстку апарату БКС, улічыла ўсю адказнасьць і складанасьць ускладзенай на яе работы.

Чыстка спажывецкай каапэрацыі набывае асабліва важнае значэньне, бо на долю камісіі і рабочай брыгады выпала задача даць зусім яскравыя адказы, як спраўляецца спажывецкая каапэрацыя з такімі важнымі галінамі работы, як рабочае снабжэньне, абслугоўваньне сацыялістычнага сэктару вёскі, што зьяўляецца аднэй з важнейшых прадпасылак у пасьпяховай барацьбе за прамфінплян, за сацыялістычную рэканструкцыю сельскае гаспадаркі.

Камісія ЦКК РСІ, зразумела, не справілася-б з гэтай задачай, калі-б яна ня прыцягвала да працы сумесна з агульнымі арганізацыямі каапэрацыі працоўную масу.

Рабочыя брыгады, якія ўдзельнічалі ў чыстцы апарату БКСаюзу, рабочыя брыгады, якія ўдзельнічалі ў праведзеных сіламі камісіі ЦКК абсьледваньнях Гомельскага райсаюзу і Полацкай спажывецкай каапэрацыі, сваім пролетарскім чуцьцём, ня толькі як спажыўцы, а галоўным чынам як актыўныя ўдзельнікі будаўніцтва сацыялізму, зусім пэўна і хутка схапілі асноўныя проблемы каапэрацыі і дапамаглі камісіі па чыстцы даць пэўную ацэнку ўсяе работы сыстэмы.

У разьмерах часопіснага артыкулу цяжка выкласьці ўвесь той вялізарны матар'ял, які сабраны рабочымі брыгадамі. Мы толькі спынімся тут на аналізе вузлавых вучасткаў работы спажывецкай каапэрацыі.

**Рабочае забесьпячэньне.**

Пытаньні рабочага забесьпячэньня не стаялі ў цэнтры ўвагі ўсяе сыстэмы спажывецкай каапэрацыі. Большасьць сельскіх каапэратараў яшчэ да апошняга дню лічылі пытаньні рабочага забесьпячэньня справай, якая іх не датычыцца.

Гэтыя тэндэнцыі нізавое сельскае спажывецкае каапэрацыі ня толькі не знайшлі адпору з боку кіруючага цэнтру ўсяе спажывецкай каапэрацыі, але і сам БКСаюз, пераняў цалкам гэтую „тэорыю“. У выніку гэтага ў самым апараце БКсаюзу, які складаецца больш чым з 200 адзінак, пытаньнямі рабочага снабжэньня займаўся невялічкі аддзел з некалькіх працаўнікоў, так званай „Белрабсэкцыі“.

Увесь апарат БКСаюзу ў цэлым ня быў мабілізаваны на справу рабочага забесьпячэньня. Канцэнтрацыя ўсяе справы рабочага забесьпячэньня ў руках аднае толькі Белрабсэкцыі ўтварыла атмасфэру безадказнасьці і абыякавых адносін БКСаюзу да гэтай важнейшай справы.

Калі ў адбудоўчы пэрыяд гэтыя арганізацыйныя формы былі цярпімы і нават мелі сваё апраўданьне, дык існаваньне Белрабсэкцыі ў сучасных умовах, перад новымі задачамі, высунутымі рэканструкцыйным пэрыядам, існаваньне самастойнай рабсэкцыі стала па сутнасьці тормазам на шляху арганізацыі рабочага снабжэньня і перамаганьня часовых харчовых цяжкасьцяй.

Праўленьне БКСаюзу гэтага своечасова ня ўлічыла і не прыняло ніякіх мер, якія б забясьпечылі (нават

пры існаваньні самастойнай сэкцыі) цэнтральнае месца задачам рабочага снабжэньня.

Праўленьне БКСаюзу на сваіх пасяджэньнях да апошніх месяцаў амаль што ні разу не абмяркоўвала асноўных пытаньняў рабочага снабжэньня, і яму прыходзілася адыгрываць ролю арбітра ў барацьбе паміж апаратам БКСаюзу і самастойнай рабсэкцыяй.

Гэтыя арганізацыйныя формы ў значнай частцы прадапрадзялялі пастаноўку працы ў БКСаюзе па справе рабочага снабжэньня—у гэтай галіне БКСаюз дапусьціў рад вельмі сур'ёзных і невыбачальных прарываў.

Важнейшыя дырэктывы партыі па павышэньню рэальнага ўзроўню зарплаты былі ўспрыняты апаратам фармальна і бюрократычна. Узяўшыся за выкананьне дырэктыў лістападавага пленуму ЦК УсеКП(б) са значным спазненьнем (студзень 1930 г.) БКСаюз абмежаваў задачы ўзвышэньня рэальнай зарплаты выданьнем абежнікаў аб зьніжэньні цэн на некаторыя тавары спажываньня, зусім не распрацаваўшы ніякіх мерапрыемстваў пашырэньню і ахопу рабочага бюджэту.

Увесь апарат БКСаюзу ня меў нават канкрэтнага пляну ажыцьцяўленьня гэтых важнейшых дырэктыў партыі, не гаворачы ўжо аб якой бы там ні было мабілізацыі каапэраваных мас. Справа зьніжэньня цэн, як частка праблемы ўзвышэньня рэальнай зарплаты, была пастаўлена зусім нездавальняюча. Белрабсэкцыя не забясьпечвала кіраўніцтвам і кантролем выкананьне гэтых сваіх дырэктыў.

У выніку чаго меўся разнабой у цэнах ЦРК (Гомель, Магілеў, Барысаў), што зацягвала практычнае ажыцьцяўленьне зьніжэньня цэн. Зьніжэньне цэн па некаторых таварах не дало эфэкту, бо агульная палітыка цэн цэрабкоопаў ня была перагледжана ў корні. Цэрабкоопы за апошнія гады ня толькі не паменшылі сярэдніх накладаньняў, але нават і павялічылі іх (1926-27 г.—10,29 проц., 1927-28—10,43 проц., 1928-29—11,42 проц.) Па асобных таварах першачарговага спажываньня ЦРК дапусьцілі рвацкае павышэньне накладаньняў (па каўбасных вырабах 1927-28—8,18 проц., 1928-29—11,85, абутак (у тыя-ж гады) 9,32-10,52, сукно і шэрсьць—10,3-13,24, іншая мануфактура—11,22-15,56 і г. д.—гэта ў Менску, у іншых гарадох таксама—Бабруйск, напрыклад, накладаньня на рыбе павышае з 12,9 у 1927-28 г. да 16,8 у 1928-29 г., затое па парфюмэрыі толькі з 14,8 да 15,4).

У самым апараце Белкоопсаюзу таксама мелі месца недапушчальныя адносіны да справы зьніжэньне цэн. Пастанова аб зьніжэньні накладаньняў Белрабсэкцыі з 1/II была прынята толькі 10 сакавіка, і тым самым розьніца ў накладаньнях па звароту за люты-сакавік ня была даведзена да спажыўца. Па садовіне атрымалася нават, дзякуючы бухгальтарскай камбінацыі, павялічэньне замест зьніжэньня. Белкаапсаюз і Белрабсэкцыя, зусім не сачыўшы за дынамікай цэн, аставілі непаказанай усю гэту галавацяпскую і рвацкую палітыку ЦРК.

Як было ўжо адзначана вышэй, асноўнага, г. зн. распрацоўкі мерапрыемстваў па найбольш поўнаму ахопу рабочага бюджэту па пашырэньню работы з сель.-гасп. прадуктамі, спажывецкая каапэрацыя не зрабіла.

Дырэктывы студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б „дабіцца ў бягучым годзе павышэньня ахопу рабочага бюджэту ў параўнаньні з мінулым годам мінімум на 18-20 проц.“ ня толькі ня выконваецца, але-ж процант ахопу каапэрацыяй рабочага бюджэту за апошні час зьніжаецца (люты 79,33 проц., сакавік 75,51 проц., а па прадуктах харчаваньня ахоп бюджэту яшчэ менш—студзень 69,7 проц., люты—65,9 проц., сакавік—62,36 проц.). Аднэй з галоўных прычын невыкананьня памянёнай дырэктывы партыі зьяўляецца тое, што каапэрацыя яшчэ вельмі дрэнна працуе з сельска-гаспадар-

чымі прадуктамі. Кантрольныя лічбы ўдзелу сельгаспрадуктаў у звароце ЦРК у 1928-29 г. не рэалізаваны—замест 44 проц.—удзельная вага сельгаспрадуктаў складае 33 проц., а ў першай чвэрці 1929-30 г. гэты проц. зьніжаецца да 31,6 проц. Найбольш характэрным прыкладам някруткасьці каапэрацыі ў адносінах работы з сельгаспрадуктамі зьяўляецца праца каапэрацыі з бульбай—па даных ЦСУ каапэрацыя забясьпечыла рабочага бульбай у студзені 1930 г. на 21,38 проц., у лютым—2,65 проц., у сакавіку—11,41 проц.

Белкаапсаюз, Белрабсэкцыя і ЦРК ня толькі не праявілі ніякай ініцыятывы ў справе вышуканьня новых крыніц па пашырэньні харчовай базы, але-ж вельмі марудна, інэртна і непаваротліва праводзілі выкананьне плянаў, намечаных Цэнтрасаюзам і мясцовымі дырэктыўнымі органамі. Толькі нажым рабочай грамадзкасьці стварыў некаторы пералом у гэтай справе. У сувязі з такімі адносінамі каапэрацыі ў некаторых мясцовых органаў плян організацыі прыгародных гаспадарак сарваны. Найбольш абураючыя адносіны да справы організацыі прыгарадных гаспадарак праявілі Віцебскі цэрабкооп і гарсавет, якія замест арганізацыі гаспадаркі ў 200 га, адвялі плошчу ў 4 га.

Акрамя таго, што каапэрацыя выканала ўсяго 62 проц. пляну (апрацавала 920 га)—Цэрабкоопы палову плошчы засеялі позьняй бульбай і іншымі позьнімі недэфіцытнымі культурамі, тым самым галоўная задача прыгародных гаспадарак — забесьпячэньне рабочага раньняй дэфіцытнай гароднінай— ня выканана. Пляны па арганізацыі малочных фэрм і сьвіных гаспадарак выконваюцца таксама вельмі марудна (на 1/X-30 г. павінна быць 4500 кароў у малочных фэрмах—ёсьць на 20/VI—2918; на 1/X—павінна быць адкормлена 14000 сьвіней на 20/V—было толькі 8200), а якасны бок яшчэ горш (няма гаспадарчага кіраўніцтва, дрэннае ўкамплектаваньне стада, зацяжка адкорму, нізкі эфэкт, вэтнагляд і ўтрыманьне жывёлы дрэнна пастаўлены).

Гэтыя дадзеныя з дастатковай яскравасьцю сьведчаць аб тым, што спажывецкая каапэрацыя беларусі пакуль яшчэ ня выйшла з межаў гандлёвай організацыі і з вялікай цяжкасьцю разьвіваецца з старымі каапэрацыйнымі традыцыямі, якія абмяжоўвалі ролю спажывецкай каапэрацыі, як тэхнічнага разьмеркаваўцеля матар'яльных каштоўнасьцяй прамысловасьці сельскае гаспадаркі, і ні ў якім выпадку не дапускалі ператварэньня каапэрацыі ў арганізатара і актыўнага ўдзельніка ў справе пашырэньня харчовай базы.

Натуральна, што гэтыя тэндэнцыі загадзя прадапрадзялілі бязьдзейнасьць спажывецкай каапэрацыі ў справе выкарыстаньня мясцовых рэсурсаў.

Але найбольшым рэкорд няўменьня паставіць сваю работу ў адпаведнасьці з новымі патрабаваньнямі справы рабочага снабжэньня зьяўляецца становішча грамадзкага харчаваньня.

Ня гледзячы на рад дырэктыў па разгортваньні і караным палепшаньні грамадзкага харчаваньня, яно ўсё яшчэ застаецца на яўна нізкім узроўні. Сетка разгортваецца марудна (самацёкам, бяз пляну і сыстэмы). У галіне разгортваньня грамадзкага харчаваньня каапэрацыя прытрымлівалася чарапашыных тэмпаў. На 1928-29 г. прадугледжваўся па кантрольных лічбах зварот у 3205 тыс. руб., фактычны зварот быў 6630 тысяч, у той час, калі пяцігадовы плян прадугледжвае ў 1932-33 г. зварот па грамадзкаму харчаваньню толькі ў 5875000 руб. Якасьць абслугоўваньня пагоршылася. Каапэрацыя праявіла поўную безыніцыятыўнасьць і коснасьць у справе вышуканьня новых вырабаў харчаваньня з недэфіцытных прадуктаў. Каапэрацыя нават ня здолела наладзіць бесьпе-

рабойнае забесьпячэньне рабочага наведвальніка сталовак звычайнай варанай бульбай.

Зьменшыўшы калёрыйнасьць, каапэрацыя ня толькі ня зьнізіла цэны, але, наадварот, у шматлікіх выпадках, ганяючыся за рвацкімі прыбыткамі, цэны павысіла, што значна біла па рэальнай зарплаце рабочых.

Наогул неабходна адзначыць, што спажывецкая каапэрацыя перарабіла грамадзкае харчаваньне і хлебапячэньне са сродку па ўзвышэньню рэальнай зарплаты ў крыніцу рвацкіх прывілей і камэрцыйных набыткаў.

За 1928-29 г. Цэрабкооп меў ад вытворчых прадпрыемстваў (г. зн. грамадзкага харчаваньня і хлебапячэньня і некаторых каўбасных майстэрняў) 421000 руб. прыбытку. Гэта аказалася малым, і за першы квартал 1929-30 г. ЦРК узяў ударны тэмп росту: толькі па аднаму грамадзкаму харчаваньню за першы квартал рабочая каапэрацыя мела 114000 руб. прыбытку і па хлебапячэньню 259000 руб.

Такім чынам ЦРК ухітрыўся за першы квартал 1929-30 г. павялічыць свой прыбытак па гэтых галінах работы на 150000 руб. больш, чым за ўвесь мінулы год.

Гэта здаецца, адзіная галіна, у якой ЦРК пайшоў сапраўдна ўдарным тэмпам.

Як жа спажывецкая каапэрацыя разьмяркоўвала меўшыяся ў яе распараджэньні фонды?

На гэта пытаньне неабходна адказаць зусім пэўна: вельмі нездавальняюча.

Да апошняга часу БКСаюз разьмяркоўваў тварныя фонды не на падставе вучоту паказальнікаў, якія адбіваюць сацыяльна клясавы склад пайнікаў абслугоўваемага працоўнага насельніцтва.

У аснову каэфіцыенту разьмеркаваньня браліся (да лютага месяцу 1930 г.) ня колькасьць беднаты, батрацтва, калгасьнікаў, не асобныя суадносіны соцыяльных груп унутры, а шэраг іншых паказацеляў, якія зусім не зьмяшчаюць клясавых элемэнтаў, як-та: агульная колькасьць насельніцтва, сярэдні пай і г. д.

Дырэктыва студзеньскага плenуму ЦК УсеКП(б)Б аб пераважным снабжэньні асноўных груп рабочых да апошняга часу не лягла ў аснову разьмеркаваньня фондаў па рабочаму снабжэньню.

Белрабсэкцыя, прыняўшы 15 лютага 1930 г. пастанову аб перабудове клясавага каэфіцыенту разьмеркаваньня, не ажыцьцёвіла яго да апошняга часу, бо не магла раздабыць даных аб колькасьці рабочых у паасобных гарадох БССР.

Такім чынам, БКСаюз снабжаў паасобныя гарады, ня ведаючы колькасьці працоўнага насельніцтва ў гэтых гарадох.

Адсутнасьць цьвёрдай клясавай лініі ў цэнтры прывяла да поўнага разнабою і да фактаў скажэньня клясавай лініі і ў галіне разьмеркаваньня на нізе.

ЦРК часта ігнараваў дырэктывы партыі аб пераважным снабжэньні рабочых. Асобныя востра дэфіцытныя тавары раздаваліся па душавых нормах, без дыфэрэнцыяцыі па асобных соцыяльных катэгорыях. Райсаюз разьмяркоўваў тавары паміж нізоўкай без усялякага якога-б там ні было вучоту клясавых прынцыпаў. У Гомлі і іншых мясцох разьмяркоўвалі тавары на падставе сярэдняга паю. Чым больш кулакоў, тым больш сярэдні пай. Чым больш сярэдні пай, тым больш тавараў.

Вось як выглядала клясавая лінія разьмеркаваньня ў Гомельскім райсаюзе.

Гэта характэрна амаль што для ўсяе сыстэмы беларускай каапэрацыі.

Сельскія спажывецкія таварыствы цьвёрдых установак у справе разьмеркаваньня ня мелі. А таму побач з адсутнасьцю пераважнага снабжэньня рабочых саўгасаў, калгасьнікаў,—маюцца перагібы зваротнага парадку, г. зн. ігнараваньне адзінаЛічніка-бедняка.

Тэхніка разьмеркаваньня тавараў вельмі нізкая: часта галавацяпства асобных цэрабкоопаўцаў прыводзіла да ўтварэньня чаргі, да штучнага расшырэньня дэфіцытнасьці асобных тавараў (водпуск невялікіх партый тавараў з аднае крамы, дастаўка тавараў і г. д.)

Наогул справа рацыяналізацыі тэхнікі гандлю заняла ў каапэрацыі вельмі нязначнае месца; асобныя цэрабкоопаўцы праяўляюць закасьцянеласьць, бюракратызм і боязьнь навін у правядзеньні раду рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў.

Беларускія цэрабкоопы ў большай сваёй частцы пэўна ігнаруюць дырэктывы ўрадавых органаў адносна больш шырокага разьвіцьця ларкоў, арганізацыі пунктаў развознага гандлю, дастаўкі тавараў на дом.

За першыя 7 месяцаў 1929-30 г. 12 беларускіх ЦРК адчыніл толькі 22 харчовыя ларкі.

Аб рацыяналізацыі тэхнікі гандлю на вёсцы зусім гаварыць не даводзіцца.

Сельскія каапэратары прытрымліваюцца наступнай тэорыі: „будзьце рады, што вам і гэтак даюць".

Сыстэма спажывецкай каапэрацыі не вяла барацьбы за якасьць прадукцыі.

Райсаюзы і с.т. амаль не рэагавалі на факты атрыманьня недобраякасных тавараў, недапушчальна рэдка складалі акты і ў большасьці выпадкаў, выходзячы з гандлярска-камэрцыйных інтарэсаў, прасоўвалі заведама нядобраякасны тавар. Нават у тых выпадках, калі Белкоопсаюэ атрымоўваў акты ад нізоўкі, альбо цэрабкоопаў, дык пытаньне аб нядобраякаснасьці тавараў разглядалася фармальна-камэрцыйна, з пункту погляду зьмяншэньня пастаўшчыком пакупной цаны. Рабочай брыгадай быў ускрыты недапушчальны факт, калі 161 акт цэрабкоопаў аб нядобраякасных фруктах ляжалі ў белрабсэкцыі доўгі час бяз руху. Гэткія бюракратычныя адносіны Белкоопсаюзу не маглі забясьпечыць неабходны зрух у гэтым пытаньні. Барацьба за якасьць ня была ўзьнята на палітычную вышыню, вакол яе ня была мабілізавана грамадзкасьць.

Кажучы аб разьмеркаваньні таварных фондаў, нельга абыйсьці маўчаньнем асобных злачынных фактаў разбазарваньня дэфіцытных тавараў.

Разбазарваньне дэфіцытных тавараў ідзе па 2 кірунках: з аднаго боку, на раёне маецца значнае асяданьне асобных сельгас. прадуктаў, факты зусім неэканомнага і злачыннага разбазарваньня гэтых прадуктаў, факты самаснабжэньня раённых арганізацый і г. д.

Сельская спажывецкая каапэрацыя, як арганічная частка ўсяе сыстэмы каапэрацыі, адчуваючы адказнасьць за справу рабочага снабжэньня, павінна была быць арганізатарам барацьбы супроць разбазарваньня, павінна была быць органам мабілізацыі ўсіх мясцовых рэсурсаў.

На жаль, гэта ня было так. Спажывецкія таварыствы ня толькі ня былі арганізатарамі барацьбы супроць разбазарваньня, але былі самымі актыўнымі ўдзельнікамі ў справе разбазарваньня.

Другім шляхам гэтага разбазарваньня было самаснабжэньне і безгаспадарчае выдаткаваньне прадуктаў у горадзе.

Абсьледваньне Полацкага аддзяленьня БКСаюзу, утворанае камісіяй ЦКК РСІ, выявіла злачынны малюнак самаснабжэньня. Злачынцы Полацкай каапэрацыі разбазарвалі дэфіцытныя тавары на дзесяткі тысяч рублёў. Аб гэтым ведае ўжо ўся пралетарская каапэрацыйная грамадзкасьць, і мы ня будзем на гэтым доўга спыняцца.

Неабходна адзначыць, што факты самаснабжэньня, безгаспадарчага выдаткаваньня прадуктаў прадстаўляюць сабой шэраг зьявішчаў: так было ў Гомлі, Віцебску, так было ў Магілеве, у Мазыры і іншых цэнтрах Беларусі.

Аналіз усяе працы сыстэмы спажкаапэрацыі па рабочаму забесьпячэньню дае нам права зрабіць наступныя вынікі:

1) Белкаапсаюз ня здолеў ператварыць рабочае забесьпячэньне і справу павышэньня рэальнай зарплаты у цэнтральную проблему ўсяе спажыўкаапэрацыі;

2) агульнае напружанае становішча з рабочым забесьпячэньнем, у сувязі з цяжкасьцямі росту сацыялістычнага будаўніцтва, значна паглыбілася ў БССР, дзякуючы бюракратычнасьці безьініцыятыўнасьці каапэрацыі ў вышуканьні новых рэсурсаў, у арганізацыі прыгарадных гаспадарак, забесьпячэньні рабочых дастатковымі с.-г. прадуктамі, палепшаньні грамадзкага харчаваньня і г. д;

3) „некі нэпманскі душок“ моцна сядзеў у рабочай каапэрацыі БССР, які асабліва адчуваўся ў рвацкіх прыбытках па грамадзкаму харчаваньню і хлебапячэньню, таксама ў справе дрэннай працы з прасоўваньнем дастатковых с.-г. прадуктаў.

*(Канец у наступным намуры).*

**Сумленна выконваць службовыя абавязкі—гэта значыць прымаць бальшавіцкі ўдзел у пабудове сацыялізму.**

# Удзел спажкаапэрацыі ўва ўборачнай кампаніі

Я. Арлоўскі

## Як падрыхтаваліся

Плянам Менаддзяленьня БКС на час правядзеньня ўборачнай кампаніі і асеньняга севу прадугледжваецца ўноў адчыніць 36 ачагоў-сталовак і 59 дзіцячых ясьляў, устанаўліваецца 2 кіно-стацыянаркі і 2 кіно-перасоўкі; па радыёфікацыі будзе ўстаноўлена 6 радыёперасовак і 21 гучна-гаварыцель і 5 радыё-трансляцыйных вузлоў на 250 кропак.

У часе правядзеньня гэтых кампаній павінна быць арганізавана спажыўтаварыствам 1595 кнігаНош; прадугледжаваецца прадаць на 22300 руб. с/гаспадарчай літаратуры.

Па рац. мінімуму. Адчыніць па акрузе 42 крамы і 57 ларкоў і арганізаваць 72 развозкі; 50 крам павінна быць пераведзена на бесьперапынны працоўны тыдзень і 16 крам на падоўжаны працоўны дзень.

Плян усіх мерапрыемстваў, распрацаваны Менаддзяленьнем у разьліку да спажыўтаварыства з 1 ліпеня г/г. даведзены да нізоўкі.

Разам з гэтым прапанавана спажыўт-вам скласьці, зыходзячы з канкрэтных умоў работы, пляны абслугоўваньня ўборачнай хлебазагатоўчай і асеньняпасяўной кампаніі, якія абавязкова абгаварыць на паседжаньні праўленьняў з актывам, групамі беднаты і батрацтва, на сходах пайнікаў.

Па кожнаму мерапрыемству для забесьпячэньня выкананьня прапанавана спажыв. т-вам вызначыць цьвёрдыя тэрміны і выканаўцаў.

1 ліпеня г/г у раёны былі камандыраваны ўсе інструктары і другія адказныя працаўнікі Менаддзяленьня для праверкі працы спажыўт-ваў, практычнай дапамогі ў справе падрыхтоўкі і правядзеньня ўборкі ўраджаю, падрыхтоўкі да асеньняга севу і хлебзагатовак.

Праведзеная праверка паказала, што некаторыя с/т-вы яшчэ не падрыхтаваліся для правядзеньня гэтай работы, прыкладна:

Барысаўскае прыгароднае с/п т-ва. Па пытаньнях уборачнай кампаніі, асеньняе сяўбы і хлебазагатовак праведзена нарада актыву з мясцовымі арганізацыямі, сход групы беднаты. Усім аддзяленьням с/т дадзена дырэктыва аб зборы і рапараваньні мяшкоў.

Практычна нічога ня зроблена. Зараз замест 8200 мяшкоў, якія патрабуюцца, у наяўнасьці ёсьць толькі 3000 м. Нават у Барысаве тара-мяхі ня прыведзены ў належны выгляд і г. д.

Канкрэтны плян усіх мерапрыемстваў праўленьнем с/т. ня быў складзены да прыезду інструктара 2 ліпеня г/г.

Самахвалавіцкае с/т. да прыезду інструктара ніякае падрыхтоўкі да ўборачнае кампаніі не вяло, нават ня было разгледжана гэта пытаньне на пасяджэньні праўленьня. Тара-мяшкі ў колькасьці 20 штук ня былі адрамантаваны. Раздадзена саўгасам і калгасам і не сабрана назад 420 мяшкоў. Нават ня было вучоту мяшкоў, якія вызваляюцца з-пад тавару. Вагою і гірамі загатоўчыя пункты спажыўт-ва не забясьпечаны.

Ёмкасьць складаў больш-менш дастатковая—9-10 вагонаў, але апошнія, акрамя 2, патрабуюць рамонту і дагэтуль не рамантаваны.

Дамавіцкае спажыўв. т-ва. Плян мерапрыемстваў па правядзеньні кампаніі не распрацаваны, склады не адрамантаваны і не падрыхтаваны, ёмкасьць складаў у 2500 пудоў недастатковая. Вагою і гірамі загатоўчыя пункты спажыв. т-ва таксама не забясьпечаны.

Для лепшага абслугоўваньня ўборачнай кампаніі часы работы крам і наогул гандлёвая праца с/т. не была слабая, плян работы не распрацованы.

Склады для прыёмкі і хаваньня хлеба не падрыхтаваны, нават у Раванічах няма асобнага склада, а выдзяляецца частка ў цэнтральнай краме для ссыпкі зерня, дзе можна будзе зьмясьціць толькі 2000 пуд. хлеба. Вагі і гір не хапае. Для абслугоўваньня ўборачнай кампаніі работа крам не прыстасавана. Кра-



На палёх уборкі

прыстасавана. Для пасьпяховага правядзеньня кампаніі патрабуецца новых 3 працаўнікі, якіх спажыўт-ва ня мае. Тарою спажыўт-ва не забясьпечана, ёсьць толькі 60 мяшкоў. З боку кулацкіх элемэнтаў наглядаюцца спробы сарваць уборачную кампанію і хлебазагатоўкі. Прыкладна: з 75 чалавек, якія зьявіліся на пасяджэньне праўленьня, былі і падкулачнікі, некаторыя выказываліся: „каапэрацыя нам нічога не дае, таму і мы не дадзім ёй хлеб“, другі кажа: „я зямлю ня буду араць і хлеба ня дам“.

Раваніцкае спажыв. т-ва. Да правядзеньня сяўбы падрыхтоўка мы, як працавалі, так і працуюць пастарому.

Грамадзкае харчаваньне нідзе не арганізавана. Культпраца зусім не вядзецца.

Вышэйпаданае дае падставу канстатаваць, што на мясцох спажыўт-вы толькі пачынаюць падрыхтоўвацца да ўборачнай пасяўной кампаніі і да хлебазагатовак, а большасьць з іх нават зусім ня рыхтуюцца. Складзкімі памяшканьнямі спаж. т-вы з няпоўнасьцю забясьпечаны, а склады, якія ёсьць, не рамантуюцца.

# Кадры і абслугоўваньне спажыўца

**М. Чаускі**

## Падрыхтоўка кадраў—баявая задача дню

З кожным днём перад спажывецкай каапэрацыяй паўстаюць усё новыя і вельмі сур'езныя задачы. Гэтыя задачы з асобнай вастратой высоўваюць неабходнасьць абнаўленьня і папаўненьня складу каапэрацыйных працаўнікоў новымі кляса-вытрыманымі кадрамі з рабочых, батракоў, беднякоў і калгасьнікаў. Патрэбны працаўнікі, здольныя, сваячасова праводзіць у жыцьцё генэральную лінію партыі і дырэктывы савецкай улады.

Падрыхтоўка кадраў у сучасны момант стала баявой палітычнай задачай дню для ўсяе каапэрацыйнае сыстэмы ў цэлым. „Эпоха сацыялістычнага будаўніцтва патрабуе новага тыпу працаўніка на гаспадарчым фронце".

Недахоп у працаўнікох штурхаў спажыўсыстэму на скліканьне розных курсавых мерапрыемстваў па ўсёй сыстэме спажыўкаапэрацыі.

Кароткая тэрміновасьць і стыхійнасьць ў скліканьні гэтых курсаў не дае магчымасьці зрабіць добраякасны адбор курсантаў, падрыхтаваць; належна прапрацаваць вучэбныя пляны, праграмы, падабраць добрых выкладчыкаў і належна падрыхтаваць гаспадарчае абслугоўваньне.

Цяпер курсавая праца характарызуецца значнай саматужнасьцю і самацёкам як у цэнтры, так і ў самых курсах.

Увесь час пры Белкоопсаюзе працуюць бесьперапынна цэлы шэраг курсаў, дзе рыхтуюцца працаўнікі па розных спэцыяльнасьцях. Між тым, калі паглядзець на вучэбнагаспадарчае абслугоўваньне, дык тут вы ўбачыце сумны малюнак.

Даволі сказаць, што мы ў гэтым годзе прапускаем каля пяці тысяч працаўнікоў, а ў нас няма ніводнага сталага пэдагога па асноўных дысцыплінах. Мы карыстаемся запрошанымі лектарамі, якія працу на курсах лічаць пабочнай. Гэта стварае безадказнасьць за якасьць выкладаньня, недысцыплінаванасьць з боку выкладчыкаў. Цэлы шэраг фактаў зрываў заняткаў, спазьненьне на заняткі і выкладаньне не таго, што трэба. Педагогі зусім не зацікаўлены ў падвышэньні якасьці працы курсаў наогул і ў прыватнасьці курсанта паасобку.

З пункту погляду выдаткаваньня сродкаў курсы каштуюць шмат грошай.

Нашы курсы вельмі кепска забясьпечаны адпаведнымі падручнікамі. Вельмі мала ёсьць літаратуры па каапэрацыйных дысцыплінах.

Зусім адсутнічаюць лябараторыі, габінэты і г. д. дзеля наглядальнага вывучэньня прадмета.

Якась падрыхтоўкі выпускаемага курсанта нізкая, на практычнай працы гэта адчуваецца.

Да гэтага часу цэлы шэраг вучэбна-курсавых мерапрыемстваў, якія маглі-б бесхваробна праводзіцца ў акругах альбо ў раёнах, адбываліся пры Белкоопсаюзе. Востры крызіс у памяшканьнях для курсаў, недахоп у пэдагогічных кадрах і г. д.—не апраўдалі гэтых мерапрыемстваў.

Затрачваючы вялізарныя сродкі на гэту справу, улічваючы сур'ёзнасьць і важнасьць пытаньня вырашэньня праблемы кадраў і прымаючы пад увагу, што 30-31 г. павінен зьявіцца ўдарным і рашучым

у падрыхтоўцы кадраў (нам патрэбна арыентыровачна 10 тысяч чалавек розных спэцыяльнасьцяй), нам трэба сур'ёзна задумацца над рэарганізацыяй усяе вучэбна-курсавое работы.

Бясспрэчна, адказацца на сёньняшні дзень ад каротка-тэрміновых курсаў пры наліччы вострага недахопу ў кадрах нельга.

Пастаўленыя перад намі партыяй і савецкай уладай задачы патрабуюць тэрмінова даць вялікую колькасьць новых працаўнікоў, якім патрэбна даць хуткую тэарытычную падрыхтоўку. Адсюль бачна, што, акрамя стварэньня сталых навучальных устаноў, нам трэба будзе мець як у цэнтры, так і ў раёне цэлы шэраг курсаў, але трэба рашуча ўзяцца за рэарганізацыю працы курсаў.

Трэба раз на заўсёды адмовіцца ад кампанійскага і стыхійнага скліка765ньня курсаў. Трэба ўнесьці сыстэматычнасьць і плянавасьць ў гэту працу, каб у пачатку году ведаць, якія курсы і калі склікаюцца. Тэрмін заняткаў трэба як мага пашырыць. Трэба што-б курсы загадзя былі забясьпечаны згодненымі з парторганамі і органамі асьветы вучэбнымі плянамі, праграмамі. Трэба загадзя забясьпечыць падручнікамі, выкладчыцкім пэрсаналам, гаспадарчым абслугоўваньнем і г. д.



Цэлы шэраг курсаў аднародных, якія склікаюцца як па лініі ЦРК, так і па лініі сельскай сеткі, магчыма аб'яднаць з утварэньнем адпаведных аддзяленьняў па рабочай каапэрацыі альбо па сельскай сетцы. Гэта дасьць эканомію у сродках.

Трэба паставіць рашуча пытаньне аб тым, што аддзелы, па лініі якіх рыхтуюцца працаўнікі, паколькі прыдзецца ім працаваць і кіраваць гэтымі працаўнікамі, каб яны ўдзельнічалі сумесна з аддзелам кадраў у справе лепшай пастаноўкі працы па падрыхтоўцы.

Трэба рашуча ўзяцца за ўкамплектаваньне сталага штату кваліфікаваных пэдагогічных кадраў пры цэнтральных курсах Белкоопсаюзу. Трэба забясьпечыць адпаведнай колькасьцю каапэрацыйнай і спецыяльнай літаратурай.

Вельмі тэрмінова трэба ўзяцца за стварэньне капітальнай бібліятэ-

кі пры Белкоопсаюзе, за стварэньне адпаведных лябараторый, габінэтаў і г. д.

Для таго, каб у выдаткаваньне сродкаў на вучэбна-курсавыя мерапрыемствы ўнесьці яскравасьць і чоткасьць, трэба, каб усе адлічэньні на гэту мэту групаваліся пры галоўнай канторы Белкоопсаюзу, і выдаткаваньне па ўсёй сыстэме вытвараць выключна ў цэнтралізаваным парадку.

Аднэй з крыніц пакрыцьця патрэбнасьці ў кадрах павінны зьявіцца сталыя навучальныя ўстановы спажывецкай каапэрацыі. Для правядзеньня гэтай сур'ёзнай і новай для нашай сыстэмы працы трэба праявіць максімум энэргіі.

Гэты год павінен зьявіцца годам пераломý ў арганізацыі гэтых устаноў.

Не гаворачы аб камплектаваньні вышэйшых каапэрацыйных навучальных устаноў і курсаў у розных гарадох СССР гэты год нам дае магчымасьць паявлічыць прыём у каапэрацыйнае аддзяленьне БГУ да 50 чалавек на асноўнае аддзяленьне і на падрыхтоўчыя курсы 50 чалавек.

У гэтым годзе мы павінны арганізаваць, замест батрацка-бядняцкіх каротка тэрміновых курсаў, двух-гадовую батрацка-бядняцкую школу.

Мы павінны арганізаваць ня менш 8 школ каапэрацыйна-гарговага вучнёўства для сельскай сеткі і ня менш 6 для гарадзкой сеткі. Трэба рашуча ўзяцца за арганізацыю школ, магазынаў і ў гэтым годзе давесьці да 18. Вырашаецца пытаньне ў Наркамасьветы аб перадачы нам 3 школ 2-й ступені (3 канцэнтр) для арганізацыі 3 каапэрацыйных тэхнікумаў (кіно-фото-радыё-тэхнікум, тэхнікум кніжных працаўнікоў і тэнікум рахункова-статыстычны).

У гэтым годзе нам трэба, акрамя арганізацыі цэлага шэрагу школ ФЗУ кулінараў, рашуча ўзяцца за стварэньне тэхнікуму кулінарыі, з прыцягненьнем удзелу у фінансаваньні саюзу нархарч.

Тэхнікумы і школы павінны зьявіцца кузьняй, дзе выкоўваюцца кваліфікаваныя і палітычна выхаваныя кадры для нашай сыстэмы.

У гэтым годзе нам удалося дабіцца перадачы Віцебскага каапэрацыйнага тэхнікуму пад ведама Белкоопсаюзу, і ў сучасны момант ён зьяўляецца тэхнікумам выключна спажывецкай каапэрацыі. На першы курс мяркуецца прыняць праз сыстэму спажывецкай каапэрацыі ня менш 150 асоб і 90-100 асоб на падрыхтоўчы курс, куды будуць прымацца выключна рабочыя, беднякі, батракі, калгасьнікі. Тэхнікум будзе рыхтаваць працаўнікоў сярэдняй кваліфікацыі, аргмасавых, гандлёвых, культбытавых і працаўнікоў па вучэбнакурсавой рабоце. Усе гэтыя працаўнікі будуць рыхтавацца як для сельскай, так і для гарадзкой сеткі.

Маючы ў нашым тэхнікуме кваліфікаваную педагагічную сілу, як штатныя адзінкі Белкоопсаюзу, улічваючы іх зацікаўленасьць у працы, мы павінны стварыць г. Віцебск адным з апорных вучэбнакурсавых пунктаў.

Гэты тэхнікум павінен зьявіцца актыўным дапаможнікам у арганізацыі вучэбна курсавой працы і завочнага навучаньня. Скарыстоўваючы кваліфікаваную сілу тэхнікуму, лябараторыі, габінэты і інш. пры тэхнікуме, у самым Віцебску, уся вучэбна-курсавая работа будзе якасна добра пастаўлена.

Выкананьне гэтых вялізарных задач будзе залежыць ад таго, як сыстэма аднясецца да гэтай справы. У прыватнасьці ў сучасны момант перад сыстэмай стаіць баявая задача—гэта падбор і камплектаваньне нашых навучальных устаноў, падбор і пасылка на курсы. Трэба прыняць усе захады да камплектаваньня і сыстэматычнага падбору кандыдатур на нашы курсы.

У заключэньне трэба сказаць, што, ня гледзячы на тое, што наша сыстэма па непасрэднай сваёй працы зьвязана з шырокімі рабочымі, батрацка-бядняцкімі і калгаснымі ма-

самі, факты паказалі, што яна ня ведае свайго актыву, ня ведае, каго пасылаць ў навучальныя ўстановы і на курсы, зусім ня ведае, хто падыходзіць да вылучэньня і г. д. Цэлы шэраг выпадкаў нескарыстаньня месц у навучальных установах і на курсах, а пад бокам— сотні рабочых, батракоў, беднякоў, калгасьнікаў актыўна працуючых на партыйнай, савецкай, прафсаюзнай працы, актыўна ўдзельнічаючых у каапэрацыйных органах грамадзкасьці і кантролю.

Трэба зламаць кансэрватызм і коснасьць ў справе разрашэньня праблемы падрыхтоўкі кадраў. Трэба мабілізаваць грамадзкую думку вакол гэтай палітычна важнай задачы.

Савецкая і партыйная грамадзкасьць павінна заклікаць да парадку тых, хто зрывае падрыхтоўку кадраў з рабочае клясы.

А. Чумак.

## За культурнага прадаўца і загадчыка магазынам

Для таго, каб каапэрацыя магла ў адпаведнасьці з задачамі сацыялістычнага будаўніцтва хутка перабудаваць сваю працу, паставіць яе на баявыя тэмпы, зьявіцца актыўным дапаможнікам сацыялістычнага будаўніцтва, яна павінна мець палітычна выхаваны клясава-баязьдольны, дастаткова агульна і тэхнічна падрыхтаваны апарат; у другім выпадку яна зьявіцца не дапаможнікам, а тормазам у справе сацыялістычнага будаўніцтва.

Вось возьмем хоць-бы якасьць абслугоўваньня спажыўца. Гэта задача цяпер пастаўлена як баявая задача дню. Тут роля працаўніка прылаўка вялізарная. Пайшчык-спажывец па прадаўцу, па загадчыку крамы ці магазыну судзіць аб каапэрацыі, ацэньваючы яе работу, і таму праца працаўніка прылаўка для нас вельмі важна.

І сапраўды, працаўнік прылаўка, сапраўдны каапэратар, ва ўмовах дэфіцытнасьці тавараў будзе кіравацца лёзунгам як мага лепш паднесьці спажыўцу тое, што ў нас сёньня ёсьць, добрасумленна, прыветліва растлумачыць яму прычыны нашых затрудненьняў і г. д.; прыказчык-гандляр, замест гэтага будзе ажыцьцяўляць лёзунг: „даём— дык будзь яшчэ даволен, што даём, а то можам і не даць“, і на запытаньне спажыўца—груба аблае яго. Зусім непатрэбна гаварыць, як будзе сябе адчуваць пайшчык-спажывец у першым і другім выпадках. А трэба сказаць, што ў нашых апаратах у большасьці зараз наглядаецца другі малюнак, чым першы.

Чым тлумачыцца такое становішча? А тым, што, па-першае, дзякуючы росту працы спажывецкай каапэрацыі і ў сувязі з гэтым вялікай патрэбе ў гандлёвых працаўніках, яна ўпітала ў сябе шмат гандлярска-нэпманскага элемэнту, і, па-другое, дзякуючы таму, што праца спажыўкаапэрацыі ўскладнілася, сучасны стан культурнасьці, палітычнай і тэхнічнай падрыхтоўкі працаўніка прылаўка недастатковы для працы ў сучасны пэрыяд.

Дзякуючы засьмечанасьці апарату ў практыцы паасобных каап. арганізацый бываюць скажэньні клясавай лініі, сувязь з прыватнікам, растраты, крадзяжы, грубыя адносіны да спажыўца, адсутнасьць грамадзкасьці і г. д. Дзякуючы нізкай культурнасьці, тэхнічнай і палітычнай падрыхтоўцы каап. апарату мы часта ня ўмеем працаваць, глумім шмат тавараў і прадуктаў з прычыны няўменьня абходзіцца

з ім, недастаткова рацыяналізуем сваю працу і інш. Даволі сказаць, што сёньня яшчэ вялікая частка працаўнікоў прылаўка ўліваецца ў апарат у выглядзе сырога матар'ялу, не прашоўшы нават мінімальнай падрыхтоўкі. І ў далейшым у сувязі з ростам зваротаў каапэрацыі гандлёвы апарат будзе расьці. Запатрабаваньні да працаўніка прылаўка будуць павялічвацца. Так, напрыклад, да канца 5-годкі патрэбна для ЦРК каля 4500 заг. магазынаў і прадаўцоў, а для спаж. т-ваў каля 5.000 чалавек.

Гэта прымушае нас сур'ёзна прызадумацца аб падрыхтоўцы культурнага прадаўца-каапэратара. У сучасных умовах і на далей нам патрэбен ня прыказчык - гандляр, разьмеркавальнік, а культурны, палітычна граматны, глыбока тэхнічна падрыхтаваны каапэратар-грамадчык, які б сьвядома прымаў удзел у сацыялістычным будаўніцтве, актыўна і аддана дапамагаў бы будаваць сацыялістычную каапэрацыю, ае гаспадарку. Гэта прымушае нас у корні зьмяніць формы падрыхтоўкі працаўнікоў прылаўка, і ад каротка-тэрміновых 1-2-месячных курсаў перайсьці да сур'ёзнай працяжнай падрыхтоўкі ў стацыянарных школах, дзе вучань атрымаў бы ня толькі глыбокія спэцыяльна-тэхнічныя і агульныя веды, а і сацыялістычнае, каапэрацыйнае выхаваньне, навык грамадзка-масавай каапэрацыйнай працы.

Такімі школамі павінны быць школы каапэрацыйна - гандлёвага вучнёўства (КГВ) у горадзе і школы сельскага каапэрацыйна-гандлёвага вучнёўства (селькаапвучы) у вёсцы, з 2-3-гадовым тэрмінам навучаньня. Гэтыя школы павінны камплектавацца броньпадлеткамі ва ўзросьце 15-16 гадоў, норма якіх ва ўсіх гандлёвых, у тым ліку і каапэрацыйных, прадпрыемствах, як у горадзе, так і ў вёсцы, урадавымі органамі ўстаноўлена ў разьмеры 10 проц. агульнага ліку платных працаўнікоў.

Пастанова СНК СССР за 11 студзеня 1930 году аб падрыхтоўцы працаўнікоў спажывецкай каапэрацыі нас абавязвае ў 1929-30 годзе у селькаапвучы ахапіць 5 проц., а ў 1930-31 годзе 10 проц. агульнай колькасьці працаўнікоў у спаж. т-вах, інача кажучы, усіх броньвучняў. Адносна-ж гарадзкіх школ каапэрацыйна - гандлёвага вучнёўства, паводле гэтай пастановы, мы павінны ахапіць усю бронь у школы з пачатку 1930-31 года.

Што-ж да гэтага часу зроблена ў нас у БССР па выкананьню гэтай пастановы СНК? Можна з поўнай упэўненасьцю сказаць, што нічога. Ня гледзячы на тое, што цэрабкоопам, асабліва буйным, ужо даўно прадастаўлялася магчымасьць (наяўнасьць дастатковай колькасьці бронь-падлеткаў, знаходжаньня іх у адным месцы і г. д.) арганізаваць такія школы сёньня яшчэ ніводзін ЦРК аб гэтым сур'ёзна не падумаў. Нават Менскі ЦРК, цэнтральны і гандлёвы апарат якога складае каля 2.000 чалавек, які павінен мець каля 200 бронь-падлеткаў, ня мае свае школы, а пасылае броньвучняў (далёка ня ўсіх) вучыцца ў школу пры ЦП саюзу саўганальслужачых, якая, да рэчы сказаць, не прыстасавана рыхтаваць каапэрацыйных працаўнікоў. Чамусь-та Добрускаму ЦРК пад сілу арганізаваць школу КГВ (арганізаваў на 15 чалавек), а Менскаму, Віцебскаму, Гомельскаму і іншым буйным ЦРК гэта цяжка. Такім чынам кантрольная лічба аб арганізацыі ў 1929-30 годзе пры трох буйнейшых ЦРК школ каапгандальвуча ня выканана.

Тое самае і з школамі селькаапвуча. Па кантрольных лічбах у 1929-30 годзе пры Віцебскім, Гомельскім, Бабруйскім, Аршанскім (уключаючы і Магілеўшчыну) саюзах і Менскім аддзяленьні павінны былі быць адчынены школы селькаапвучу, на 60 асоб кожная, а сёньня, у канцы году, ніводзін з саюзаў гэтакай школы не адчыніў. Вось толькі Віцебскі і Бабруйскі

саюзы і Менскае аддзяленьне мяркуюць адчыніць гэтыя школы ў ліпені - жніўні месяцы, а іншыя— дык нават ня відаць каб і рыхтаваліся.

Так адносяцца да важнейшай справы ў падрыхтоўцы кадраў нашы ЦРК і акрспажыўсаюзы.

Зараз Белкоопсаюз распрацоўвае кантрольныя лічбы на 1930-31 год. У наступным годзе мы павінны будзем не на словах, а на справе выканаць пастанову СНК аб тэорытычным навучаньні броньпадлеткаў. На 1-Х-1930 г. у адпаведнасьці з колькасьцю асоб у апаратах у ЦРК будзе каля 650, а ў спаж. т-вах каля 1020 бронь - падлеткаў, якіх у асноўным мы павінны будзем ахапіць у школы каапэрацыйна-гандлёвага вучнёўства. У сувязі з гэтым па кантрольных лічбах на 1930-31 год мяркуецца ў нас у БССР арганізаваць 6 пры буйнейшых ЦРК і 8 у сельскіх мясцовасьцях школ каапэрацыйнагандлёвага вучнёўства. Гэта дасьць магчымасьць ахапіць усе 100 проц. броні падлеткаў па гэтых ЦРК і асноўную масу броньвучняў спаж. т-ваў тэорытычным навучаньнем. Тыя-ж ЦРК, якія ня здолеюць арганізаваць самастойныя школы, павінны будуць пасылаць сваіх броньвучняў у школы селькаапвучу.

Школы каапэрацыйна-гандлёвага вучнёўства ў асноўным павінны будуць рыхтаваць працаўнікоў прылаўка, кваліфікаваных, выхаваных прадаўцоў і загадчыкаў крам і магазынаў. Разам з тым мы павінны ўлічыць вялікую патрэбу, асабліва для райспажыўтаварыстваў кваліфікаваных рахунковых працаўнікоў—рахункаводаў - бухгальтараў, статыстыкаў і інш., а таксама нарыхтоўшчыкаў і кніжнікаў.

У адпаведнасьці з гэтым школы селькаапвучу павінны мець наступныя аддзяленьні: а) гандлёвае, б) рахункова-фінансавае, в) нарыхтоўчае і г) кніжнае. У школах-жа каапгандльвучу гарадзкіх — толькі першыя два аддзяленьні, з большай спэцыялізацыяй па гандлёвых аддзяленьнях.

За двух—трох-гадовы час навучаньня школы каапгандльвучу павінны даць вучням закончаны курс спэцыяльных ведаў, у адпаведнасьці з іх будучай кваліфікацыяй. У зьвязку з гэтым здабывае вялікае значэньне ўвязка тэорытычнага з практычным, вытворчым навучаньнем. Ня менш 50 проц. вучобы павінна быць аддадзена на вытворчую практыку. Практыка вучняў павінна будзе праходзіць у дакладнай адпаведнасьці з будучай спэцыяльнасьцю вучня.

Асобна трэба спыніцца на пытаньні камплектаваньня школ. У цэрабкоопах у нас і зараз дзесяціпроцантная норма броні амаль што запоўнена, броньпадлеткі навучаюцца індывідуальным і брыгадным шляхам, але іх навучаньне зьяўляецца выключна практычным. Неабходна будзе іх ахапіць тэорытычным навучаньнем, шляхам пасылкі ў школы каапэрац.-гандлёв. вучнёўства. У сельскіх жа мясцовасьцях набор броні мы павінны будзем увязаць з адчыненьнем школ селькаапвучу.

Праца па падбору броні-падлеткаў павінна будзе праводзіцца раённымі спаж. т-вамі і ЦРК разам з камсамольскімі і прафсаюзнымі арганізацыямі. Неабходна паставіць сваёй задачай мець у складзе броньвучняў ня менш 85 проц. падлеткаў рабочага і батрацка-бядняцкага сацыяльнага становішча, дзяцей калгасьнікаў і выхавальнікаў дзіцячых дамоў. Ня менш важнай задачай зьяўляецца забесьпячэньне сярод бронь-вучняў 50 проц. жанчын.

* * *

Праз некалькі тыдняў пачынаецца новы навучальны год. Мы павінны сустрэць гэты год адчыненьнем цэлага раду школ для навучаньня броні-падлеткаў. Буйнейшым ЦРК трэба неадкладна ўзяцца

за арганізацыю школ для ахопу сваей броні, за падшуканьне выкладчыкаў для гэтых школ. Менскі ЦРК павінен прыняць ад ЦП саюзу С.Г.С. існуючую школу, пашырыць лік вучняў і палепшыць вучобную пастаноўку і кіраўніцтва ею. Акрспажыўсаюзы павінны працягваць пачатую працу па арганізацыі школ селькаапвучу, ні ў якім разе не паслабляючы яе ў сувязі з надыходзячай ліквідацыяй саюзаў. Іначай можа сарвацца ізноў цэлы навучальны год.

Б. С.

## Пра абслугоўваньне спажыўца.

Па пытаньню абслугоўваньня спажыўца маецца шэраг дырэктыў як партыйных, так і савецкіх органаў, якія абавязваюць спажыўкаапэрацыю праводзіць шэраг мерапрыемстваў з мэтай паляпшэньня абслугоўваньня спажыўца. Аднак тыя матар'ялы, якія маюцца, паказваюць, што гэта пытаньне не стаіць у асяродку ўвагі і штодзённая сыстэматычная праца ў гэтай галіне не праводзіцца. Хваравітым момантам зьяўляецца тое, што значная частка каапэрацыйных работнікаў усе недахопы ў галіне абслугоўваньня спажыўца тлумачаць адсутнічаньнем у дастатковай колькасьці неабходных тавараў, незаўважваючы, што ў шмат якіх выпадках чарга за атрыманьнем тавараў ствараецца выключна па віне каапэрацыйнага апарату. Для прыкладу можна падаць факты з работы Менскага ЦРК: каб атрымаць апалы, рабочым даводзілася стаяць у чарзе з сямі гадзін вечара да 3 - 4 гадзін наступнага дню. Пры гэтым бываюць такія выпадкі, што рабочы, прастаяўшы такі час, зварочваецца дамоў без апалу.

Справа дайшла да таго, што асобныя элемэнты пачалі спэкуляваць і прадаваць чаргу па тры і пяць рублёў. Усё гэта здарылася таму, што пытаньне водпуску апалу ня было прапрацавана, і ніхто ім раней не зацікавіўся. Трэба было спачатку ўстанавіць парадак водпуску апалу па прадпрыемствах і колектывах, што зроблена толькі цяпер.

Ёсьць і такія выпадкі, калі на 1000 пар абутку выдаецца 2000 талёнаў, адгэтуль зразумела, чаму за атрыманьнем абутку ўтвараецца чарга. Робіцца гэта толькі таму, што група, якая разьмяркоўвае дэфіцытныя тавары, ня ведае колькі, тавараў у іх ёсьць.

У той час калі рапаравальныя абутковыя майстэрні за шэсьць месяцаў зрабілі каля 3.000 паправак, талёнаў выдадзена каля 45.000. Адсюль можна зрабіць вынікі, што рабочаму і служачаму даводзіцца некалькі разоў хадзіць пакуль ў яго прымуць абутак для папраўкі.

Ня лепш справа і з абслугоўваньнем спажыўца і выкананьнем дырэктыў у гэтай галіне ў Гомельскім ЦРК. Зроблены досьлед, выявіў, што ў Гомельскім ЦРК маюцца прарывы ў гэтым пытаньні. Ня гледзячы на шматлікія дырэктывы праўленьня БКС, да гэтага часу праўленьне Гомельскага ЦРК не ўзялося за правядзеньне новага рацмінімуму, які быў абвешчаны яшчэ ў маі месяцы. Рацыяналізатарам 5 чэрвеня быў складзены плян правядзеньня новага рацмініму і гэты плян, да гэтага часу нікім не разгледжаны, хаваецца ў паперах рацыяналізатара. З боку аргаддзелу ЦРК ня былі дадзены ніякія ўстаноўкі, і прыскладаньні пляну ня былі ўлічаны і пакладзены ў аснову дырэктывы праўленьня БКС.

Дзякуючы гэтаму плян не даведзены да асобных прадпрыемстваў і работнікаў прылаўка, апошнія нават ня ведаюць аб гэтым рацмінімуме. Увага работнікаў прылаўка не завострана. Даклады аб рацмінімуме на шырокіх сходах не ставіліся і ў гэтай галіне нічога ня зроблена. Дырэктыва праўленьня БКС аб арганізацыі ўнутраных конкурсаў на прапановы па паляпшэньню абслугоўваньня спажыўца і вылучэньня для гэтай мэты адпаведных фондаў ня выканана. Таксама ня выканана і нічога ня зроблена аб папулярызацыі пастановы праўленьня пра конкурс на лепшую краму, па правядзеньню новага рацмінімуму да 1/X-30 году.

Пытаньне паляпшэньня абслугоўваньня спажыўца не стаіць у асяродку ўвагі апарату, і сыстэматычная праца ў гэтай галіне не вядзецца.

Ёсьць шмат недахопаў па тэхніцы гандлю і да зьнішчэньня іх ніякія захады ня робяцца. У некаторых крамах адсутнічаюць ярлыкі і прэйскуранты цэн, а таксама парадак аб норме выдачы дыфтавараў. Крамы ня ведаюць аб колькасьці прымацаваных да іх пайшчыкаў. Весткі аб колькасьці прымацаваных да іх пайшчыкаў даюцца праз аргаддзел. Абутак са складу рассылаецца па крамах у не пасартаваным выглядзе, а таксама не разьмяркоўваецца на падставе цьвёрдых лімітаў, а атрымоўваецца тым, хто раней прыдзе.

За апошні час наглядаецца тэндэнцыя да зачыненьня асобных крам без дасканальнай распрацоўкі пытаньня аб мэтазгоднасьці зачыненьня. Плянава-эканамічным аддзелам былі перададзены крамам штаты і звароты, але меліся такія выпадкі, калі самі загадчыкі крам адмаўляліся ад гэтых штатаў.

У ЦРК існаваў такі парадак, калі адпускаемыя дэфіцытныя тавары не запісваліся ў паявых кніжках, дзякуючы чаму маюцца такія выпадкі, што па аднэй паявой кніжцы асобныя пайшчыкі атрымоўвалі дэфіцытны тавар па чатырох крамах. Кантроль за выдачай і выдатковаваньнем дэфтавараў адсутнічаў. Вучот надрукаваных талёнаў на выдачу тавараў адсутнічае. Талёны не нумараваны і пасьля выдачы не пагашаюцца.

Гандлёвым адзелам устаноўлена норма выдачы газы, кожнаму выдаецца па тры літры. Гэта не паляпшае водпуску тавараў, а уздымае паніку сярод спажыўцоў. Нагогул не зразумела, навошта трэба было нарміраваць газу.

На ўвесь горад і Новабеліцкі раён маюцца тры майстэрні на папраўку абутку, якія не здавальняюць і ня могуць здаволіць мінімальную патрэбу.

Рац'ячэйка ЦРК складаецца з аднаго рацыяналізатара, які нагружаецца рознымі пытаньнямі. Рацрабоце не адведзена адпаведнага месца. Пляны, распрацаваныя рацыяналізатарам, нікім не разглядаюцца.

Ёсьць шмат прапаноў ад розных асоб па паляпшэньню і рацыяналізацыі тэхнікі гандлю, але апошнія не рэалізаваны. Такім чынам, асобы, якія далі прапановы, ня ведаюць аб выніках, і такая пастаноўка заглушае ініцыятыву мас. Ёсьць, напрыклад, прапановы вынаходзтва, якія ўнесены 25/III г. г. і да гэтага часу не разгледжаны.

Ня гледзячы на дырэктывы ЦП саюзу саўгандльслужачых мясцовыя прафарганізацыі нічога не зрабілі для мабілізацыі прафсаюзнай масы для ўдзелу іх у правядзеньні рацмінімуму і для кантрольнай дзейнасьці апарату ЦРК у гэтай галіне.

Зусім кепска абстаіць справа з абслугоўваньнем спажыўца ў вясковым сэктары. Такія элемэнтарныя мерапрыемствы, як уборка крам, не праводзяцца. У прадуктовых крамах гразь, тавары запылены.

Досьлед канстатаваў, што дырэктывы праўленьня БКС да гэтага часу ня выкананы. У Веткаўскім раённым спажывецкім таварystве дзе амаль укамплектован увесь інструктарскі апарат да гэтага часу

ня ўзяліся за выкананьне дырэктыў па правядзеньню мінімуму рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, і дырэктывы падшыты да спраў.

Такія адносіны да выкананьня важнейшых дырэктыў з‘яўляюцца зусім недапушчальнымі. У справе выкананьня рацмінімуму і паляпшэньня абслугоўваньня спажыўца павінен быць адпаведны перелом. Трэба памятаваць, што гэтая задача з‘яўляецца сур‘езнай, і так адносіцца да яе нельга. Трэба спадзявацца, што праўленьне БКС і іншыя адпаведныя органы мацней удараць па тых ЦРК і раённых спажывецкіх таварыствах, якія ня выконваюць дырэктыў і не праводзяць сыстэматычнай працы па паляпшэньню абслугоўваньня спажыўца і па рацыяналізацыі тэхнікі гандлю.

Прафсаюзная маса, каапактыў павінны мець сталы нагляд і сур‘езны кантроль над дзейнасьцю спажыўсыстэмы і патрабаваць ад апошняй няўхільнага выкананьня ўсіх дырэктыў, як партыйных, так і ўрадавых.

Я. Арлоўскі

## Аб абслугоўваньні саўгасаў спажыўкаапэрацыяй

У мэтах праверкі выкананьня дырэктыў партыі і ўраду і паляпшэньня матар‘яльнага і культ-бытавога абслугоўваньня рабочых саўгасаў сыстэмай спажыўкаапэрацыі і паводле пастановы праўленьня БКС ад 25/IV-30 г. Менаддзяленьнем праведзен масавы досьлед каапэрацыйнага абслугоўваньня саўгасаў спажыўтаварыствамі Менскае акругі.

Абсьледаваньнем ахоплены 100% саўгасаў. Да работы былі прыцягнуты рабочыя, батрацтва, бедната і шырокая каапэрацыйная грамадзкасьць. У выніку абсьледаваньня мы маем наступны матар‘ял.

Спажыўкаапэрацыя акругі абслугоўвае 60 саўгасаў, дзе занята больш 2800 сталых рабочых і служачых і 780 сэзоньнікаў. Пры саўгасах ёсьць 9 спэцыяльных крам с/т, якія ў большасьці добра абсталяваны, гадзіны гандлю прыстасаваны да лепшага абслугоўваньня рабочых. Асартымэнт тавараў у гэтых крамах не падабраны: не хапае нават недэфіцытных тавараў, як галянтарэя, пасуда і інш. У краме саўгасу Новыя-Зялёнкі няма солі і газы; нідзе не прадаюцца кнігі, радыё-апаратура, цацкі і музыкальныя тавары.

Астатнія саўгасы, дзе няма спэцыяльных крам, абслугоўваюцца з аддзяленьняў спажыўтаварыстваў, якія знаходзяцца на адлегласьці да 2 кілёмэтраў—33 крамы, ад 2 да 5 кіл.—11 крам, ад 5 да 8 кіл. — 3 крамы і звыш 8 кілёмэтраў — 2 крамы. Як відаць, крамы спажыўтаварыстваў набліжаны да саўгасаў, і толькі 5 саўгасаў знаходзяцца ў 5—8 кілёмэтрах ад крам. Сюды ўваходзяць саўгасы Койданаўскага і Пухавіцкага раёнаў, якія атрымоўваюць тавары непасрэдна з разьмеркавальных складаў спажыўтаварыстваў. Аддзяленьні с/т, з якіх забясьпечваюцца таварамі саўгасы, да абслугаваньня рабочых не прыстасаваны: памяшканьні малыя, цесныя; маюць вялікую нагрузку насельніцтва; гадзіны гандлю не прыстасаваны да вольнага часу рабочых ад працы на вытворчасьці. Рабочыя таму, каб купіць тавары, вымушаны рабіць прагулы і інш. Зусім не практыкуецца развозны гандаль.

Справа разьмеркаваньня дэфіцытных тавараў не ўпарадкавана. Кож.

нае спажыўтаварыства робіць пасвойму, нормы Цэнтрасаюзу па забесьпячэньню рабочых дэфтаварамі ня выконваюцца. У шмат якіх спажыўтаварыстваў крамніна выдаецца бяз нормы і па некалькі разоў таму, хто часьцей прыходзіць у краму, а рабочым, якія заняты працай, цяжка яе атрымаць. У саўгасе Анаполь 120 мэтраў крамніны ляжала каля 2 месяцаў нескарыстанай, бо рабачком чакаў, пакуль атрымае многа крамніны, каб адразу здаволіць усіх рабочых. Гатовае адзеньне ў большасьці с/т засядае ў цэнтральных крамах і да саўгасаў даходзіць вельмі нязначная колькасьць яго. Дрэнна абстаіць справа з рамонтам абутку, ва ўсіх спажыўтаварыствах (акрамя Мар'іна-Горскага) шавецкія арцелі абутку не рамантуюць. і калі падноскі зносіліся, дык рабочаму даводзіцца скінуць гэтыя боты і купіць новыя, або хадзіць босаму. Гэтым вельмі важным пытаньнем ні с/т ні сампрамкаапэрацыя не займаліся. Грэскае, Талькаўскае і інш. с/т нядбайна адносіліся да забесьпячэньня саўгасаў дэфтаварамі. У гэтых с/т мануфактура саўгасам не выдавалася больш 4 месяцаў, дзякуючы таму, што саўгасы пры разьмеркаваньні тавараў былі абойдзены.

Грамадзкім харчаваньнем саўгасы абслугоўваюцца з 25 сталовак, з якіх 6 сталовак арганізаваны выключна спажыўкаапэрацыяй. Сярэдняя каштоўнасьць харчаваньня 30-60 кап. на чалавека ў дзень, што для рабочага цалкам даступна. Абеды сытныя, простыя, гатуюцца па прыкладу арцельнага харчаваньня.

Каапэраваны рабочыя і служачыя саўгасаў ня поўнасьцю — 73,2 проц. Удзельная вага рабочых у выбарчых органах с/т забясьпечана ў наступных лічбах: у праўленьнях с/т рабочых саўгасаў 19,7 проц., у рэўкамісіях—15,1 проц., і ўпаўнаважаных—32,5 проц. У апараце с/т працуе ўсяго 17 вылучэнцаў—рабочых саўгасаў.

Культурна-бытавое абслугоўваньне рабочых саўгасаў стаіць на нізкай ступені.

Вышэй паданае дае падставу канстатаваць, што спажыўкаапэрацыя акругі яшчэ не перавяла сваю працу на баявыя тэмпы і не прыстасавала форм і мэтадаў работы да абслугоўваньня рабочых саўгасаў.

## Пралетарскія кадры—апора сацыялістычнага будаўніцтва.

# Каапэрацыя за мяжой

Карл Біттэль

## Сацыял-фашысцкі тэрор сярод таварыстваў Бэрліна

Паказальны прыклад таго, якія мэтады сацыял-фашысцкага тэрору ўжывае рэфармісцкая бюракратыя проці рэвалюцыйнай апазыцыі, каб падтрымаць свой рэжым над старымі пралетарскімі масавымі арганізацыямі, дае зараз Бэрлін.

Сацыялдэмакратыя прымае ўсе захады, каб прывабіць да сябе на службу сваёй варожай да рабочых палітыкай выдатны магутны апарат „Бэрлінскага спажывецкага таварыства“ (K G B).

K G B ёсьць найвялікшае спажывецкае таварыства Нямеччыны.

203.108 сяброў, штомесячнае павялічэньне прыблізна на 3000 чалавек, каля 80 міл. марак гандлёвага звароту, 300 разьмеркавальных пунктаў, 4200 рабочых і служачых 86 міл. уласнага капіталу і 44 міл. ашчадных укладаў сяброў, а таксама 130.000 марак за паўмесяца новых узносаў.

Таварыства, якое існуе ўжо 30 гадоў, ёсьць тыповы прафсаюзны спажывецкі саюз, які складзен на падставе арганізаванае рабочае клясы і па сваёй праграме і агітацыі настроен да клясавай барацьбы, як паказвае гэта артыкул—прапаганда Гільфэрдзінга пад назвай „Рабочая кляса і спажывецкія саюзы“ (1908).

У вайну 1917 г. апазыцыя (супроць вайсковых пазык, за сьвяткаваньне 1 мая, за забастоўку прадаўцоў заваявала сабе большасьць і вяла пасьля разам з саветамі рабочых дэпутатаў клясава-сьвядомую палітыку.)

Характэрнай зьявілася ў 1920 годзе афіцыйная брашура супроць антыбальшавіцкага глупства цэнтральнага саюзу з арткуламі Дзяржынскага і Крэцінскага аб савецкіх таварыствах.

Партыйныя зрухі, выкліканыя незалежнай сацыял-дэмакратычнай партыяй (U. S. P.) увялі ў Бэрлінскае таварыства меншую, але больш рашучую апазыцыйную групу пад кіраўніцтвам камуністых, групу, якая ў 1923-28 годзе на выбарах таварыстваў атрымала трэцюю частку пададзеных галасоў.

Сацыял - дэмакратычная партыя Нямеччыны (S. P. D.) з прычыны сваёй больш варожай да рабочых палітыкі патрабавала сабе абсалютнай і поўнай улады над тварыскімі масавымі арганізацыямі.

Пад кіраўніцтвам адшчапенца Пауль Лянге была інсцэніравана строгая барацьба за ўладу, каб нячуваным спосабам затаптаць пралетарскую апазыцыю, якая пасьпяхова змагаласяза клясава-сьвядомую тварыскую палітыку.

Праведзеныя востра з палітычнага боку выбары дэлегатаў 1928 г. далі, ня гледзячы на дрэнныя ўмовы выбараў, зьмяншэньне чыноўнікаў, членаў дэмакратыі, павялічэньне камуністычнай апазыцыі на 36 проц. галасоў і 44 новыя мандаты, у той час як сацыял-дэмакратычная парыя Нямеччыны страціла 21 мандат.
Гэта была сыгналам да зьнішчальнага ўдару супроць апазыцыі.

Генэральны напад накіроўваўся на агульнае і роўнае права выбараў ўсіх сяброў, як яно адпавядае і прынцыпу тварыскае дэмакратыі.

Была ўведзена літаральна трохклясавае выбарчае права ў сувязі

з складаным стварэньнем выбараў і подлымі бюрократычнымі глупствамі. Сацыял-фашысцкі тэрарыстычны рэжым быў тут замацаваны статутам.

Таварыскія выбары ў сакавіку і красавіку 1930 г. былі ўрэшце толькі камэдыяй.

Выбары павінна былі адбыцца ў 264 раёнах.

У 67 раёнах апазыцыя з прычыны строгіх пастановаў наогул не магла выставіць кандыдацкіх сьпісаў.

Далейшыя 89 сьпісаў былі прызнаны несапраўднымі.

Выбары адбыліся толькі ў 108 гандлёвых раёнах.

Апазыцыя атрымала звыш 600 галасоў з 19500 галасоў наогул.

Такім чынам нават і 10 проц. сяброўства не жадалі, альбо не маглі наогул выканаць сваё выбарчае права.

Пры заключным падліку S. P. D. праракавала сабе 270 дэлегатаў і дала апазыцыі 30 дэлегатаў, так што кваліфікаваныя тры чвэрці большасьці ва ўсякім выпадку належалі да яе—чаго і трэ' было дасягнуць.

Таварыства тэрарызавана і стаіць зараз у абсалютнай падлегласьці партыі, ня маючы нават і магчымасьці кантролю з боку апазыцыі.

Гэтага становішча ніколі нельга было-б лягчэй дасягнуць на дэмакратычным шляху з прычыны варожай да рабочых палітыкі сацыялдэмакратыі.

Поўнае пацьверджаньне найдзічэйшага партыйнага тэрору даюць таксама і выбары ў саветы рабочых дэпутатаў у Бэрлінскае спажывецкае таварыства.

Савет сацыял-дэмакратычных рабочых дазволіў сабе тое, чаго не дапусьціў бы ніводзін капіталістычны савет да рабочых у Нямеччыне.

На чырвоным сьпісе апазыцыі былі 15 членаў прафсаюзаў.

За дзень да выбараў у саветы рабочых дэпутатаў усім ім адначасова было адмоўлена ў службе, і яны былі неўзабаве зьняты з пасад.

На гэты подлы тэрарыстычны акт рэагаваў колектыў рабочых 250 галасамі, за чырвоны сьпіс прынамсі палову далі арганізаваныя сацыял-дэмакраты (S. P. D. атрымала 950 галасоў).

Гэткія самыя сацыял-фашысцкія мэтады ўжывае і бюракратыя супроць членаў таварыства.

Так адзін член таварыства атрымаў афіцыйны дакумант аб тым, што ён у таварыскай краме „паўторна няпрыстойным чынам выказваўся аб таварыстве“, за што яму пагражаюць неадкладным выключэньнем.

Ужо пры выбарах дэлегатаў зьявіўся дрэнны настрой ва ўласных шэрагах, бо ў шмат якіх раёнах страта галасоў у S. P. D. дасягае 50 проц.

Разьвіцьцё звароту ужо месяцы стаіць на месцы побач з завостраным беспрацоўем.

Зварот кожнага сябра зьмяншаецца штомесячна.

За сакавік месяц адзначаецца афіцыйна зьніжэньне звароту спажывецкіх сродкаў на 1,1 проц., а ў магазынах на 8,5 проц.. і гэта пры значна павялічаным ліку сяброў.

Так пачынае рэагаваць на гэта сяброўства.

Разам з гэткім разьвіцьцём абвастраецца, само сабой зразумела, і клясавая барацьба ўнутры руху таварыства. S. P. D., якая ўжывае сацыял-фашысцкі тэрор супроць сяброўства і колектыву рабочых, рыхтуецца да часовага франтальнага нападу на таварыства, як пролетарска-дэмократычнае сярод рабочага руху. Апазыцыя пад камуністычным кіраўніцтвам змагаецца ня толькі за ўключэньне таварыстваў ў клясавы фронт, але звыш таго і за выратаваньне іх як сапраўдных рабочых установ наогул.

# Праца сампрамкаапэрацыі

Т. Шэндараў.

## Становішча і разьвіцьцё смалакуранай прамысловасьці па БССР

Зараз па БССР існуе 375 смалакураных катлоў з агульнай апрацоўкай: па галіне БСПС – 220, Дзяржгандльбелу—133, райвыканкомаў і калгасаў—21 (у даваенны час на цяперашняй тэрыторыі БССР было 300 катлоў).

З мая месяца 1927 году з пачатку работы БСПС смалакурэньне па БССР павялічылася на 35 проц.

За гэты час ім было абсталявана 118 катлоў і Дзяржгандльбелам 13 катлоў, і калі ўдзельная вага вытворчасьці БССР да агульнай выпрацоўкі смалапрадуктаў па Саюзу складае 40—45 проц., па шпігінару і 30—33 проц. па смале, то ў гэтым годзе процант гэты павялічыўся па шпігінару да 60 проц., а па смале на 45—47 проц. У гэтым жа годзе БСПС абсталюе яшчэ 60 катлоў.

Акрамя гэтага, у 1929/30 годзе абсталёвана 95 сьпірта-парашковых установак, і вызначана да пабудовы ў 1930/31 годзе яшчэ 150 установак.

Гэты промысел, арганізаваны па ініцыятыве БСПС, не прадугледжаны нават ніякімі плянамі.

Ужо лічбы самі за сябе кажуць аб той аграмаднай рабоце, якая праведзена БСПС па леса-хэмічнаму промыслу.

Па дадзеных Інстытуту прамысловасьці (згодна з Наркамземам), зараз маецца пнёвага сыр'я 2.360.000 куб. мэтраў, а пры штогоднім прыросьце ў 130.000 куб. мэтраў пнёвага сыр'я ў працягу пяці год дойдзе да 3 мільёнаў куб. мэтраў.

Штогодняя патрэба сыравіны на адзін кацел раўняецца 1.300 куб. мэтрам.

І калі з пачатку 1930 году ў нас будзе 435 катлоў, то патрэбы ў сыравіне на працягу пяці год таксама вырастуць у 3 мільёны куб. мэтраў.

Частка сыр'явых пнёў могуць аказацца няпрыгоднымі: як, напрыклад, прастаяўшыя больш 30 год ці яшчэ недасьпеўшыя ў гэтыя пяць год. Значыць, пляны Лесбела аб пабудове нейкіх гігантаў для выпрацоўкі каніфолі экстрацыонным спосабам па мэтаду Вахтана (зразумела не па велічыні) застануцца ня зьдзейсьнены таму, што для пабудовы хаця-б і невялічкага каніфольнага заводу неабходны пляц на якім зараз існуе 30 катлоў, такога вольнага пляцу на тэрыторыі БССР няма.

Смалакураны промысел мае вялікае значэньне, як неабходны для забесьпячэньня прамысловасьці таксама і для экспарту.

У маі месяцы вылучана камісія з цэнтру, сумесна з мясцовымі работнікамі па смалакурэньню.

На нарадзе Наркамгандлю быў устаноўлен стандарт смалапрадуктаў, тары і марка БССР.

Акрамя гэтага, вызначаны раёны, якія бліжэй ад мяжы (Менскі, Магілеўскі і Аршанскі), адкуль выключна будзе экспарт смалапрадукту.

Ня кажучы аб тым, што ўстанаўленьне раёнаў дае эканомію у сэнсе правозу, гэта дасьць магчымасьць спэцыялізаваць як бандарныя арцелі, так і прыёмшчыкаў.

На нарадзе была выказана думка аб неабходнасьці вылучэньня Наркамгандлем двух спэцыялістаў-бра-

кёраў, якія выключна-б займаліся бракіроўкай, прыёмкай і адпраўкай як смалапрадуктаў, так і тары, за што яны павінны несьці поўную адказнасьць.

Адначасова з азначанай вышэй камісіяй, вылучанай центрам, ўрадавай камісіяй быў абсьледаваны лесахэмічны промысел БССР і наведана некалькі смалакураных заводаў.

Пастаноўка работы па смалакурэньню была прызнана ў поўнай меры здавальняючай, аб чым і было дакладзена камісіяй на нарадзе пры ВСНХБ ад 27/V г. г.

Да гэтага году смалакурэньню зварочвалася мала ўвагі, як з боку рэгулюючых органаў, так і на мясцох. Толькі ў гэтым годзе па пастанове СТО і ЭКОСО БССР рабочыя, занятыя на смалакураным промысле, прыроўнены ў сэнсе забесьпячэньня прамтаварамі і хлебафуражом да рабочых, занятых на лесазагатоўках, а таксама ў адносінах водпуску дрэвясіны для патрэб смалакурэньня без гандлёвай наддачы.

За апошні час дробныя арцелі павялічваюцца.

Маюцца ўжо такія арцелі, якія аб'яднаюць каля 15—17 катлоў.

Гэта аб'яднаньне апраўдвае з боку эканоміі сродкаў, падбору кіруючых работнікаў і г. д.

Варта адзначыць, што фінансавае становішча большасьці арцеляй напружанае ў сувязі з тым, што на абсталяваньне смалакуранага катла да гэтага году выдавалася доўгатэрміновая пазыка ў 1000—1.500 руб. у той час, калі каштоўнасьць абсталяваньня аднаго катла каштавала 4.000 руб., што вымушала арцель укладаваць у капітальнае будаўніцтва зваротныя сумы.

Мала таго, доўгатэрміновыя пазыкі 1927 году выдаваліся на тэрмін у 2—3 гады, таму арцелям прыходзілася выплачваць с тых жа зваротных сум.

На гэтыя абставіны патрэбна зьвярнуць асаблівую ўвагу, бо гэта ня дае магчымасьці арцелям непасрэдна аддавацца вытворчасьці, і кіраўнікі іх прымушаны адхіляцца ад вытворчасьці ў пошуках сродкаў.

Па пытаньні мэханізацыі загатоўкі асмолу пакуль нічога не дасягнута, паколькі адзіны мэтад ўзрыўны, на які разьлічвалі, аказаўся ня мэтазгодным з прычыны таго, што каштоўнасьць загатоўкі гэтым спосабам перавышае ручны амаль на 80 проц.

Зараз практыкуецца вопыт карчаваньня пней прыстасаваньнем дзеравянай машыны з ланцугамі, але дакладных вынікаў яшчэ няма.

Пытаньнем мэханізацыі БСПС зацікаўлен увесь час, але нічога не ўдалося дасягнуць, так як і ў цэнтры ў гэтым напрамку нічога ня зроблена.

---

З. Левін

## Разэрвы для пасьпяховае лоўлі рыбы ёсьць

Узьнятая на старонках нашага друку здаровая і дзелавая крытыка недахопаў работы арганізацый Белсам── прамсаюзу, якім даручаны улоў і загатоўка рыбы для рабочага забесьпячэньня, дала, бясспрэчна, дадатковыя вынікі.

Гэта відаць з таго, што калі плян за красавік месяц быў выкананы на 36 проц., дык ў маі ён выкананы на 57 проц, а ў чэрвені ён будзе выкананы, прыкладам процантаў на 75—80.

Дзякуючы выяўленьню на старонках друку канкрэтных недахопаў, а часамі і злоўжываньняў паасобных працаўнікоў Белрыбы, некаторыя з іх зьняты з работы і заменены больш працаздольнымі.

За апошні месяц па найбольш рыбаводнай Полацкай акрузе колькасьць арцеляй павялічылася з 12 да 20.

Ёсьць павялічэньні і па другіх акругах.

У выніку такого зруху мы маем па некаторых акругах ужо за гэтых 5 месяцаў—студзень—чэрвень—перавышэньне ўлову супроць усяго мінулага году разы ў 2—3.

Калі, напрыклад, у Віцебскай акрузе ў мінулым годзе улоў складаў 550 цэнт., дык за 5 месяцаў гэтага году вылаўлена на 1.609 цэнт.

У Полацкай акрузе за ўвесь мінулы год вылаўлена 2.540 цэнт., а за гэтыя 5 месяцаў вылаўлена ўжо 3.200 цэнт. Тое самае мы маем і па астатніх акругах.

Гэта даказвае, што пры зусім слабой рабоце Белрыбы і Белсампрамсаюзу ёсьць зрух у рабоце, нават калі ня ўсе ящчэ рэзэрвы выкарыстаны.

Па некаторых акругах, напрыклад: Віцебскай, Аршанскай, Полацкай,—зусім не праводзіцца ўлоў на агромнай плошчы рэк: па Полацку на 3.314 клм., па Віцебску—3.422 клм., па Воршы—3.850 клм., а ў астатніх акругах, як Магілеў, Бабруйск і Мазыр—ўлоў дасягае ня больш 10—20 проц. рэк.

Таксама амаль нічога ня зроблена ў дачыненьні да арганізацыі адзінак-рыбакоў, што, бязумоўна, дало-б значны рэсурс для забесьпячэньня рабочых цэнтраў.

Тут Белсампрамсаюз, ня гледзячы на тое, што праз свае крэдытна-прамысловыя таварыствы ён мог шляхам забесьпячэньня і каапэраваньня дабіцца здачы імі рыбы не на вольны рынак, а для патрэб рабочага забесьпячэньня, да гэтага часу нічога не зрабіў.

Да гэтых недахопаў, якія маюцца ў рабоце апарату Белрыбы і Белсампрамсаюзу, якія, на жаль, амаль не ўкамплектаваны спэцыялістымі, якія былі-б знаёмы з рыбнай справай, трэба зазначыць няўважлівыя адносіны і часамі злачыннае ігнараваньне дырэктыў нашага ўраду аб усялякім садзейнічаньні Белрыбе і Сампрамсаюзу ў справе поўнага ахопу вадаёмаў з боку мясцовых арганізацый.

Вось некалькі характэрных фактаў: Самахвалавіцкі РВК, Менскай акругі, ня лічыцца з пастановай ЭКАНА ад 11 студзеня і 21 сакавіка аб перадачы ўсіх вадаёмаў у загад Белрыбы, а з лёгкае рукі выдае білеты на права лоўлі грамадзянам і бярэ па 12 руб. за білет.

Пухавіцкі РВК не дапускае да ўлова ў вадаёмы бяз заключэньня спэцыяльнага дагавору.

У Віцебскай акрузе, дзякуючы нядбайнасьці мясцовай улады, меліся выпадкі прамога злачынства з боку быўшых арандатараў, якія гарадзілі вялікую плошчу Янавічскага возера, гэтага-ж с/с.

Сураскі раён штучнымі чэпамі праводзіць лоўлю рыбы, гэта было раскрыта на возеры.

На днях атрымана тэлеграма з Жлобіна, што Жлобінскія адказныя работнікі—старшыня гарсавету Чэрняк, старшыня Камітэту ўзаемадапамогі—Фінкельштэйн, Заг. пажарнай дружыны—Гальшчук, Ваенком РВК і інш.—паказваюць прыклад злоснага невыкананьня пастаноў аб правілах лову.

Калі да гэтага яшчэ дадаць, што органы міліцыі і сельсавету ў баку ад барацьбы з драпенжіцкім уловам, то стане зусім ясным малюнак, што значная частка рыбы, асабліва ў вёсках і мястэчках, вылоўліваецца і застаецца на месцы.

Спажывецкія таварыствы на месцах, таксама лічаць для сябе нявыгадным дабівацца цэнтралізаванага забесьпячэньня праз Белрыбу, а лічаць лепш скупліваць па спэкулятыўных цэнах у рыбакоў, а магчыма і ў перакупшчыкаў, што таксама ня спрыяе пасьпяховаму выкананьню пляну.

Прымаючы пад увагу, што большасьць рыбакоў цесна зьвязана з сельскай гаспадаркай, што можа, бязумоўна, адбіцца на выкананьні пляну ўлову, неабходна, каб мясцовыя арганізацыі, у першую чаргу праўленьні калгасаў, праўленьні рыбацкіх арцеляй і сельсаветы, замацавалі патрэбную колькасьць рыбакоў для бесь перабойнага ўлову.

Неабходна, каб ў самы кароткі тэрмін быў выдан закон, які б прыраўнаў рыбакоў, заўсёды занятых на рыбным промысле, да рыбакоў раённых.

Неабходна, каб Наркамфін даў тэрміновае ўказаньне месцам аб парадку аблажэньня рыбакоў, бо на месцах у гэтым маюцца вялікія скрыўленьні, якія, бязумоўна, не садзейнічаюць улову.

Самае галоўнае—гэта садзейнічаньне мясцовых арганізацый ў адносінах укамплектаваньня апарату Белрыбы працаздольнымі работнікамі.

Усе факты, паданыя ў гэтым артыкуле, паказваюць, што ігнараваньне мясцовымі арганізацыямі дырэктыў ураду па пытаньні пасьпяховага выкананьня пляну павінна быць выжыта.

**Аўрунін**

## Пра каніфольны завод у Нова-Беліцы

Экана БССР пастанавіла, каб гэты завод перайшоў з сыстэмы прамкаапэрацыі ў дзяржпрамысловасьць па цэламу шэрагу меркаваньняў. Быццам, завод вельмі цікавы, і трэба яго павялічыць, быццам гэты завод зьяўляецца ўзорам і спробай да пабудовы цэлага шэрагу такіх заводаў.

Па пастанове Экана завод павінен быць пярэданы Лесбелу.

Трэба памятаць, што сыстэма прамкаапэрацыі складаецца з цэлага шэрагу зьвенчакоў: ёсьць рэспубліканскі цэнтр, акруговы і нізоўка, гэта значыць—гаспадаром непасрэдна ўсялякіх прадпрыемстваў зьяўляецца першы каапэрацыйны зьвенчак—арцель, а потым ужо ідуць акруговыя саюзы і рэспубліканскі цэнтр.

Як агульны парадак прапанова дадзена рэспубліканскаму цэнтру, каб ён даў загад аб перадачы, што і было зроблена 1 красавіка. І вось з гэтага часу пачынаецца валакіта ў арцелі, да якой гэты завод належаў, каб атрымаць тыя грошы, якія завод каштуе, а на заводзе ў час перадачы меліся матар'ялы і сродкі на 45000 руб. Гэта тыя сродкі, якія на працягу аднаго м-ца Лесбелам скарыстаны.

Калі саюз зьвярнуўся да Лесбелу за грашыма, а каштоўнасьць заводу складаецца ня больш, ня менш як ў 171000 руб., апошні ад аплаты не адмовіўся, але перадаў свайму юрысту, каб ён падаў сваю думку, а юрыст знайшоў, што ёсьць закон, калі па пастанове вышэйшых органаў адно дзяржаўнае прадпрыемства перадае маёмасьць другому прадпрыемству, гэта перадача робіцца бяз грошай, і, гэтакім чынам, ён думае, што і за завод грошы плаціць ня трэба. Зусім ня праў юрысты, калі ён не бярэ пад увагу, што каапэрацыйная сыстэма складаецца з паявых грошай, альбо з крэдыторскае завінавачванасьці, і такая думка больш падыходзіць да нацыяналізацыі маёмасьці каапэрацыі.

Час ідзе і ВСНГБ, які кіруе ўсёй дзяржаўнай прамысловасьцю, робіць пастанову, каб гэты завод Лесбел перадаў Хэмаб'яднаньню. А калі мы зьвярнуліся да Лесбелу за грашыма, апошні ўжо перадаў нас для разрахункаў да другога прадпрыемства.

Новае прадпрыемства ў асобе Хэмаб'яднаньня проста заяўляе, што грошы не дадуць па 2 момантах: 1) па пляну гэты завод не прадугледжаны, а па другое—вам грошы не належаць.

ВСНГБ, на прэзыдыуме заслухаў даклад Хэмаб'яднаньня, не вырашаючы пытаньня, адносна грошай—але зацягвае гэта пытаньне яшчэ невядома на які час.

А разрахунак марудзіцца і марудзіцца, то паміж паперак Лесбелу, то Хэмаб'яднаньня, то ВСНГБ.

# Культработа

К. Жыткевіч.

## Увагу кніжнаму фронту.

Значэньне каапэрацыйнай сыстэмы ў справе распаўсюджваньня кнігі, бясспрэчна, вялікае. Веснавая пасеўная кампанія бягучага году паказала гэта з асаблівай відавочнасьцю. У тых раёнах БССР, дзе спажывецкія таварыствы зьвярнулі ўвагу на гэтую справу, кніжка праз раённыя крамы, кіганош, школы была прасунута ў самыя глухія куткі. Але бяда ў тым, што ня ўсюды яшчэ спажтаварыствы адвялі ў сыстэме свае працы належнае месца культурнаму фронту, ў тым ліку распаўсюджваньню кніжкі.

Некаторыя спажыўсаюзы не дацэньваюць значэньня распаўсюджваньня кнігі, як важнай баявой палітычнай задачы. Такія адносіны мы маем у Воршы і Полацку, дзе раённыя кніжныя крамы існуюць амаль што на паперы. Няма належных захадаў да ўзмацненьня кнігарняў працаўнікамі. І як правіла, нават і там, дзе каапэратывы ўсьвядомілі значэньне прасоўваньня кнігі для культурнай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва, загадчыкамі кнігарняў прызначаюцца працаўнікі, якім трэба менш плаціць. Часта трапляюць туды асобы мала здольныя да гэтай працы, а ў некаторых выпадках і зусім малапісьменныя.

І ўсё-ж, ня гледзячы на такое нездавальняючае становішча, НК РСІ, правёўшы абсьледваньне справы кнігараспаўсюджваньня ў БССР, прызнаў найбольш мэтазгодным ўсклясьці ўсю адказнасьць за забесьпячэньне ўсіх культ-асьветных устаноў раёнаў падручнікамі і іншай літаратурай за абслугоўваньне сацыялістычнага сэктару, а таксама прасоўваньне кніг да індывідуальных пакупцоў на каапэрацыю.

Ясна, што гэтая пастанова зусім мяняе малюнак. Калі яшчэ ў мінулым сэзоне каапэрацыя на кніжным фронце магла працаваць па прынцыпу „што ўбіў, тое ўехаў“, калі яшчэ ў мінулым сэзоне можна было ўскласьці віну за нездавальняючае абслугоўваньне кнігаю на якую-небудзь іншую арганізацыю, дык цяпер каапэрацыя ня можа ўжо дазволіць сабе такой раскошы. Пастанова НКРСІ, усклаўшы на каапэрацыю адказнасьць за кніжны фронт, гэтым самым выводзіць каапэрацыю на лінію агню на адным з адказнейшых баявых участкаў.

Чаго вымагае гэтая пастанова ад каапэрацыі ў першую чаргу?

Зьдзейсьненьне гэтай пастановы вымагае ад каапэрацыі перш за ўсе адмаўленьня ад тых павольных тэмпаў ў кніжнай справе, якія мы назіраем яшчэ і цяпер.

Каапэрацыя зараз жа павінна зрабіць агляд рабочай сілы кніжных крам. Там, дзе крамы існуюць толькі на паперы за адсутнасьцю працаўнікоў, іх трэба безадкладна адчыніць.

Пры Белкаапсаюзе зараз адбываюцца курсы кніжных працаўнікоў для раённых крам і інструктароў—кніжнікаў, гэтыя курсы дадуць каапэрацыі сотні працаўнікоў на кніжным фронце. Каапэрацыя павінна выкарыстаць іх абавязкова па непасрэднаму прызначэньню.

Не за гарамі ўборачная і асеньняя пасеўная кампанія. Кніжны фронт каапэрацыі павінен сустрэць

гэтыя кампаніі ўзброеным колькасна і якасна і давесьці літаратуру гэтых кампаній да мас.

Тут трэба будзе максымальна выкарыстаць вопыт працы ў веснавую пасеўную кампанію. Кніганош—піонэрау і вучняў, што працавалі ў веснавую кампанію, ужо цяпер трэба падрыхтоўваць да наступных кампаній, максімальна скарыстаўшы мэтад соцспаборніцтва. Лета і работа ў полі значна ўскладняюць гэту працу, але-ж гэтыя" „аб'ектыўныя" умовы трэба будзе перамагчы. Раённая кніжная крама павінна наладзіць сваю працу так, каб падаць кнігу ва ўсе зборышчы.

Нельга ні на хвіліну ўпускаць з поля дзейнасьці і падрыхтоўку да новага навучальнага году. Арганізаваным забесьпячэньнем школ каапэрацыя займецца сёлета ў пяршыню. Справа адказная і досыць складаная. Але-ж ніякая іншая арганізацыя ня мае такіх не абмежаваных магчымасьцяй выканаць гэтую справу з найменшымі стратамі сіл і сродкаў, як каапэрацыя.

Тут кніжным працаўнікам каапэрацыі трэба цесна зьвязацца з пэдсаветамі і школамі і падумаць над тымі шляхамі і мэтадамі, якія б далі максымальнае скарыстаньне школ для прасоўваньня кнігі ў тым ці іншым раёне.

Пастанова НК РСІ разьвязала пытаньне змычкі каапэрацыі і школы па сумеснай працы на кніжным фронце. Цяпер ад каапэрацыі залежыць апраўдаць ўскладзеныя на яе надзеі.

**Выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады забясьпечвае нашы будаўнічыя тэмпы.**

# Літаратурны куток

С. Гаранскі

## Па шляху дасягненьняў

(*Нарыс*)

Гор. Менск, Савецкая вуліца. Шум трамваяў аўтамабіляў, грукат возчыкаў, бязупынны рух народу—усе гэта кружыць галаву, заглушаючы чалавечы голас.

Я іду проста па Савецкай да таварнага вакзалу. На некалькі хвілін міжволі прыкоўвае вочы будаўніцтва дому Ураду. —Растуць сьцены, ўзьнімаюцца карпусы. Скора яны сыйдуцца ў адзін вялізманы палац, адкуль кожнаю галінаю жыцьця, кожным нашым ростам будзе кіраваць ўрад Савецкай Беларусі.

Адтуль іду на пабудову фабрыкі-кухні, якая будуецца зусім непадалёк ад Дому Ураду. Спыняюся, каб атрымаць больш дакладнае ўяўленьне аб гэтай надзвычайна каштоўнай грамадзкай пабудове.

* * *

Пабудова ідзе хуткім тэмпам. Сотні рабочых з энтузіязмам штодня падымаюць ўсе вышэй і вышэй агромны будынак. Навакол пабудовы мэханічныя дапаможныя мастэрні, узгоркі пяску, каменьняў, кучы жалеза, дрэва.

Пабудова будзе скончана за некалькі месяцаў, самае вялікае праз год.

Фабрыка-кухня будзе цалкам прыстасавана да спажыўца. Яна шырока разгорне па гораду Менску грамадзкае харчаваньне. Гэтай пабудове надаецца вялікае грамадзкае значэньне як вялізарнай сацыялітычнай адзінцы.

Усю ініцыятыву ў пабудове фабрыкі—кухні ўзяло на сябе МЦРК. Праэкт распрацаваны таварыствам „Нархарч.“

* * *

Фабрыка-кухня будзе гатаваць кожны дзень некалькі тысяч абедаў. Пры дзьвюхзьменнай нагрузцы яна дасьць ня менш 24.000 абедаў Гэта значыць 24.000 працоўных гораду Менску будуць абслужаны грамадзкім харчаваньнем аднэю толькі фабрыкаю-кухняю. Да гэтага ў Менску будуць адчыняцца новыя грамадзкія сталоўкі, каб больш ахапіць грамадзкім харчаваньнем працоўнае насельніцтва гораду.

Фабрыка-кухня будзе абсталёвана ўдасканаленымі машынамі, дасягнутымі ў галіне грамадзкага харчаваньня. Гэта будзе адзін з найбольшых грамадзкіх размеркавальнікаў харчу ў БССР.

Пры фабрыцы-кухні будзе арганізаваны аўта-транспарт для дастаўкі гарачых абедаў спажыўцу на дом, на розныя прадпрыемствы, на фабрыкі і заводы. З фабрыкі-кухні будуць браць гарачыя абеды некаторыя сталоўкі гораду Менску.

Абеды будуць вазіцца ў тэрмасох, а на прадпрыемствах будуць разьлівацца ў пэўны посуд і разьмяркоўвацца між рабочымі. Дзякуючы аўтатранспарту гарачыя абеды можна будзе дастаўляць рабочым сем'ям на месца ў рабочыя пасёлкі.

* * *

Навокал фабрыкі-кухні будзе разгорнута масавая праца. Тут будзе арганізаваны цэлы шэраг мерапрыемстваў па абслугоўваньню працоўных гораду Менску, як у



Агульны выгляд пабудовы фабрыкі-кухні



Выгляд пабудовы з боку

Гэта пэрспэктыва кажа аб тым, што грамадзкае харчаваньне разгортваецца ва ўсю шырыню. Праз некалькі месяцаў працоўныя гораду Менску будуць поўнасьцю, без затраты лішняга часу здаволены грамадзкімі абедамі.

сэнсе іх культурнага выхаваньня, так і ў сэнсе ўрачэбна-санітарнага абслугоўваньня.

Мяркуецца пры галоўным выхадзе з будынку фабрыкі-кухні арганізаваць разьдзявальню і тут жа адчыніць цырульню для абслугоў-

ваньня рабочых фабрыкі і наведвальнікаў.

У корпусе фабрыкі-кухні будзе адчынена дыэтычная сталоўка для масавага абслугоўваньня тае часткі працоўных, якая па заключэньню ўрача павінна будзе харчавацца пэўнымі па дыэце абедамі.

На самым верхнім паверсе будзе знаходзіцца з адчыненаю страхою пляцоўка, акая ў летні сэзон будзе выкарыстоўвацца пад сталоўку і для адпачынку наведвальнікаў.

На ніжнім паверсе будзе знаходзіцца склад для розных харчовых паўфабрыкатаў, адкуль фабрыка-кухня на месцы будзе атрымоўваць патрэбныя ёй прадукты.

Пры фабрыцы будзе заўсёды функцыянаваць культурная заля—закусачная, разьлічаная на 200 наведвальнікаў. У гэтай залі будуць заўсёды розныя газэты, тут сярод наведвальнікаў будзе весьціся культурна-масавая праца, тут наведвальнік зможа перакусіць, выпіць чаю і культурна адпачыць.

Пабудова фабрыкі-кухні ёсьць вялікае дасягненьне працоўных ў галіне грамадзкага харчаваньня. Са сканчэньнем пабудовы фабрыкі-кухні грамадзкім харчаваньнем будзе ахоплена вялікая колькасьць працоўных гораду Менску.

Наша фабрыка-кухня будзе моцным агітатарам ў галіне грамадзкага харчаваньня. Яна будзе каштоўным культурным працаўніком сярод працоўных мас гораду Менску. Яна зьявіцца сапраўднай сьведкаю нашых сацыялістычных дасягненьняў у нашым будаўніцтве, сьведкаю новае культуры.

**Праз грамадзкае харчаваньне, праз інтэрнацыянальнае выхаваньне мас, праз бальшавіцкае выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады забясьпечым пабудову сацыялізму.**




І. Прыдарожны

# Я супроць бацькі

Мы толькі што скончылі свой камсамольскі сход. Цяпер, вышаўшы са сходу, ідзём па вуліцы. Нас чалавек пятнаццаць хлапцоў і дзяўчат.

Учора вечарам у нашу коопэрацыйную краму прывезьлі папяросы першага і другага гатунку, а таксама і тутун.

Мы накіраваліся да крамы. Некаторым з нас захацелася закурыць.

Падыходзім да крамы, ажно бачым, крамар Кісель краму шчоўк і на замок.

— Таварыш Кісель, можна папяросачак як-небудзь?

— Хэ, каму? вам? А яшчэ чаго?.. І ён, больш не размаўляючы, сыходзіць з ганку крамы.

Ды сыходзіць ён не адзін, а пад руку трымае і майго бацьку.

А мой бацька—чалавек нішто сабе. На сёньняшні дзень ён старшыня нашага спажывецкага таварыства.

Яны сыходзяць з ганку хістаючыся. І як толькі сышлі, мой бацька і запеў:

Ой гулялі ў ку-ма-а-а

Сваццi са сва-а-та-а-мі-і...

— Э, дык твой-жа бацька пад „мухай"!

Так, мысьлю, бяз вас бачу, што пад „мухай".

Што рабіць? Сорам ды годзе. Тут амаль уся ячэйка — хлопцы, дзяўчаты, так народу поўна на вуліцы. А бацьку абы што. Ён ідзе з Кісялём і расьпявае. Кісель яму падцягвае. У бацькавай шапцы казыр зьвернуты на левае вуха. Каўнер шырокай сіняй кашулі расхрыснуты.



Народ сядзіць абапал вуліцы і сьмяецца.

— Прохар з Кісялём зноўку зямлю барануюць нагамі.

— Вось дзе, брат, на бацьку самакрытыку наводзяць.— жартуюць хлопцы.

Мне не да хлопцаў. Я адлучаюся ад іх і іду за бацькам.

Бацька з Кісялём ідуць пад краму „Цэнтрасьпірту № 13". Там каля ганку сядзіць чалавек дзесяць нашых мужчын. І як заўсёды Ігнат Чарапёнак расьцягвае мех свайго старога гармоніку. Гармонік рыпіць і пераліваецца.

Кісель выпусьціў бацьку з-пад рукі, а сам, хістаючыся ў бакі, пайшоў няўмела перабіраць нагамі.

Людзі сядзяць, рагочуць і крычаць:

— Во, Кісель, маладзец — працуе лепш, чым у краме.

Кісель скончыў і пакланіўся майму бацьку.

Бацька пайшоў па прыкладу Кісяля перабіраць няўмела нагамі, падымаючы пыл.

У гэты час падышоў я. Мне стала нялоўка, і нейкі сорам за бацьку агарнуў мяне.

— Тата, ідзі сюды!

Бацька выняў папяроску і закурыў. Дым ён спрытна пусьціў угору і сказаў:

— Куды сюды? Я тут. Нікуды не пайду. Я от тут з т. Кісялём. Гуляем сабе... Балазе свята. За сваё гуляем... Самі гуляем. А ты, камсамол, дамоў пашоў. Не хадзі за бацькам...

— Верна прапісана—крычаць галасы з ганку. Няхай гуляе свой чалавек... Нікому дзела няма...

Кісель падышоў да мяне, прышчурыў спрытна вока і сказаў:

— Слухай, брат, гэта табе ня вашы сходы, дзе сабе парадкі наводзіце. Ідзі, брат, да хаты лепш. Курыць усёроўна ня атрымаеце. Я, брат, знаю каму што даю...

Так, так—мысьлю я. Дзіва што знаеш ты. Ты, брат, птушка бітая. Але чаго вось бацька? Чаго ён у апошні час зьвязаўся з табою. Ён жа быў не такі раней. Не, мой бацька, не такі. Гэта ўплыў Кісяля. А Кісель, як кажуць, асоба цёмная...

Тав. Кісель! крычу я. Вы крамар нашай спажывецкай крамы, помніце гэта. За ўсё гэта вы адказваеце.

— Фі-і... сьвішча Кісель. Ад каго? ад вас?

Я кідаю размову з Кісялём. Я зварочваюся да бацькі.

— Бацька,—крычу я, ты павінен зараз-жа ісьці да хаты—і я падыходжу да яго. Бяру яго за рукаў і цягну да хаты.

Бацька ўперся нагамі ў пясок, закусіў ніжнюю губу і, нічога ня кажучы, моцна гваздануў кулаком мне па вуху. Я адляцеў. І толькі пачуў, як зарагаталі на ганку: гы!.. гы!.. гы!.. ха!.. ха!.. і потым усё гэта зьмяшалася з Ігнатавам гармонікам.




Я, апусьціўшы галаву, з больлю ў вуху пайшоў ад ганку. Мне стала ніякавата і сорамна. Мой бацька ніколі мяне ў сваім жыцьці не пакрыўдзіў так, як сёньня. Я нераз у апошні час вёў з ім спрэчкі аб яго злачынствах на пасадзе, але нічога. Дасюль ён слухаў. А цяпер усё перашло рамкі.

Ужо вечарэе. З-пад рэчкі цягне сырасьцю. Бляючы і падымаючы пыл па вуліцы, бягуць з поля авечкі. Дзесьці на другім канцы, чую, хлопцы з дзяўчатамі запелі песьню. Мне не да гэтага.

Мне сорамна і абідна. Мой бацька ня слухае мяне. Ён слухае Кісяля. Ну штож, калі так, дык і так. Бацьку вырваць з-пад лап Кісяля. І я рашаю дзейнічаць падругому, другім шляхам і на бацьку і на Кісяля.

II.

У нас ідзе пасяджэньне бюро ячэйкі. Тут сядзіць Іляры, Макар, Апанас і другія хлопцы. Разьбіраем рознае.

— У мяне, гавару я, ёсьць адно пытаньне, невялічкае.

— Дакладвай, гаворыць Міхась.

— Я, таварышы, стаўлю гэтае пытаньне таму, што ў індывідуальным парадку я з ім не спраўлюся. Прашу тут вырашыць разам. Справа у тым, вы мабыць ведаеце, справа ідзе пра бацьку. Трэба нам прыглядзецца, асабліва нашай групе „Лёгкай Кавалерыі" да майго бацькі і Кісяля. Гэта немагчыма. П'янствуюць будучы на пасадзе. Дэфіцытныя тавары разьмяркоўваюць няправільна. Ёсьць факты... і падымаю інфармацыю. Тым жа вечарам пры лямпе, наш прыгнуўшыся сакратар Іляры Курносы заносіць у пратакол:

**Ухвалілі:** Справу наконт высьвятленьня фактаў злачынства асобных працаўнікоў спажывецкай коопэрацыі даручыць для высьвятленьня групе „Лёгкай Кавалерыі".

Такім чынам справа вырашана. Так ці іначай я да гэтае справы блізак. Я ўваходжу ў „Лёгкую Кавалерыю". Са мною яшчэ Сымон, Зося і малады прысланы настаўнік-камсамолец Алесь Доўгі.

Перад намі стаіць пытаньне, як падыйсьці да справы, каб, як кажуць, накрыць на месцы злачынства. Ёсьць чуткі, ды ня то што ёсьць, а і гэта так, што ў Кіселя... дзесьці ў доме схавана пары тры ботаў, скрутак сукна, крамніна, а мой бацька, я здагадваюся, дзесьці прыхаваў махоркі і папярос.

Гэта так, ня іначай. Трэба знайсьці канцы. Мы выпрацоўваем плян і рашаем: мне даручаецца прыглядзець справу ў бацькі, а за Кісялём прыгледзіць Алесь Доўгі, які на час спыніўся, прыехаўшы, у яго на кватэры.

З гэтага вечару я зьмяніў тактыку да бацькі. Я дома нічога яму не гавару. У нас няма ніякое гамонкі, нібы нічога і ня было. Я толькі сяджу каля вакна і чытаю газэту і гляджу праз вакно, куды адлучаецца бацька. Ён ідзе да клеткі, адмыкае і выходзіць адтуль кучы папяросы. А часам ён прыходзіць з вёскі і прыносіць масла ці яйкі. Я здагадваюся, за што і дзе ён іх бярэ.

Сёньня бацька паехаў у раён за таварамі. Я застаўся ў хаце. Думаю, хоць і няспрытна мне за бацькай так сачыць, але гэта патрэбна. Іду ў клетку і капаюся па кутках. Адкідаю адну дошку, потым аўчыну і бачу—стаіць скрынка фанерная, а ў ёй з сотню пачак махоркі і папяросы. Ага, вось як!..



Што рабіць? Бацьку свайго выдаць... неяк няспрытна. Што рабіць? Ня выдаць? Які камсамолец... Позна развражаць, мыслю я. Факт ёсьць. Альбо з бацкам, або супроць яго. Я амаль ня рад што і знайшоў такую вынаходку". Нічога ня зробіш... Я іду да Алеся Доўгага.

Алесь сядзіць каля століку і штосьці ўсё лічыць.

— Здароў—кажу.

—Здароў, і ён глядзіць мне ў вочы, нібы хоча штосьці ў іх вычытаць!

— Справа, кажу ёсьць. Так і так. Вось, Алесь, такую ведаеш „вынаходку" знайшоў, што і сам ня рад—махорку, папяросы.

— Ха-ха, сьмяецца Алесь. Знайшоў, кажаш, тапор за лаўкай. Куды там. Ха-ха... Ідзі сюды, Апанас. І Алесь мяне ў сенцы—Ша! глядзі,—сказаў ён,—не адзін ты шчасьлівы. І Алесь падняў дзьверцы ад скрынкі. Аж там ляжыць дзьве пары ботаў, з паўкулька цукру, скрутак сукна і некалькі галёшаў.

А, а... Так вось як. Тавар дэфіцытны, а працаўнікі не дэфіцытныя. Ажно ў двух. Мы вырашылі давесьці справу да канца.

* * *

Позна вечарам, калі бацька тольк і што прыехаў з раёну, ён убачыў, што на ганку ў Кісяля ляжалі боты, цукар, махорка... і стаялі людзі.

— Як? Хто ўзяў?. Якім чынам? Ды гэтаж было захавана ад мышэй, ад сырасьці ў краме!..

— Ад сырасьці...—хтось чмыхнуў. Бачыш ты?!...

Бацька стаяў перада мной, а я перад ім, і ён глядзеў на мяне.

— Апанас, гаворыць, твая работа, працадзіў ён праз зубы.

Я нічога не сказаў бацьку і пашоў дадому.

Назаўтра толькі пад вечар бацька разам са ўсімі прачытаў у нашай насьценнай газэце „Чырвоны Прамень" мой допіс з загалоўкам: „Я супроць бацькі".

---

# На мясцох

Аўрунін.

## Пра работу спажыўсыстэмы на Гомельшчыне.

Пастанова ЦК ВКП(б) ад 16/II-30 г. адзначыла цэлы шраг момантаў па разгортаваньню каапэраваньня саматужнікаў. Пры гэтым у мясцох суцэльнай калектывізацыі каапэраваць цалкам усіх саматужнікаў. Таксама ў пастанове адзначаны адносіны паміж саматужнай каапэрацыяй і дзяржаўнай прамысловасьцю.

Агульны рост каапэраваньня ў наступаючым 1930/31 годзе супроць бягучага году 97 проц. Пры гэтым павялічэньне па дэфіцытнай сыравіне дае толькі 54 проц., а па недэфіцытнай 104 проц. Гэта значыць, што лічбы складзены згодна дырэктыў, каб павялічыць працу на мясцовай сыравіне. Тут цікава адзначыць наступныя моманты: па вестках БСПС, па Беларусі на сёньняшні дзень проц. каапэраваных па мясцовай сыравіне складае 49,5 проц., а мяркуецца, каб да канца 1931 года проц. па недэфіцытнай сыравіне павялічыўся да 58 проц. Калі мы разгледзім гэты момант па Гомельскай акрузе, то ўбачым, што ўсяго па недэфіцытнай сыравіне на 1/X-30 г. будзе 70 проц., а на 1/X-31 года гэты проц. будзе даведзены да 74 проц.

Калі мы разгледзім лічбы, то ўбачым, што наогул на 1/X-1930 году каапэраваных саматужнікаў па гораду 37 проц., па мястэчках 8 проц. і па вёсках 55 проц, а на 1/X-31 году процант каапэраваных у вёсцы ўзрастае да 60 проц., у адносінах агульных лічбаў каапэраваных. Гэта значыць, што на каапэраваньне вёскі зьвернута належная ўвага.

Цікава адзначыць узятыя тэмпы па каапэраваньню ў 1930-31 годзе, калі мы зьвяжам гэтыя тэмпы з пяцігодкай. Мы бачым, што пяцігодка прадугледжвае на 1/X-31 году усяго каапэраваць 10495 саматужнікаў. Па кантрольных лічбах 1930/31 году ўжо прадугледжваецца 15113 саматужнікаў каапэраваных. Гэта значыць, што ўзяты тэмп па каапэраваньню ня толькі дае выкананьне 5-годкі ў чатыры гады, але дае да канца трэцяга году перавыкананьне на 50 проц. пяцігодкі.

Усё павялічэньне ідзе за кошт недэфіцытнай сыравіны.

Таксама трэба зьвярнуць увагу і на тое, што да канца пяцігодкі, пры 10495 каапэраваных, саматужнікаў мяркуецца 7 проц. у вёсцы.

Патрэбна адзначыць таксама вялікае павялічэньне ў галіне будаўнічага матар'ялу, які дае рост на 200 проц, а таксама і па смалакурэньню; па харчаваму прадукту 80 проц., а па рыбнаму, як тавар харчавы, 133 проц., па мыцьцю рызьзя для папяровай прамысловасьці 125 проц. і па球 рознаму абслугоўваньню 100 проц.

Такім чынам, проценты па каапэраваньню зьвязаны з выкананьнем пастановы У. Ц. К. П.

Кантрольныя лічбы па паянамнажэньню складаюцца з наступнага: падлічваючы, што па недэфіцытнай сыравіне ў нас мяркуецца 74 проц., што павінна даць у сярэднім зар-

плату меньш, чым мяркуецца нашым цэнтрам пры 58 проц. на недэфіцытнай сыравіне. Мы бярэм у сярэднім на кожнага саматужніка ўсяго 70 руб. Такім чынам, пры каапэраваньні 15113 саматужнікаў на 1/Х-31 году ўсяго павінна быць аплачана паю 1061900 руб. Усяго паянамнажэньня ў 1930/31 годзе павінна быць 571 тыс. руб.

Вытворчая дзейнасьць у 1930/31 годзе зьвязана з павялічэньнем колькасьці сяброў, а таксама з шэрагам мяркуемых рацыяналізацый, рэканструкцый і інтэнсыўнасьці працы. Лічбы складаны на выпрацоўку ў 1930/31 годзе па каштоўнасьці 1929/30 г. усяго на суму 26.502.000 рублёў.

Патрэбна адзначыць, што сума, мяркуемая да выпуску прадукцыі ў 26.502.000 руб., перавышае суму прадукцыі, вызначанай да выпрацоўкі па пяцігадоваму пляну, дзе ў 1932/33 годзе мяркуецца даць прадукцыю на 24.500.000 руб. Такім чынам гэтыя лічбы даюць выкананьне сумы пяцігадовага пляну ў канцы 1930/31 году, г. зн. на 3-м годзе пяцігодкі.

Зьніжэньне сабекошту па саматужнай прамысловасьці мяркуецца давесьці да 7 проц., г. зн., па нашых лічбах, патрэбна зьнізіць на 1.800.055 руб.

Улічваючы, што павялічэньне колькасьці сяброў і ўзмацненьне арцеляй патрабуюць у наступным годзе разгарнуць будаўніцтва, дзе будзе працаваць больш 100 саматужнікаў у кожнай аднэй арцелі.

Для эканоміі выдаткаў па будаўніцтву мяркуецца, каб у буйнейшых арцелях працавалі на дзьве зьмены, гэта зьменшыць патрэбу ў плошчы памяшканьня.

Крэдпрамтаварыствы да апошняга году абслугоўвалі саматужнікаў адзіночак шляхам крэдытаваньня грашмі і рознымі матар'яламі. У сувязі з крэдытнай рэформай фактычна ўся праца крэдытаваньня спыняецца. З пераходам саматужнай каапэрацыі цалкам на вытворства і цэнтралізаваны збыт прадукцыі для крэдытных таварыстваў, асноў працы не застаецца.

З фінансавага боку па саматужнай каапэрацыі трэба адзначыць, што ў гэтым годзе яна перажыла поўную рэвалюцыю. Крэдытная рэформа, якая пачалася з 1 красавіка па саматужнай каапэрацыі ўжо дала свае вынікі.

Усім вядома, што да новай крэдытнай рэформы прамкаапэрацыя больш была зьвязана з гандлёвай працай, чым з вытворчай, і толькі дзякуючы лёзунгу „тварам да вытворства“ крэдытная рэформа перабудавала прамкаапэрацыю.

Як агульнае палажэньне з прыбытку сыстэмы 10 проц. адлічваецца на культпатрэбы, якія згодна пляну выдаткуюцца цэнтралізавана.

Да сучаснага моманту пытаньне аб кадрах ня было так востра пастаўлена, а ў сучасны момант па каштарысу культпрацы прадугледжваюцца асобныя выдаткі на пабудову ўласнага вузу, акрамя тэхнічных інстытутаў.

Па прызначанаму балянсу на 1/Х-30 г. прыбытак па сыстэме і саюзу будзе 710.000 руб., 10 проц. з гэтай сумы складае 71.000 руб., з якіх 60 проц. будзе скарыстана на падрыхтоўку кадраў, праз тэхнічныя інстытуты і вузы, а астатняя сума застанецца на культмасавую мясцовую працу.

Акрамя гэтага, мяркуецца 540 вучняў спэцыялізаваць па нашай прамысловасьці.

У лік кадраў нам асабліва патрэбны спэцыялісты тэхнікі па будаўнічых матар'ялах, а таксама па ткацкаму вытворству, якое ў нас цалкам адсутнічае.

На гэта патрэбна зьвярнуць належную ўвагу.

**Пайнік № 309481**

# Што павялічвае чаргу

Каля кожнай крамы заўсёды хоць невялічкую можна бачыць чаргу. Чарга ўтвараеца часьцей усяго тады, калі прывозяць што-небудзь новае ў крамы. Тады ля крам ўтвараецца, як кажуць, „хвост“.

Але хто ў гэтым „хвасьце“ стаіць? Што выклікае траціць гадзіну-дзьве і больш, часамі за нязначнаю рэчай, якая каштуе некалькі капеек?

У „хвасьце“ у большасьці стаяць людзі, якія маюць у чым-небудзь неабходную патрэбу — і ім трэба што-небудзь купіць. Але часта ў чарзе стаяць і такія людзі, якім той прадукт, за якім яны стаяць, амаль што непатрэбен. Калі ён ім і будзе патрэбен для спажываньня, дык не раней як праз паўгода або і праз год. Апошнія не шкадуюць страціць гадзіну-дзьве каб купіць якую-небудзь рэч і палажыць яе надалей. Можна было-б падаць шэраг фактаў, што есьць хатнія гаспадыні, якія робяць запасік, складаюць за печкаю мыла, якія хаваюць у скрынях паркаль і іншыя дэфіцытныя тавары. Мала гэтага, гэтыя гаспадыні яшчэ падымаюць сярод другіх паніку, кажуць: „ідзеце-купляйце, прывезьлі тое і тое. Скарэй, бо ня будзе.

Праўда, тут можна сказаць, што даюць усё па кніжках. Гэта так. Але-ж часамі тое, што выдаецца і па кніжцы ў той час не спажываецца, а кладзецца ў запасік. Акрамя гэтага, часта атрымоўваюцца тыя ці іншыя прадукты, на асоб, якіх зусім няма ў гэтым горадзе, якія месяцамі знаходзяцца ў другіх гарадох, якія толькі прыпісаліся да паявой кніжкі і едуць з гэтага гораду ў другі назаўсёды. Такіх выпадкаў ёсьць вельмі шмат. Асабліва ў летні пэрыяд.

Бывае, напрыклад, восеньню ў чыю-небудзь паявую кніжку прыпісваецца вучань, які вясной на цэлае лета едзе з гораду, або пакідае гэты горад зусім, а прадукты на гэтых асоб усёроўна нехта атрымоўвае і робіць свой запасік.

Над гэтым МЦРК павінен падумаць і гэты спосаб назапашваньня запасіку за лік „мёртвых душ“ зьнішчыць.

Спрыяе чарзе і некаторы бюрократычны падыход у часе водпуску прадуктаў да спажыўца з боку служачых крам ЦРК.

Часта заходзіш у краму купіць якую-небудзь рэч, якая каштуе некалькі капеек. Пакуль не дасі прыказчыку ў рукі чэку, ён табе ні на капейку нічога не адпусьціць. Трэба за самай нязначнай дробязьзю як карабок запалак станавіцца ў чаргу, каб атрымаць з касы чэк.

Гэта я асабліва наглядаў у магазыне № 60.

Часта некаторыя магазыны не адпушчаюць бяз чэку нават карабок запалак. Гэта бязумоўна самы звычайны бюрократызм з боку работнікаў крам. МЦРК павінен зрабіць так, каб некаторыя дробныя рэчы адпускаліся бяз усякага чэку, каб грошы за іх браў адразу прыказчык.

Мне здаецца, што можна было-б вынесьці такую пастанову, што рэчы не даражэй 10 капеек можна атрымоўваць бяз чэку за грошы ад прыказчыка.

Гэта мерапрыемства, бязумоўна зьменшыць чаргу, і над гэтым МЦРК, павінен падумаць.

Аўрунін

# Гісторыя аднаго ліміту

Усім вядома, што саматужная каапэрацыя першая перайшла на крэдытную рэформу. Праўда, пераход быў раптоўны, без усякае падрыхтоўкі. Зразумела, што ўсе надзеі былі на тое, што саматужная каапэрацыя лепш працуе плянава, і такім чынам спроба зроблена з адпаведнае сыстэмы.

На працягу 4 месяцаў, з 1 красавіка, усе ўстановы павінны былі перайсьці на наяўныя разьлікі. Цікава, у якім становішчы была саматужная каапэрацыя у той час? Быццам ўсё ўжо ўпарадкавана, пляны складаюцца, ліміты зацьвярджаюцца, і толькі працуйце над выкананьнем плянаў.

І вось цікава спыніцца на гісторыі аднаго ліміту. Гомельскі Сампрамсаюз, які больш менш працуе плянава, склаў заяву на ліміт III квартал 7 лютага. Плян складзены на звароты 2436 т. р. пры скарыстаньні сыравіны на 1513 т. р. і па складзенаму пляну патрэбен быў ліміт 847 т. р. Гэта заява прадугледжвала разьлік з крэдыторамі і іншыя выдаткі. Заява разгледжана мясцовым аддзяленьнем Дзяржбанку, Акрплянам і зьменшана да 810 т. р.

З пачатку сакавіка з цэнтру прысланы новыя формы, якія патрабавалі складаньня новых плянаў.

І вось тут пачынаецца гісторыя гэтага ліміту. Менск зацьвердзіў ліміт у 700 т. р, г. з. зьменшыў супроць завінавачанасьці на 1 красавіка на 157 т. р. альбо на 20 проц. пры павялічэньні зваротаў. Калі саюз зьвярнуўся да БКПС і Белкантоpы Дзяржбанку, даводзячы, што гэта няжыцьцёва, ліміт быў павялічан да 775 т. р., між тым як па загаду праўленьня Дзяржбанку з Масквы прапанавана, каб саматужнай капэрацыі зьменшыць завінавачанасьць пры магчымасьці ня больш 5 проц. супроць 1 красавіка. Такім чынам належыць Гомсапрамсаюзу ліміт 812 т. р.

Праз некалькі тыдняў атрымоўваецца паведамленьне, што апэрацыйны плян Гомсаюзу павінен быць ня ў 2400 т. р. а ў 3000 т. р., павялічэньне на 25 проц. пры атрыманьні сыравіны на 1900 т. р. А ліміт не павялічваецца. Тады раптоўна атрымоўваецца загад па лініі БКПС і Дзяржбанку, што ліміт павялічваецца да 900 тысяч з умовай, каб павялічыць загатоўку асмола на 102 тысячы і па будаўніцтву на 30.000 руб., г. зн. фактычна ліміт па апэрацыйнай дзейнасьці бягучага кварталу ўжо налічваецца ў 768 тысяч рублёў.

Бясспрэчна, гэтакая недарэчнасьць адбіваецца на нармальнай грашовай дзейнасьці саюзу і на ўсёй працы.

Разам з гэтым саюз атрымоўвае загад аб перавыкананьні плянаў, і плян ў 30.000 руб. перавыконвае на 20 проц; разам з тым саюз сігналізуе БКПС і Дзяржбанк, што ліміт вельмі патрэбен, які па праву яму належыць дзякуючы яго апэрацыйнай працы, але ўсе яго звароты да свайго цэнтру і да банку нічога рэальнага ня далі.

Цікава, што мясцовыя ўсе ўстановы якія сваячасова пераглядалі ліміты, зацьвярджалі і хадайнічалі, каб іх не зьмяншаць, аднак становішча засталося ранейшым.

Такая валакіта не дае магчымасьці нармальна працаваць. Трэба сваячасова прадугледзець патрэбныя сродкі на наступны пэрыяд апэрацыйнае працы.

A. C.

## Уборка на носе, а каапэрацця сьпіць

*(Лубяны, Магілеўскае акругі).*

Праўленьне Бялыніцкага спаж. т-ва да ўборачнай кампаніі зусім не падрыхтавалася. Ва ўсіх аддзяленьнях гэтага таварыства цяжка знайсьці касу альбо серп. Толькі ў адным аддзяленьні Масіна было некалькі леташніх кос, якія сяляне расхапілі ў адзін дзень.

У косах патрэба вельмі вялікая. Сяляне едуць 20—30 кілёмэтраў у другую каапэрацыю шукаць кос.

З свайго таварыства сяляне дзівяцца і кажуць: „няўжо для Крыўлянскага т-ва другія правы, што там кос колькі хочаш, а ў нас няма.

Правы для кожнага таварыства, бязумоўна, аднолькавыя, але неаднолькавыя ў кожным таварыстве праўленьні. Усе т-вы падрыхтаваліся да ўборачнай кампаніі, а старшыня Бяланіцкага таварыства ўсе гэта праспаў.




A. C.

## Горшыя і лепшыя

*(Бялыніцкі раён, Магілёўшчына)*




У вёсцыІлькавічы ёсьць аддзяленьне Бялыніцкай каапэрацыі. Прадаўцом у гэтай краме—былы чырвонаармеец Маслоўскі. Ён вельмі добра працуе і наглядае за працай іншых.

Дапамагае яму ў працы Гурвіч Ён жа кіруе загатоўчым пунктам Але ён працуе ўжо зусім інакш.

Калі Гурвіч скупляе сыравіну ці жывёлу, дык ён на рынку сустракае і горшых і лепшых: адным дае адну цану, а другім другую цану за той жа самы тавар. Наогул Гурвіч любіць чамусьці гандляваццa. Адкуль у яго такая прывычка, не вядома. Але сяляне з гэтага падыходу да загатоўкі дзівяцца.

Селькор

## У сталоўцы бруд

Пры Капаткевіцкім спажыўтаварыстве ёсьць сталоўка. Сталоўка наогул працуе нядрэнна і абслугоўвае шмат працоўных, але адзін недахоп у сталоўцы, што калі ні зойдзеш, дык у сталоўцы вельмі брудна: не заўсёды падмятаецца падлога. Брудныя сталы. Шмат мух, ад якіх не хаваюцца прадукты, што, бязумоўна, не гігіенічна.

---

А. Стойкі

## Праца з беднатой не вядзецца

*(Бялыніцкі раён, Магілеўшчына)*

У Лынькоўскай краме, аддзяленьні Бялыніцкага спажтаварыства, фактычна зусім няма групы беднаты, а калі існуе такая група, дык яна напэўна існуе толькі на паперы, бо працу сярод беднаты ніхто не вядзе.

Уся каапэрацыйная праца аддзяленьнем праводзіцца агульна з усімі сялянамі. Асобна з беднатой ніякія каапэрацыйныя пытаньні не абгаварваюцца. У далейшым на гэта трэба зьвярнуць належную ўвагу. Бо каапэрацыя ня толькі павінна гандляваць, а і весьці адпаведную грамадзкую працу сярод сваіх пайнікаў.

---

М. Бялевіч

## Забыліся на індывідуальніка

*(Бабруйская акруга)*

Калі аглядала рэўкамісія нізоўку, дык выявілася, што індывідуальны сэктар гаспадаркі зусім не забясьпечваецца прадуктамі прамысловасьці.

Выключная ўвага аддаецца калгасніку, а сялян-беднякоў і батракоў зусім забыліся забясьпечваць, ніхто не адмаўляе, што трэба забясьпечваць калгасы, але на індывідуальны сэктар ня трэба забываца. Гэта асабліва наглядаецца ў Любаньскім і Стрэшанскім таварыствах. Прыкладам, калі сялянка прынясе на 46 кап. рызьзя, не на 50 кап., дык і за даплату ёй не даюць нітак.

Часамі дэфіцытныя тавары дзеляць праказчыкі па свайму пагляду бяз ведама нават праўленьня.

Гэтую памылку спажывецкія таварыствы Бабруйскае акругі павінны выправіць неадкладна.

---

# Сваяцтва заядае

(*Чарэйскі раён, Аршаншчына*)

У Абчускай спажывецкай каапэрацыі моцна заселі сваякі. Бясспрэчна, што яны маюць ад гэтага добрую карысьць. Дэфіцытныя тавары разьмяркоўваюць паміж сабой як хочуць і даюць па знаёмству як хочуць.

Хто-ж гэта такі?

Мэйся Цырульнік — нарыхтоўшчык, Мэйся Аронаў ў праўленьні і Учарэі старшыня праўленьня іх крэўны родны.

Спажыўцы вельмі абураны такім фактам і просяць іх неадкладна вычысьціць.



# Бібліографія

**Л. Градзянскі. „Што такое безграшовыя разьлікі" БДВ. Менск. 1930 год** — *Цана 5 коп.*

Індустрыялізацыя краіны паставіла пытаньне аб грашовых захаваньнях. Касы ашчаднасьці зьяўляюцца тымі ячэйкамі, якія будуць праводзіць ідэю безграшовых разьлікаў.

Ідэя безграшовых разьлікаў вельмі актуальная і карысная. Так званыя жыро-рахункі аблягчаць нагрузку проц. ў сэнсе аплаты розных асабстых выдаткаў, таксама захоўваюць для дзяржавы сродкі і зэканомяць час.

Кніжачка Градзянскага зьяўляецца добрым растлумачальным дапаможнікам самога сэнсу жыро-рахункаў. Напісана яна зразумела з канкрэтнымі прыкладамі рахункаў і таксама з мэтавай палітычнай устаноўкай.

Кожны, хто захоча зразумець справу безграшовых разьлікаў і якая ад яе карысьць, знойдзе адказ у кніжцы Градзянскага, бо яна разьлічана на шырокага чытача і напісана досыць папулярна.

**Р. Клячкін.**

---

**„Камсамол за сілас". Вясковы сэктар ЦК ЛКСМБ БДВ. Менск. 1930 год** — *Цана 5 кап.*

Студзеньскі пленум ЦК КПБ паставіў перад краінай баявую задачу — паляпшэньня жывёлагадоўлі, як па лініі павялічэньня колькасьці, так і па паляпшэньню якасьці.

Жывёлагадоўлі ў БССР займае вялікае месца. Напрыклад, у 1927-30 годзе валавая прадукцыя жывёлагадоўлі складала 33 проц. ад агульнай валавой прадукцыі ад ўсяе сельскай гаспадаркі. Але тут пытаньне ўпіраецца ў харч. Дзе ўзяць харч, каб карова наша давала не дзевяцьсот літраў малака ў год, а хацяб дзьве тысячы шэсцьсот дваццаць, як у Даніі. Адным з выхадаў у кармавым становішчы зьяўляецца сіласаваньне ЦК ЛКСМБ паставіў у абавязак кожнай вясковай ячэйцы, каб яна мела 30 сіласных ям.

Кніжачка „Камсамол за сілас" зьяўляецца для камсамольца першым элемэнтарным падручнікам, які дае яму веды адносна стварэньняў сіласных ям і аб сіласаваньні нагогул. У ёй знаходзіцца пастанова ЦК камсамолу, за тым адчынены ліст Наркамзему БССР да камсамолу.

Недахоп кніжкі, што яна пісалася насьпех, дрэнна выдадзена і дужа сьціскла напісана.

**Ч. Іонаў.**

---

**А. Іванова. „Сьвіньня—скарбонка гаспадыні". БДВ. Менск. 1930 г.** — *Цана 7 кап.*

Даўно ужо вядома, што сьвіньня—скарбонка гаспадыні, гаспадара і, больш таго, нават дзяржавы. Пры сучасным мясным недахопе зьвернута асаблівая ўвага на гадоўлю і адкорм сьвіней.

Іванава, напісаўшы рэцэнзуемую намі брашурку ў 22 старонкі, дае ў ёй характарыстыку сьвіных парод, кармленьня сьвіней і гадаваньня. Але-ж гэтага мала. З гэтага надзвычайна мала можна ўзяць. Што ангельская парода—добрая і што добра карміць сьвіней рознымі гатункамі мукі, пачынаючы ад гарохавай і канчаючы ячменнай,—гэта для ўсіх зразумела.

Як наладзіць масавую жывёлагадоўлю, пашырыць пароду ангельскіх сьвіней, як калектыўна праз дапамогу каапэрацыі у калгасах і арцелях і спэцыяльных сьвінарніках наладзіць справу, гэтага няма. З гэтага боку кніжачка Івановай ня мае дастатковае каштоўнасьці. Сухое пералічэньне хутчэй мэдыцынскіх парад чым пастаноўка самай справы гадоўлі сьвіней.

Кніжачка разьлічана выключна на індывідуальны адкорм. Таксама ў кніжачцы нічога ня сказана пра адкорм сьвіней.

У сэнсе сьвінагадоўлі кніжачка зусім мала чаго можа даць, асабліва калгасьнікам.

**Антонаў,**

**Сяргей Кудзінаў. „Новыя ільготы калгасам". БДВ. Менск. 1930 г.**—*Цана 7 кап.*

Брашура Кудзінава значнае месца аддае крытыцы памылак, якія былі дапушчаны ў час веснавой пасеўнай кампаніі. Але гэтым тэма брашуры ня вычэрпваецца. Як відаць з самаго загалоўку, справа ідзе аб ільготах калгасам. Кудзінаў добрасумленна аднесся да сваёй працы. Ён не абмяжаваўся агульнымі разважаньнямі. Ён канкрэтна разабраў пастановы. Даў канкрэтныя прыклады, як дапасаваць гэтыя ільготы, як падлічаць падатак.

Брашура бязумоўна мае сваю каштоўнасьць. Калі чытач будзе з ёй знаёміцца ён хутка разьбярэцца ў новых законах.

Кніжка з гэтага боку каштоўна.

У кніжачцы зьмешчаны пастановы ўраду аб ільготах. Напісана простаю і зразумелаю моваю. Цана паводле памеру кніжкі танная.

**К. А.**

---

**С. Такмачоў—Увага жывелагадоўлі. Выданьне БДВ. Стар. 40.** *Цана 8 каап. Тыраж 25.000 экз.*

Сучасныя цяжкасьці на мясным фронце, якія стварыліся дзякуючы бязьлітаснаму зьнішчэньню жывёлы перад вясеньняй сяўбой, прымушае нас зараз асабліва уважліва аднесьціся да пытаньня жывёлагадоўлі.

Аўтар рэцэнзуемай кніжачкі падзяляе ўсю жывёлагадоўлю на тры віды: гадоўля малочнай жывёлы, гадоўля сьвіней і ў абарону аўчарства.

Разглядаючы кожны аддзел у паасобку аўтар дае цэлы шэраг практычных прапаноў па кожнаму віду, але больш ўсяго ўдзелена ўвагі аддзелу „гадоўля малочнай жывелы". Тут разглядаюцца ўсе магчымасьці разьвіцьця жывёлагадоўлі на Беларусі, адшуканьне корму і разьвядзеньне пароды.

Спыняючыся на гадоўлі сьвіней С. Такмачоў зазначае аб тэй вялікай ролі сьвінаводзтва, якую яна дае ў агульнай прадукцыі усёй жывелагадоўлі. У 1927-28 годзе прадукцыя сьвінагодоўлі складала 37,5 проц. ў агульнай прадукцыі жывелагодоўлі, або 107,2 міліён. руб.

У аддзеле „ў абарону аўчарства" зазначаецца на неправільны погляд некаторых працаўнікоў аб ліквідацыі авец з грубаю воўнаю, у сувязі з калектывізацыяй. Аўтар даводзіць выгаднасьць авечкі, асабліва у бліжэйшыя гады.

Кніжачка напісана досыць сьцісла, але папулярна.

**А. С—кі.**

---

**У. Стракоўскі—На шляхох электрыфікацыі БССР. Выданьне БДВ. Стар. 36.** *Цана 10 кап. Тыраж 7.000 экз.*

Камунізм ёсьць савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны, бо без электрыфікацыі ўзьняць прамысловасьць „немагчыма" — так характарызаваў т. Ленін задачы, якія стаялі перад рабочай клясай у канцы 1920 году.

Зусім зразумела, што цяпер, калі краіна Саветаў гіганцкімі крокамі ідзе па шляху індустрыялізацыі і калектывізацыі сельскае гаспадаркі, электрыфікацыя зьяўляецца адным з асноўных момантаў гаспадарчага пляну.

БССР мае шырокія магчымасьці скарыстаньня торфу для электроэнэргіі, што і адзначаецца ў кніжцы. У пляне пяцігодкі прадбачыцца досыць значнае павялічэньне вытворчасьці электраэнэргіі у БССР.

Так, да 1913 г. выпрацоўвалася на душу насельніцтва электраэнэргіі 0,9 клв. гадзін у год, у 1927 г.—5,6 клв гадзін, а ў 1933 г.—40 клв. гадзін, а таксама пабудаваньне цэлага шэрагу новых электрастанцый.

Амаль ўся кніжачка прысьвячана апісаньню Асінаўскае электрастанцыі імя тав. Сталіна, з некаторымі канкрэтнымі дадзенымі.

Кніжка дасьць магчымасьць чытачу азнаёміцца з будаўніцтвам па электраэнэргіі у БССР і тымі пэрспэктывамі, якія прадугледжваюцца па пляну пяцігодкі.

**С. А—р.**

---

*Рэдакцыйная калегія—Рэдактар* **Гинзбург**
*Выдавец:*—**Белкаапсаюз і Белсампрамсаюз**